Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 28 (4674) 13 ліпеня 2012 г.

*Думка пісьменніка*

## Піярыць літаратурную спадчыну



Калісьці Гродзенскае культурна-асветнае вучылішча, затым вучылішча культуры насіла імя выдатнай пісьменніцы і дзяячкі з Лідскага павета Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Пры чарговым пераўтварэнні навучальнай установы ў каледж мастацтваў імя гэтае неяк незаўважна сцерлася. Мне гэты факт баліць і дагэтуль, як баліць і тое, што нашы дзеці вельмі позна пачынаюць знаёміцца з беларускімі пісьменнікамі, ды, у асноўным, у школе. Мне баліць, калі сёння маладыя людзі, на жаль, у большасці сваёй, не цікавяцца айчыннай літаратурай, з трох, як кажуць, разоў згадваюць імёны вядомых пісьменнікаў. Чыя віна? Ды наша, наша. Таму пісьменніцкай арганізацыі трэба яшчэ больш мэтанакіравана (і не толькі ў Год кнігі) ладзіць працу так, каб не толькі сябе, таленавітых, папулярызаваць, а ў першую чаргу "піярыць", у самым лепшым значэнні гэтага слова, літаратурную спадчыну беларусаў. І тады нам не будзе сорамна і балюча за нашчадкаў.

Яшчэ мне вельмі крыўдна за тое, што адбываецца на нашай эстрадзе, асабліва ў песенным жанры. Лічу, што маю права пра гэта разважаць таму, што ўсё жыццё займаюся літаратурай і музыкай, пільна сачу за працэсамі, якія адбываюцца там. Магу выказаць прэтэнзію да беларускіх шоуменаў: куды падзеліся самабытнасць беларуская, інтанацыйныя і гарманічныя традыцыі, меладычнасць… Суцэльнае наследаванне, перайманне, падстройванне пад густы тых, хто ой як далёка ад мастацтва! Што рабіць? У першую чаргу, дапусціць да новых праектаў, няхай спачатку і не надта адказных і высокаўзроўневых, маладыя творчыя сілы, прыслухацца да голасу сучасных прафесіяналаў і якраз ужо не надта маладога пакалення, больш адказна і густоўна падбіраць творы і выканаўцаў — тэксты і музыку. Не кажу ўжо пра выгляд выканаўцаў. Хачу запэўніць, што ні ў якім разе не выступаю за далёкую мінуўшчыну, народную аўтэнтычнасць, старамоднасць і г.д. Я за тое, каб нашы беларускія спевакі і выглядалі сучасна, і мелі ў рэпертуары самыя сучасныя творы, але заставаліся беларускімі, пазнавальнымі з першага выхаду, з першага гуку! Я веру, ведаю, упэўнена, што ёсць у нас людзі, здольныя стварыць і ажыццявіць такія праекты, (знайшлі ж многія ўжо сучасныя беларускія пісьменнікі і тэмы, і стыль, кожны свой, адметны!), каб заняло пачуццём гонару і радасці за нашу культуру, за ўсіх нас, каб зашчымела душа кожнага шчасцем і доўгачаканым уздыхам палёгкі — нарэшце!

**Людміла КЕБІЧ**

# Музыка віцебскіх вуліц

## Учора ўрачыста адкрыўся XXI Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску".

Арцём КУМЕЛЬСКІХ,
фота Віктара Кавалёва

**Аматары канкрэтных лічбаў наўрад ці даведаюцца дакладна, колькі гасцей — спевакоў, танцораў, музыкантаў і артменеджараў, прадстаўнікоў маладзёжных субкультур і майстроў народнай творчасці, дзеячаў тэатра і кіно, літаратараў і мастакоў дый проста гледачоў — прыме сёлета фестывальны Віцебск. Якія тут падлікі, калі ўжо за два дні да афіцыйнага пачатку свята адбыліся першыя шоу ўдзельнікаў "Славянскага базару" і выступленні гасцей працягнуцца нават пасля таго, як аціхне рэха фінальнага гала-канцэрта ў Летнім амфітэатры!**

За цырымоніяй адкрыцця свята мастацтваў маглі назіраць мільёны тэлегледачоў па ўсёй Беларусі ды за яе межамі. Ва ўзнёслай атмасферы Летняга амфітэатра прайшло і ўрачыстае ганараванне новых лаўрэатаў прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва — народнага мастака Беларусі Георгія Паплаўскага ды расійскага паэта Глеба Гарбоўскага. А на сёння запланавана творчая сустрэча з імі ў віцебскім Доме кіно. Дарэчы, лейтматыў беларуска-расійскага творчага супрацоўніцтва і сяброўства гучыць у многіх фестывальных праграмах. Прыкладам — канцэрт, прысвечаны 75-годдзю славутага Ансамбля народнага танца, які носіць імя свайго легендарнага стваральніка Ігара Майсеева. Днямі выступленне гэтага калектыву, які быў ля вытокаў "Славянскага базару ў Віцебску", адбылося ў сталіцы Беларусі, учора ён браў удзел у адкрыцці фестывалю, а яго сённяшняя юбілейная імпрэза ладзіцца ў межах Дня культуры Расіі і прадстаўляе творы І. Майсеева, якія лічацца сусветнай класікай сцэнічнага народнага танца. У іх ліку — і харэаграфічная кампазіцыя на музыку беларускай "Бульбы", якую паўсюль прымаюць "на ўра". Апроч яе ў рэпертуары ансамбля і нашы "Крыжачок", "Лявоніха", "Юрачка". А яўрэйскія танцы сюіты "Сямейныя радасці" ствараліся не без уплыву віцебскіх вобразаў Марка Шагала.

Традыцыйны фестывальны Дзень Саюзнай дзяржавы, які прыпадае на нядзелю, будзе багаты на падзеі: вернісажы, творчыя сустрэчы, прэзентацыі кніг і СМІ, дзіцячае свята... І ніводная імпрэза не абыдзецца без папулярнай музыкі. Чакае публіка і канцэрт майстроў мастацтваў дзвюх краін (падчас якога, дарэчы, выдатным дзеячам будуць уручацца дыпломы за развіццё культурных сувязей Беларусі і Расіі). І вечаровую праграму Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам лаўрэата прэміі Саюзнай дзяржавы Міхаіла Фінберга.



Назва канцэрта "Нам 25! Усё пачынаецца спачатку" нагадвае пра сёлетнюю знамянальную дату ў біяграфіі заслужанага калектыву. А ўдзел у яго праграме артыстаў з Расіі ўспрымаецца як працяг даўніх і плённых двухбаковых творчых сувязей.

Нязменны ўдзельнік міжнароднага фэсту мастацтваў у горадзе на Дзвіне, аркестр пад кіраўніцтвам маэстра М. Фінберга сёлета зноў працуе з удзельнікамі Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні. У яго жывым суправаджэнні маладыя канкурсанты (21 спявак з 21 дзяржавы) выступяць у другім туры — заўтра, і журы, якое ўзначальвае знаны расійскі кампазітар Максім Дунаеўскі, пачне падсумоўваць адзнакі...

Заўтра ж на сцэне Летняга амфітэатра адбудзецца і канцэрт майстроў мастацтваў нашай краіны, бо субота на фестывалі — Дзень Рэспублікі Беларусь. А ў яго межах на самай вялікай плошчы Віцебска распачнецца II міжнародны маладзёжны фестываль "Агонь танца-2012" (праект БРСМ).

Такім чынам, субота ды нядзеля, як і вядзецца, будуць незалежна ад надвор'я самымі гарачымі, "базарнымі" днямі. А вось у панядзелак чакаецца новая хваля конкурсных перажыванняў: стартуе міжнародны дзіцячы музычны конкурс "Віцебск–2012". У дзясятым па ліку спаборніцтве юных спевакоў удзельнічае 21 выканаўца.

З першых дзён фестывалю ладзяцца выбітныя музычныя праекты ў Віцебскай абласной філармоніі (чаго варты, напрыклад, заўтрашні канцэрт салістаў Маскоўскага музычнага тэатра "Геликон-Опера"!), "Тэатральныя сустрэчы" на сцэне НАДТ імя Якуба Коласа (паказы спектакляў з Расіі, Латвіі і інш.), міжнародная праграма ў Доме кіно, працуюць самыя розныя выстаўкі, віруе творчае жыццё ў "Горадзе майстроў"...

Заключны акорд "Славянскага базару ў Віцебску" прагучыць 18 ліпеня.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Карэна Шахназарава з 60-годдзем. “Вы — выдатны рэжысёр нашага часу, чыя творчасць скарае асаблівым духам унутранай свабоды, мудрым, філасофскім поглядам на жыццё і шчырым гуманізмам”, — сказана ў віншаванні.

✔ Памяць Янкі Купалы была ўшанавана ў Маскве. У дзень 130-гадовага юбілею народнага паэта Беларусі да яго помніка на Кутузаўскім праспекце прыйшлі дзясяткі масквічоў — прыхільнікаў таленту вялікага песняра. Кветкі да помніка ўсклалі таксама прадстаўнікі культурнай аўтаноміі “Беларусы Масквы” і беларуская дыпламаты.

✔ Дыпламаты з Беларусі і беларуская дыяспара ўсклалі кветкі да помніка Янку Купалу ў Нью-Ёрку. У акцыі ўдзельнічалі прадстаўнікі Пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі пры ААН, Генеральнага консульства Беларусі ў Нью-Ёрку, Міністэрства замежных спраў Беларусі.

✔ У межах міжнароднага праекта “Даўгаўпілс і Віцебск: культурнае супрацоўніцтва і развіццё” ў святкаванні Купалля ў Віцебску ўзялі ўдзел латвійскія музычныя калектывы Цэнтра латышскай культуры Даўгаўпілса: фальклорная група песні і танца “Сватра”, дзіцячая вакальная студыя “Перлітас” і група прафесійнага аркестра духавых інструментаў “Даўгава”. Адкрываючы святочныя мерапрыемствы ў Віцебску, латышы представілі віцяблянам лепшыя свае канцэртныя нумары на сцэне комплексу культурна-масавага адпачынку імя Савецкай Арміі.

✔ Фэст у гонар славутага цудадзейнага абраза Маці Божай Будслаўскай, дзеля якога ў Будслаў з’ехалася каля 30 тысяч католікаў з Беларусі, Польшчы і Расіі, прайшоў у гэтым годзе пад дэвізам “Марыя — Маці Збаўцы”. Удзел у ім узялі апостальскі нунцый Клаўдыё Гуджэроці і вышэйшыя іерархі каталіцкага касцёла Беларусі. “Будслаўскі фэст” стаў своеасаблівай рэпетыцыяй святкавання 400-гадовага юбілею святыні, якое адбудзецца ў 2013 годзе.

✔ Літаратурная акцыя “130 прысвячэнняў Песняру”, падрыхтаваная да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, прайшла ў Гомелі на набярэжнай ракі Сож у рамках правядзення народнага абрадавага свята “Купалле”. На імправізаванай літаратурнай пляцоўцы кожны жадаючы мог прадэкламаваць творы беларускіх класікаў ці свае, прысвечаныя Купалу і Коласу.

✔ Галерэя мастака Юдаля Пэна будзе аднаўлена ў Віцебску. Яна размесціцца ў будынку былой яўрэйскай школы — помніку архітэктуры на вуліцы Калініна. Суседні будынак, які таксама з’яўляецца архітэктурна-гістарычнай каштоўнасцю, будзе перададзены музею Марка Шагала для размяшчэння ў ім арт-цэнтра.

✔ Узорная вакальная студыя “Нюанс” Гомельскай дзіцячай школы мастацтваў № 6 у намінацыі “Ансамблі і шоу-групы” заваявала Гран-пры міжнароднага фестывалю эстраднай творчасці “Зорны Крым”, які праходзіў у Лівадыі. Васіліна Саракалетава, Алеся Согіна і Ксенія Ярашэнка скарылі журы і гледачоў пранікнёным выкананнем песень беларускіх аўтараў.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Далягляды творцаў

**Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, у склад якога ўваходзяць больш як 50 паэтаў, празаікаў, публіцыстаў, цесна супрацоўнічае з рэгіянальнай журналісцкай арганізацыяй. У прыватнасці, ладзіцца супольная акцыя па ўшанаванні сёлетніх юбілеяў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка “Шляхамі паэтаў”. На старонках “Мінскай праўды” выходзіць тэматычны выпуск твораў пісьменнікаў Міншчыны “Далягляды”.**

**Сяргей ШЫЧКО**

Днямі ад імя грамадскай арганізацыі, усіх калег па творчым цэху кветкі да помніка на магіле народнаму песняру Янку Купалу на Вайсковых могілках беларускай сталіцы ўсклалі прадстаўнікі аддзялення Алесь Карлюкевіч, Анатоль Смалянка і Уладзімір Ласенка, а таксама кіраўнік Мінскай абласной арганізацыі Беларускага Саюза журналістаў, галоўны рэдактар газеты “Мінская праўда” Мікалай Літвінаў, намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення БСЖ Сяргей Грыб. Літаратары і журналісты ўсклалі кветкі і да помніка народнаму песняру ў Купалаўскім скверы.

— На мой погляд, юбілей класіка нацыянальнай літаратуры — адметнае свята для ўсіх творчых людзей, — заўважыў з гэтай нагоды Анатоль Смалянка. — Якраз у такія дні падсумоўваеш зробленае, аглядаеш творчасць калег. Прыемна, што ў склад нашага аддзялення ўваходзяць такія знакавыя асобы ў літаратурным жыцці Міншчыны, як паэтэса з Валожына Валянціна Гіруць-Русакевіч, празаікі з Уздзеншчыны Васіль Гурскі, Дзмітрый Вінаградаў, паэт з Любані Іван Муравейка, публіцыст з Мядзеля Павел Жукаў, сапраўдны коласазнаўца з Мар’інай Горкі Браніслаў Зубкоўскі і шмат хто яшчэ. Асабіста ў маю душу, маё сэрца Купала ўвайшоў яшчэ ў школьныя гады. Многія яго вершы і паэмы, а найперш слаўны гімн еднасці народа “А хто там ідзе?”, які яшчэ на пачатку купалаўскай дарогі ў шырокі свет пераклаў на рускую мову Максім Горкі, — гэта фундамент жыццялюбства, трываласці духу і сумлення. Купалу чытаю і сёння, лічу яго наўздзіў актуальным і сучасным. Раю ўсім углядацца ў напісанае і асветленае геніем класікаў Купалы і Коласа.

## Да 130-годдзя Янкі Купалы



*Фота БелТА*

*Галоўная пляцоўка свята ў Вязынцы.*

# Пакланіцца Паэту

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Нягледзячы на спякоту, час адпачынкаў і занятасць, ліпеньскія акцыі, прысвечаныя значнай даце ў культурным жыцці Беларусі — 130-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, сабралі вялікую колькасць людзей, якія прыйшлі аддаць даніну павагі свайму Песняру.

Шостага ліпеня ў Мінску да помніка Купалы ў суправаджэнні Роты ганаровай варты быў ускладзены вянок у гонар памяці Народнага паэта Беларусі ад імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Купалава слова гучала ў выкананні Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь, дэкламаваў яго міністр культуры нашай краіны Павел Латушка, Народны артыст СССР і Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Генадзь Аўсяннікаў, мастацкі кіраўнік Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра “Зніч” Галіна Дзягілева, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, пераможцы конкурсу чытальнікаў “З Купалам у сэрцы”.

Доказам таго, што слова Песняра не забыта, жыве, бруіцца жыватворнай крыніцай натхнення, адгукаецца ў творчасці сённяшніх літаратараў і мастакоў, стала і рэспубліканскае свята паэзіі, песні і народных рамёстваў “З адною думкаю аб шчасці Беларусі”, што прайшло 7 ліпеня ў Купалаўскім мемарыяльным запаведніку “Вязынка”. Да яго арганізацыі мясцовыя ўлады падрыхтаваліся старанна, улічваючы ўсё: пачынаючы з аднаўленай экспазіцыі філіяла музея, цікавай і разнастайнай праграмы свята да арганізацыі зручнай работы транспарту. (Традыцыя збірацца на малой радзіме паэта ў дзень яго нараджэння налічвае ўжо сорак гадоў.)

Сёлета прыхільнікаў творчасці класіка на галоўнай пляцоўцы чакала канцэртная праграма “Малюся я небу, зямлі і прастору…” з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага хору Беларусі імя Г. І. Цітовіча, артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы і Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, прадстаўнікоў Саюза пісьменнікаў Беларусі, вядомых спевакоў, Беларускага дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі “Свята”, фальклорных калектываў сталічных ВНУ “Неруш”, “Грамніцы”, “Талака”. На іншай пляцоўцы гледачам прапанавалі літаратурна-музычную праграму “Адгукніся, душа!..”: працягвалася акцыя “Чытаем Купалу разам”, выступалі беларускія літаратары (кнігі многіх з іх можна было набыць у Вязынцы і атрымаць аўтограф), і нават па-японску вершы Янкі Купалы дэкламавала супрацоўніца 5-й дзіцячай бібліятэкі Масако Тацумі.

Выступалі фіналісты конкурсу аўтарскай песні “Купалаўскія вакацыі”, сярод арганізатараў якога — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, Маладзечанскі раённы выканаўчы камітэт, Цэнтральны камітэт Беларускага прафсаюза работнікаў культуры і інш. Скарылі сэрцы публікі аматарскія фальклорныя калектывы Мінска і Маладзечанскага раёна.

Кранулі выстаўкі мадэлей самалётаў удзельнікаў конкурсу творчых работ “Мара” (паводле верша Янкі Купалы “Хлопчык і лётчык”) і дзіцячага малюнка “Дзеці Дона малююць Беларусь”.

Нельга не пагадзіцца са словамі Паўла Латушкі: “Для нашай культуры Купала — гэта беларускі Шэкспір, беларускі Пушкін, беларускі Тарас Шаўчэнка. Дзякуючы яго творчасці Беларусь ведаюць у многіх краінах свету”. Сведчаннем таму мноства людзей, якія палічылі ганаровым абавязкам наведаць Вязынку ў юбілей класіка.

## За падзеяй

# Александрыя і яе сябры

**У Шклоўскім раёне прайшоў святочны фэст “Александрыя збірае сяброў. Купалле-2012”. Ён паспеў ужо набыць вялікую папулярнасць і сёлета праходзіў у статусе міжнароднага — удзел у ім бралі народныя майстры і артысты з Украіны і Расіі. Як і ў мінулым годзе, сярод ганаровых гасцей свята — Прэзідэнт Беларусі.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

Дзіўная папараць з лямцу, аб’ёмная, бухматая, “углядалася” ў твары тых, хто праходзіў міма. Як такую не купіць! І вось ужо вясёлы юнак дастае грошы — не інакай, дзяўчыне сваёй кветку падорыць! На шчасце!

— Вы ведаеце, — дзеліцца ўражаннямі дзядок у нацыянальнай кашулі, — адсюль, з Александрыі, самыя прыгожыя папараці прывязюць. У мінулым годзе знаёмы такое шыкоўнае саламянае дзіва прыдбаў!

Стракаты і вясёлы Горад майстроў разгарнуўся на беразе Дняпра ў выглядзе галоўнага купальскага сімвала — Сонца. Цэнтрам рукатворнага “свяціла” была акруглая пляцоўка, на якой, змяняючы адзін другога, выступалі творчыя калектывы Магілёўшчыны. Ад яе ў розныя бакі разыходзіліся промні-вуліцы: ткачоў, ганчароў, вышывальшчыц, вуліца беларускага абраду, вуліца свята бульбы, хлеба, кукурузы, агуркоў, кветак, купальскіх вянкоў… Праводзіліся майстар-класы, прапаноўваліся неверагодна смачныя пачастункі, вясёлыя артысты з жартамі і песнямі далучалі да гульняў і віктарын, уводзілі ў таямнічы свет купальскай казкі, славянскай міфалогіі.

Шырока адзначаючы народныя святы, “мы выбудоўваем мост традыцый, тых, якія гістарычна і культурна зыходзяць з глыбіні стагоддзяў і якія адраджаюцца сёння... Наш абавязак перад будучымі пакаленнямі — захаванне і развіццё гэтых традыцый, абавязковая перадача іх дзецям”, — заўважыў прысутны на свяце міністр культуры Беларусі Павел Латушка.

Канцэртна-відовішчная частка свята ў Александрыі ўключала забавы на розны густ. Грандыёзны гала-канцэрт “Славянскі карагод на Купальскім свяце”, паказальныя выступленні выхаванцаў конна-спартыўнай школы, авіяцыйнае і лазернае шоу, святочны феерверк, начное тэатралізаванае дзеянне “Купальская казка” са скокамі праз вогнішчы, пошукам папараць-кветкі ды пусканнем вяночкаў па дняпроўскіх хвалях…

У межах свята працавала кніжная выстаўка-продаж — даніна Году кнігі і 130-гадовым юбілеям беларускіх класікаў Купалы і Коласа. Непадробны інтарэс гасцей свята натхняў — беларусы па-ранейшаму людзі кніжныя, а значыць, і разважліва-мудрыя.

*Літабсягі*

# Дружба на ўсё жыццё

**Выстаўка “Мой дружа, Янка”, прысвечаная 130-годдзю нараджэння народнага паэта Беларусі — Янкі Купалы, адкрылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.**

**Дар’я ШОЦІК**

“Хтось з дому прыбег у сяло, знайшоў мяне і сказаў мне тры словы: “Прыехаў Янка Купала”. Гэтыя словы мяне радасна ўсхвалявалі. Быў ужо даволі позні жніўеньскі вечар. Я жыва раздыбаў кварту гарэлкі і борздзенька накіраваўся ў Смольню. У хаце гарэла лямпа. На лаве каля стала сядзеў малады, статны, жыццярадасны хлопец з вясёлымі, крыху насмешлівымі жаўтаватакарымі вачамі. Мы павіталіся, зірнулі адно аднаму ў вочы, пацалаваліся. І ён мне і напэўна я яму паказаліся зусім не такімі, як гэта прадстаўлялі мы сабе адзін аднаго ў нашым уяўленні”, — цікавыя радкі з успамінаў Якуба Коласа пра іх першую сустрэчу.

З таго моманту і пачалося сапраўднае сяброўства двух геніяў беларускай зямлі — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Пра такія добрыя стасункі паміж імі сведчаць разнастайныя публікацыі, артыкулы, фотаздымкі, лісты. Супрацоўнікі музея падрыхтавалі прэзентацыю, якая пазнаёміла прысутных з гісторыяй сяброўства народных паэтаў.

Малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч успамінаў, як Купала з Коласам начамі абмяркоўвалі самыя розныя праблемы, якія стаяць перад народам, літаратурную творчасць. Пісьменніца, перакладчыца Раіса Баравікова ўпэўнена, што калі сябруюць два паэты, волаты — гэта асаблівае сяброўства, якое заключае ў сабе таемнасць, натхненне, музу.

— Надзвычай добразычлівыя адносіны — адметнасць не толькі ў жыцці Янкі Купалы і Якуба Коласа, іх сем’яў, але і ва ўсёй гісторыі нашай культуры, — падкрэсліў паэт, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. — Таму для сучасных пісьменнікаў іх творчасць і сяброўства з’яўляюцца добрым прыкладам для пераймання.



*Фотаальбом з дарчым надпісам Якубу Коласу ад супрацоўнікаў Літаратурнага музея Янкі Купалы ў сувязі з 40-годдзем літаратурнай дзейнасці народнага паэта (1946 г.).*

Як справядліва зазначыла навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Васіліна Міцкевіч, сваё сяброўства пісьменнікі пранеслі праз усё жыццё — разам працавалі ў “Тэрміналагічнай камісіі”, у Інбелкульце, у Акадэміі навук БССР, гулялі ў шахматы…

Прысутныя, знаёмячыся з выстаўкай, затрымліваліся ля стэнда, дзе быў змешчаны верш, прысвечаны памяці Янкі Купалы, — “Над магілаю друга”.

*Артлінія*

# «Музычная» графіка

**Сталічны Музей сучаснага выяўленчага мастацтва пры падтрымкі пасольства Рэспублікі Балгарыя ў Рэспубліцы Беларусь наладзіў выстаўку вядомага балгарскага графіка Юліяна Іярданова.**

**Ганна ЦІХАНАВА**

Часовы паверaны ў справах Рэспублікі Балгарыя ў Беларусі Івайло Іваноў адзначыў: “Нашы краіны маюць агульную моўную спадчыну, якая базіруецца на кірыліцы. А Юліян Іярданоў паказвае творы, якія могуць “прачытаць” у розных краінах свету”.

Так, яго творы добра вядомыя ў розных краінах Еўропы, у Японіі, Кітаі, ЗША. Нарэшце і мінчане, і госці сталіцы змаглі азнаёміцца з арыгіналамі гэтага майстра. Экспазіцыю склалі 175 графічных аркушаў. Дарэчы, гэта рэтраспекцыя сталася для Ю. Іярданова дваццатай персанальнай выстаўкай і самай буйной па колькасці прадстаўленых твораў. На яе адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі пасольстваў Венгрыі, Румыніі, Швейцарыі, сябры і калегі мастака, выкладчыкі і студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, друкары, калекцыянеры.

Музычную праграму вернісажу прадставілі навучэнкі гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка. Гучанне класікі ў выкананні скрыпачак удала падкрэсліла архітэктурна-музычныя вобразы ў графічных аркушах Юліяна Іярданова, складаныя алегорыі музыкі, паэзіі, міфалогіі. Часты зварот графіка да спадчыны сусветнага выяўленчага мастацтва і літаратуры сфарміраваў яркую індывідуальную вобразную мову. Не абмяжоўваючы сябе пэўнай стылістычнай манерай, звяртаючыся да інтэрпрэтацый сюррэалізму, фантастычнага рэалізму, неаготыкі і фэнтэзі, графік працуе сёння ў рэчышчы “постмадэрнавага сімвалізму”. Сімвалы палёту, крылаў, пясочнага гадзінніка, як хуткаплыннасці чалавечага жыцця, абвостранае адчуванне прасторы і часу — мабыць, найбольш характэрныя матывы, якія распрацоўвае графік у сваёй творчасці. Звяртаецца ён і да літаратурных цытат і парафразаў ва ўласным адвольным творчым перакладзе. У серыі афортаў “Памкненні”, зробленых у 1994 — 1995 гадах, у якасці назваў былі абраныя радкі з паэзіі розных аўтараў. “Плача дождж у апусцелым садзе” — фраза балгарскага паэта і мастацтвазнаўцы Багуміла Райнова, “Чалавек — дастатковая прычына” — цытата з Каліна Донкава. Асобнае месца ў творчасці займае экслібрыс, са слоў аўтара — “гэта выдатны спосаб кантактаваць з многімі людзьмі, прадстаўнікамі розных краін і культур”.

Падчас гасцявання Юліяна Іярданова ў Мінску адбылася яго творчая сустрэча з беларускімі калегамі. Абмяркоўваліся прафесійныя праблемы развіцця друкаванай графікі ў Балгарыі і Беларусі, станаўлення прафесіяналізму праз удзел у міжнародных біенале і трыенале графічнага мастацтва, праблематыка сучаснага афорту і літаграфіі.



*Графічны аркуш Юліяна Іярданова.*

Юліян Іярданоў стаў адным з пачэсных данатараў музея: 20 экслібрысаў папоўнілі калекцыю і будуць экспанавацца ў межах новага музейнага праекта — на буйной восеньскай міжнароднай выстаўцы экслібрыса, прысвечанай 15-годдзю Музея сучаснага выяўленчага мастацтва.

*Повязі*

# Агульны лёс

**Беларусь і Украіна маюць агульныя старонкі тысячагадовай гісторыі, і па праве адносіны паміж нашымі народамі называюцца братэрскімі. Усебаковаму асвятленню ўкраінска-беларускіх стасункаў прысвечана навуковае выданне “Хроніка-2000. Україна-Білорусь”. Выдадзенае на трох мовах — украінскай, беларускай і рускай, тыражом у тысячу экзэмпляраў, яно ўбачыла свет у межах праекта “Украіна — гісторыя вялікага народа”. Аўтарамі выдання выступілі вядомыя палітычныя і навуковыя дзеячы Украіны, Беларусі, Літвы і Польшчы.**



*Навуковае выданне “Хроніка-2000. Україна-Білорусь”.*

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА, фота Уладзіслава Някрасава**

Значная для нашых краін падзея — прэзентацыя двух тамоў гэтага выдання — адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Саветнік, спецыяльны ўпаўнаважаны Прэм’ер-міністра Украіны Анатоль Таўстаухаў уручыў двухтомнік першаму намесніку дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алене Далгаполавай. Падчас прэзентацыі доктар філасофскіх навук А. Таўстаухаў прыгадаў: “Ідэя стварэння кнігі была падтрымана пасламі Украіны ў Беларусі Віктарам Ціханавым і Беларусі ва Украіне Валянцінам Вялічкам, і яе вынік стаў своеасаблівым падарункам да Дня Канстытуцыі Украіны і Дня Незалежнасці Беларусі”.

Альманах “Хроніка-2000” шмат разоў аб’ектам сваёй увагі меў культурнае ўзаемадзеянне ўкраінскага народа з народамі і дзяржавамі, аддаленымі ад украінскага этнасу геаграфічна і ментальна: Азербайджанам, Грузіяй, Ізраілем, Чэхіяй, Кітаем. Таму выданне запатрабаванае гуманітарнымі кафедрамі многіх замежных універсітэтаў. Урэшце, адзначыў А. Таўстаухаў, надышоў час прысвяціць выданне гісторыка-культурным зносінам з братняй беларускай нацыяй, з якой аб’ядноўвае не толькі тэрытарыяльная блізкасць, але і агульны шлях у складзе розных дзяржаў: Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі і Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

У межах мерапрыемства, прымеркаванага да Дня Канстытуцыі Украіны, у НББ і адбыўся ўрачысты канцэрт Нацыянальнага прэзідэнцкага аркестра і народнага фальклорнага ансамбля Украіны імя П. Бакланава “Жива вода”, у выкананні якіх прагучалі творы не толькі ўкраінскіх, але і беларускіх аўтараў.

*З-пад пяра*

➤ Дзясяты міжнародны фестываль маладзёжных аматарскіх тэатраў “Славянскае перакрыжаванне” прайшоў у Навазыбкаве, што на Браншчыне. За тры дні гледачы ўбачылі сем спектакляў. Традыцыйна перад удзельнікамі і гасцямі фестывалю выступілі і прафесійныя калектывы: Маскоўскі эксперыментальны тэатр пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча культуры Расійскай Федэрацыі, прафесара Расійскай акадэміі тэатральнага мастацтва Вячаслава Спясіўцава (ён жа ўзначальвае журы) ды Бранскі абласны драматычны тэатр імя А. К. Талстога. Гран-пры фестывалю атрымаў народны студэнцкі тэатр “Люстэрка” Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны за спектакль “Гомельскія байкі” паводле п’есы Васіля Ткачова, рэжысёр — Валянціна Вароніна. Спектакль, дарэчы, ішоў на беларускай мове. Прыемна і тое, што Аляксандр Скідан адзначаны дыпломам лаўрэата за выкананне галоўнай ролі ў гэтай пастаноўцы.

**Васіль ВОЙТКА**

➤ Мастацкая выстаўка “Страчаная Бацькаўшчына”, прысвечаная 200-годдзю пачатку вайны Напалеона з Расійскай імперыяй і ўзнаўлення Вялікага Княства Літоўскага, адкрылася ў сталічнай галерэі “Беларт”. Галоўнымі ўдзельнікамі выстаўкі сталі сябры Беларускага саюза мастакоў — Уладзімір Крукоўскі, Аляксандр Зіменка, Васіль Камароў, Фёдар Кісялёў, Мікалай Купава, Павел Татарнікаў і іншыя. Прымушаюць задумацца, захапіцца таленавітыя работы “Бітва ўланаў генерала Панятоўскага з казакамі”, “Справа пад Мірам. Чэрвень 1812 г.” Валянціна Прышкіна, “Бярэзіно” Барыса Пярвунінскіх. Гэта выстаўка яшчэ раз засведчыла, што творцы шукаюць натхненне ў гісторыі ВКЛ і беларускага народа.

**Дар’я ШОЦІК**

➤ У Магілёве на Замкавай гары сябры Таварыства беларускай мовы адзначылі 130-годдзе Янкі Купалы. Імпрэза адбылася ля знаку, усталяванага ў гонар галоўнага героя паэмы “Магіла льва” — легендарнага Машэкі. Актывісты прынеслі на Замкавую гару партрэт Купалы, усклалі кветкі. Чыталі вершы, урыўкі з паэмы “Магіла льва” ды фрагменты ўспамінаў беларускіх пісьменнікаў пра Купалу. Спявалі песні на Купалавы вершы. У 2013 годзе споўніцца 100 гадоў славутай паэме “Магіла Льва”, і пра гэта таксама згадвалася ў той дзень.

**Лізавета ВІХУРА**

➤ Будучы першы беларускі касманаўт, вучань Камароўскай сярэдняй школы Брэсцкага раёна Пётр Клімук быў яшчэ маленькім хлопчыкам, калі ў яго родных мясцінах вясковы энтузіяст Георгій Хлябцэвіч стварыў чатырохгалосы хор, які пазней стаў народным, а цяпер старэйшым у краіне. У гэтым годзе напярэдадні юбілею “беларускай легенды” Пятра Клімука калектыў вырашыў уключыць у свой рэпертуар песню, прысвечаную касманаўту, — “Шлях да зорак”. Музыку напісаў кампазітар Фёдар Мозаль на словы брэсцкага паэта Міколы Панасюка. З 70-годдзем вас, Пётр Ільіч!

**Марына КЛІМУК**

# Углядаемся ў гісторыю

**Таццяна ШАБЛЫКА**

"Беларуская думка" ў чэрвені прапануе багатую палітру цікавых тэм, але найбольш актуальнымі і патэнцыяльна запатрабаванымі бачацца публікацыі гісторыка-культуралагічнага напрамку. Гэта найперш тры артыкулы, аб'яднаныя 200-гадовым юбілеем важнай падзеі — Айчыннай вайны 1812 года. Аўтары аднаго з іх — міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь А. Праляскоўскі і доктар філасофскіх навук Л. Крыштаповіч — прапануюць беларускаму і рускаму народам узгадаць агульнае гераічнае мінулае, у прыватнасці — перамогу над напалеонаўскім войскам. Яны даюць навукова абгрунтаваны адказ рэвізіяністам, якія спрабуюць прынізіць значнасць пераможнага фіналу падзей, прыводзяць узоры ўсенароднай барацьбы беларускага народа за сваю культуру, веру, за сваё гістарычнае развіццё.

Працягвае тэму Айчыннай вайны даслед гісторыка Э. Карніловіча пра герояў Барадзінскай бітвы, якія паходзілі з беларускіх губерняў — прадстаўнікоў генералітэту М. Хамянтоўскага, П. Капцэвіча, І. Паскевіча. Звесткі пра нашых землякоў аўтар скрупулёзна збіраў у архівах, вышукваў па пажаўцелых ад часу кнігах і часопісах — многія з іх шырокаму чытачу становяцца вядомымі ўпершыню. Пра баявыя дзеянні ў 1812 годзе на тэрыторыі цяперашняй Рэспублікі Беларусь распавядае ў сваім артыкуле пісьменнік і тэлевядучы В. Бандарэнка.

Гартаючы часопіс, нельга абмінуць увагай размову журналіста С. Галоўкі з дырэктарам Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Аленай Ляшковіч, прымеркаваную да 130-годдзя з Дня нараджэння беларускага класіка. Безумоўна, цвіком інтэрв'ю з'яўляюцца новыя звесткі і факты пра жыццё Янкі Купалы, яго радавод, якія паўстануць цікаўнаму позірку прыхільнікаў айчыннай літаратуры ды і ўсіх наведвальнікаў галоўнай музейнай скарбніцы класіка пасля завяршэння рэканструкцыі экспазіцыі.

Адвечнай тэме ўзаемаадносін творцы і грамадства прысвечаны "круглы стол" пад назвай "У рамках свабоды творчасці", падчас якога горача і бескампрамісна абмяркоўваліся рэальныя праблемы існавання выяўленчага мастацтва і мастакоў у нашай краіне. І хаця ў межах дыскусіі да кансэнсусу не прыйшлі, у прыватнасці, наконт узнаўлення сістэмы дзяржаўнага заказу на карціны, забеспячэння мастакоў майстэрнямі, сутыкненне розных пунктаў гледжання дае магчымасць прыцягнуць увагу грамадства да важных пытанняў, звязаных у тым ліку і з фарміраваннем грамадзянскага светапогляду.




Член-карэспандэнт НАН Беларусі А. Данілаў прысвяціў свае нататкі памяці вядомага беларускага журналіста У. Сеўрука, які ў часы СССР працаваў на кіруючых пасадах у цэнтральных СМІ краіны і шмат зрабіў для арганізацыі эфектыўнага функцыянавання друку суверэннай Беларусі. Аўтар распавядае, як лёс звёў яго з гэтым таленавітым чалавекам, узгадваючы мінулае, раскрывае розныя бакі яго шматграннай асобы.

У артыкуле пісьменніка С. Трахімёнка "Ці засяроджваецца Расія?" робіцца спроба прааналізаваць здольнасць расійскіх эліт адэкватна ацаніць сітуацыю, што склалася пасля халоднай вайны, па аналогіі з сітуацыяй у XIX стагоддзі пасля Крымскай вайны. Тады расійскі канцлер, князь А. Гарчакоў зрабіў вывад, што Расія засяроджваецца. А наколькі рэальная палітыка, заснаваная на гэтай ацэнцы, будзе аказваць уплыў на адносіны "Вострава Расія" і Вялікага лімітрофа, часткай якога з'яўляецца Беларусь? Адказам на гэтае складанае пытанне можна лічыць дадзены артыкул.

Апроч названых часопіс прапануе чытачам актуальныя публікацыі ў такіх раздзелах, як эканоміка, палітыка, філасофія, практыкум, грамадства. Свае даследаванні прэзентуюць і маладыя вучоныя.

## "Вожык" № 6




Чэрвеньскі нумар "Вожыка" пачынаецца з вокладкі Вікенція Пузанкова на тэму Міколы Наварыча: куды сесці буслу з немаўляткам, калі дахі дамоў спрэс устаўлены антэнамі? Такім чынам часопіс закранае складаную тэму дэмаграфіі, няхай сабе і з дапамогай камічна-добразычлівай карыкатуры.

Міні-комікс Алеся Каршакевіча кранае праблему ўжывання сапраўды езуіцкіх тэхналогій продажу: майстры гандлю імкнуцца прадаць у летнюю спёку адну лыжыну, а ў дадатак да яе — і лыжную змазку.

Гумарыстычныя мініяцюры, бадай, самы папулярны ў "Вожыку" жанр. Кароткія, а калі яны яшчэ і трапныя, дык з'яўляюцца ўпрыгожаннем нумара. На гэты раз чытача парадавалі Мікола Чарняўскі, Дзмітрый Дземідовіч, Міхась Уласенка, Вера Міхно і Уладзімір Шпадарук. "Думкі ўголас" — з гэтай жа катэгорыі кароткага жанру. Выказаў у іх сваю дасціпнасць Віктар Саланец.

Казка для дарослых, фактычна байка ў прозе, належыць пяру Васіля Феранца. Ягоны Гусак, свойская птушка, якая не здольная ляцець услед за дзікімі гусямі ў вырай, тым не меней сваім гускам такога панасачыняў, што вырай ім здаецца казачным раем.

"Іголкатэрпія" ў "Вожыку" рэгулярна знаходзіць сваіх "пацыентаў". Гэта і тарфаробы з Жабінкаўскага раёна; і начальства арганізацый, якія адказваюць за бытавыя паслугі на Магілёўшчыне; дарожныя будаўнікі з Міншчыны і гандляры з Гомельшчыны. У мэтах тэрапіі "Вожык" прапісаў безгаспадарнікам, бюракратам, ірвачам па добрай порцыі адборных калючак.

Антось Гарчыца ў фельетоне "Стаўпатварэнне па-гомельску" расказаў, як цэлы штат дзяржаўнага прадпрыемства гадамі мурыжыў іх просьбы выправіць будаўнічы брак.

У шостым нумары "Вожыка" падводзяцца вынікі "юбілейнага" конкурсу, арганізаванага сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і прысвечанага 70-годдзю стварэння выдання.

Традыцыйная мастакоўская рубрыка "Вернісаж" прадстаўляе выдатнага карыкатурыста Пятра Козіча — ягоную творчую асобу і самі творы. Калі гаварыць коратка, то нельга ўявіць "Вожык" без малюнкаў П. Козіча, як нельга ўявіць П. Козіча без малюнкаў у "Вожыку".

Свой сціплы ўнёсак часопіс дадае і ў святкаванне 130-х угодкаў з дня нараджэння Янкі Купалы. Сказаць, што Іван Дамінікавіч не цураўся гумару, — мала. Як сведчыць мэтр айчыннай сатыры і гумару Кандрат Крапіва, Купала пасля Багушэвіча быў адным з першых беларускіх байкапісцаў. Дарэвалюцыйныя па часе стварэння Купалавы байкі і цяпер гучаць надзвычай надзённа.

**Алесь НАВАРЫЧ**

*Партрэт на фоне кнігі*

# Быць неабыякавым

**У тым, што адна з самых інтэлігентных і адначасова самых патрыятычных раённых газет Беларусі называецца проста "Раённыя будні", безумоўна, "вінаваты" яе галоўны рэдактар Мікола Антаноўскі. На "буднях", калі трэба было мяняць пампезную назву "Зара камунізму", настаяў менавіта ён. Той-сёй з калег нават уголас здзіўляўся: вось жа, паэт, а нічога больш прыгожага не прапанаваў. Аднак, паразважаўшы, разумееш, што менавіта гэтая назва найлепшым чынам характарызуе стыль выдання. Бо сапраўдная інтэлігентнасць не ў крыклівасці, а ў сціпласці. А сапраўдны патрыятызм — гэта калі родны кут прываблівае цябе не толькі ў святочным строі, але і ў штодзённай рабочай вопратцы.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**



Мікола Антаноўскі стаў галоўным рэдактарам пружанскай раённай газеты ў 1984 годзе. Яму ўдавалася быць адначасова і незвычайна тонкім летуценным паэтам (вершы пісаў са школьных гадоў), і харызматычнай, шмат у чым максімалістычнай асобай. Калектыў сапраўдных энтузіястаў, які паступова сабраўся вакол маладога кіраўніка, пачаў паволі, але няўхільна пашыраць дыяпазон газеты, дапоўніўшы звычайныя тэмы перадавікоў вытворчасці і сацыяльных дасягненняў тэмамі гісторыка-культурнай спадчыны, мастацтва, літаратуры. У Савецкія часы гэта было дзіўна і, напэўна, не кожнаму зразумела.

— Але мы тады былі маладыя, апантаныя, — кажа Мікола Дзмітрыевіч, — хацелася нам большага, чым мелі. Спраўдзілася ці да айчыннага мінулага, вяртання страчанага, узняцця чалавека над абывацельшчынай.

***— Калі параўнаць, якой была самасвядомасць чытачоў Вашай газеты дваццаць гадоў таму з тым, якая яна цяпер, становіцца асабліва ярка бачна, наколькі ўзняты ўзровень. Апантанасць папулярызатара — гэта такі агонь, які можа запаліць шмат свечак. Тым больш што папулярызатарствам мінулага займаліся не толькі ўласна супрацоўнікі газеты, але і пэўнае кола неабыякавых мясцовых інтэлігентаў. А як з літаратурным густам? Ці ўдалося вам прывіць яго пружанцам?***

— Праблема літаратурнага густу — гэта, безумоўна, праблема не толькі правінцыяльных гарадоў, але і сталіцы. Хаця, з іншага боку, у правінцыі значна больш графаманіі, якую наваколле гатова прыняць за шэдэўр. Да нас у газету з мэтай надрукаваць прыносяць многа такога.

***— Ці лепшай была б сітуацыя, калі б асновам вершаскладання вучылі ў школе?***

— А хіба не вучаць? Ва ўсялякім разе на прыкладзе вершаў класікаў. І яшчэ ж ёсць нейкія факультатывы, школьныя літаратурныя гурткі. Іншая справа, што сярод настаўнікаў, пэўна, не так ужо і шмат людзей, якія па-сапраўднаму разбіраюцца ў паэзіі. І часта здараецца, што менавіта настаўнікі і прыносяць у рэдакцыю зусім ніякія па вартасці вершы сваіх вучняў. І не ведаеш, як лепей сказаць чалавеку, як больш лагодна адмовіць. Справа ў тым, што паэзія перш за ўсё — своеасаблівае мысленне. Тэхніцы вершаскладання ў прынцыпе навучыць можна. А вось думаць па-мастацку — гэта далёка не кожнаму дадзена.

Аднак, падумаўшы крыху, Мікола Дзмітрыевіч раптам пачынае называць імёны тых, чые вершы з задавальненнем друкуе на старонках "Раённых будняў". І такіх людзей таксама аказваецца нямала.

***— Мікола Дзмітрыевіч, два вашыя паэтычныя зборнікі — "Святаяннік" і "Падсочаны бор" — выклікалі ў свой час вялікі інтарэс у чытачоў. Але доўга ўжо вы не радавалі іх новымі кнігамі, не лічачы, безумоўна, зборніка нарысаў "Зялёная рапсодыя", за які атрымалі ўзнагароду ад Беларускага саюза журналістаў. У пісьменніцкіх колах пагаворваюць, што, маўляў, у Пружанах, няйначай, рыхтуецца сапраўдны сюрпрыз для аматараў паэзіі. Ці так гэта?***

— Няўжо і сапраўды так кажуць? Ну што ж, можна, пэўна, сказаць, што новы паэтычны зборнік і сапраўды выспявае. Але ніяк не атрымліваецца паставіць апошнюю кропку. Здавалася, ужо ўсё было гатова, і раптам прыйшла ў галаву думка напісаць вянок санетаў "Каханне". Потым нарадзілася ідэя паэму напісаць. Паразважаць пра жыццё і нябыт. Пра тое, што чаканне смерці — горшае за смерць... І вось завяршэнне зборніка ўсё адкладаецца і адкладаецца…

Паэт прызнаецца, што з гадамі больш адказна ставіцца да надрукаванага.

— Калі ў цябе за плячамі ўжо шэсць дзясяткаў, далібог, на гэты свет глядзіш іншымі вачыма, нават не так, як яшчэ дзесяць гадоў таму. Многія з'явы і падзеі, якія некалі хвалявалі, не давалі спакою і натхнялі на рашучыя, як тады падавалася, учынкі ці, наадварот, траплялі ў разрад абсурдных і непрыстойных, цяпер здаюцца такімі дробязнымі, мізэрнымі, смешнымі ці, наадварот, велічнымі і высакароднымі. І па гэтай прычыне адчуваеш сябе крыху няёмка за ранейшую паспешлівасць, маладушша, крыўдлівасць, марную ўзрушанасць…

З гэтай вышыні ўзросту і вопыту самым вялікім злом, якое ёсць на зямлі, М. Антаноўскі называе раўнадушша. І лічыць, што паэт мусіць змагацца з філасофіяй абыякавасці нават у тым выпадку, калі ён застанецца адзіным воінам у полі перад шэрагамі праціўнікаў.

Ён сапраўды з кагорты нераўнадушных — гэта бачна ва ўсіх учынках і справах. І, безумоўна, у паэзіі. Цёплай, напоўненай замілаваннем роднай прыродай, спагадай да чалавека, гонарам за свой род і вернасцю пачуццяў да жанчыны, якая стала яго жонкай і маці яго дзяцей.

# На Барадзінскім ратным полі

Васіль ШЫРКО,
галоўны рэдактар часопіса "Белая вежа", лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

**Рассякаючы начную цемень, наш джып, быццам касмічны карабель, спушчаны з паднябесся на асфальт, мчаў на ўсход. Да Мажайска, дзе раніцай чакалі нас пісьменнікі Расіі, шэсць соцень вёрст. Там павінен адбыцца сумесны пленум Саюзаў пісьменнікаў Расіі і Беларусі; наперадзе — Барадзінскае поле, незвычайныя сустрэчы са знаёмымі расійскімі калегамі і незнаёмымі, а яшчэ экскурсіі, мажліва, песні ля кастра, абмен набалелым і мроямі-думамі, якія аднолькава хвалююць душы расіян і беларусаў.**

## Не лірычнае адступленне

Палі славянскай славы: Кулікоўскае, Грунвальдскае, Прохараўскае, Барадзінскае, Буйніцкае. А яшчэ — поле Брэсцкай крэпасці. Гонар за сваіх продкаў, іх праведны наказ нашчадкам: лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях. Як не згадаць наўздзіў простыя і ў той жа час глыбокія радкі з песні: "Там, дзе ты стаіш, салдат, там і поле Кулікова…". Пасля Грунвальда, навучаныя горкім досведам, тэўтонцы і іх нашчадкі больш як пяць стагоддзяў не ступалі з мячом на славянскія землі.

Два гады таму мы з Генадзем Пашковым былі на славутым Прохараўскім полі, адпрасаваным, пераворваным сотнямі гусеніц, пасля на нашым крывавым Буйніцкім полі пад Магілёвам. І вось Барадзіно. Два стагоддзі таму тут калацілася зямля ад грому соцень гармат, ржалі коні, кідаліся ў штыкавыя атакі рускія на французаў, французы на рускіх.

Дзясяткі тысяч людзей (дзяды, бабулі, бацькі з дзецьмі) захапляюцца сёння тэатралізаваным прадстаўленнем. Вусатыя казакі, кірасіры, коннікі. Наступленне. Адыход. Грымяць стрэлы, б'юць трывогу барабаны.

Сурова ўглядаецца ўдаль старшыня Саюза пісьменнікаў Расіі Валерый Ганічаў; засланяючы рукой твар ад сонца, сочыць за воямі адказны сакратар СПР, празаік Сяргей Кацькала; не знікае светлая ўсмешка з твару цудоўнага паэта-песенніка, народнага артыста Расіі Міхаіла Ножкіна. І мы, беларусы, званыя госці, не зводзім вачэй з поля. Мне здаецца, што вось-вось з'явіцца перад намі Міхаіл Іларыёнавіч Кутузаў, кінецца ў атаку пры ўсіх рэгаліях, падстаўляючы грудзі кулям і асколкам, адважны Барклай дэ Толі, якога беспадстаўна і цар, і генералы, і нават малодшыя афіцэры з салдатамі лічылі баязлівым. Героя, мудрага палкаводца апраўдала гісторыя, паднят на высокі п'едэстал Аляксандр Сяргеевіч Пушкін.

Смерць абышла шатландца Барклая дэ Толі, а вось бессмяротная слава знайшла.

Тысячы кніг напісаны пра вялікую Барадзінскую бітву. Напалеон лічыў, што перамаглі французы, а Кутузаў — рускія. І да сённяшняга дня гісторыкі спрачаюцца, хто меў рацыю, хто сапраўды дабіўся вікторыі на Барадзінскім полі.

І тут, на гэтай святой зямлі, як ніколі разумееш геніяльную праўду мудрага Льва Талстога: "Не та победа, которая определяется подхваченными кусками материи на палках и тем пространством, на котором стояли и стоят войска, — а победа нравственная, та, которая побеждает противника в нравственном превосходстве своего врага и своём бессилии, была одержана русскими под Бородиным. Французское нашествие, как разъярённый зверь, получивший в своём разбеге смертельную рану, чувствовало свою погибель... Прямым следствием Бородинского сражения было беспричинное бегство Наполеона из Москвы".

Мы пакідалі Барадзіно, калі неба слязілася дажджом, усё роўна як аплаваючы герояў 1812 года. На душы было светла, быццам пасля нядаўняга прычасця ў праваслаўным храме, непадалёк ад якога мы сабраліся на пленум.



*Валерый Ганічаў і Генадзь Пашкоў падчас тэатралізаванага прадстаўлення.*

## Пад чыстым небам

Пленум праходзіў пад адкрытым небам. У Прэзідыуме — Валерый Ганічаў, Генадзь Пашкоў, Сяргей Кацькала, Міхаіл Ножкін… Абмяркоўваліся пытанні патрыятызму, духоўнасці, намячаліся планы на будучае супольнае творчае жыццё.

У глыбокім, узважаным дакладзе Валерый Ганічаў звяртаў ўвагу на векапомныя традыцыі рускай літаратуры, згадваў Пушкіна, Тургенева, Ахматаву, многіх іншых паэтаў, празаікаў, публіцыстаў, для якіх патрыятызм не пусты гук.

— Ідзе ў наступ амаральная, так званая масавая, разбэшчаная, "рублёвая" культура, гэткі літаратурны балаганчык, — гаварыў Валерый Мікалаевіч. — Мэта яе — пазбавіць народ Памяці. І ў нас ёсць прэтэнзіі да ўлады. Практычна не працуе камісія па барацьбе з фальсіфікацыяй гісторыі. У Вялікую Айчынную вайну супраць СССР ваявала амаль уся Еўропа. Напрыклад, тысячы французскіх легіянераў ваявалі з беларускімі партызанамі, палілі вёскі з людзьмі, расстрэльвалі мірных жыхароў, а мы ўсё пішам пра сорак лётчыкаў з "Нармандыі «Нёман»". Хвала ім. Часта паўпраўда горшая за няпраўду.

Звяртаючыся да ўдзельнікаў пленума, Ганічаў пытаў: "Дзе ў нас помнікі "певцу в русском стане" Жуковскому, адміралу Шышкову, у рэшце рэшт, граданачальніку Масквы Растопчыну?" І сам жа адказваў: "Гэтыя людзі не ўпісваюцца ў шэраг масавай, абязлічанай культуры.

Прасякнутымі духам патрыятызму, сяброўства і духоўнага адзінства славянскіх народаў былі выступленні Генадзя Пашкова, Міхаіла Ножкіна. Сваё важкае слова сказаў Анатоль Статкевіч-Чабаганаў.

Сустрэчы на славутай Барадзінскай зямлі, шчырыя гутаркі, песні, наведванні царкваў, манастыроў, экскурсія па Мажайску і яго ваколіцах запомняцца назаўсёды.

А вечарам у Мажайску, у Палацы культуры, для жыхароў горада быў арганізаваны выдатны літаратурна-музычны канцэрт. Выступленні паэтаў, літаратараў з Расіі і Беларусі перамяжоўваліся з выдатнымі выступленнямі дзеячаў музычнай культуры, а таксама самадзейных калектываў Падмаскоўя.

Гэта было ўражлівае сугучча роднасных душ і галасоў.

# Яго мара — армія

Эдуард КАРНІЛОВІЧ

**Прыгожы і рамантычны хлопчык Мацвейка ў шэсць год трапіў у Пецярбург, дзе быў залічаны ў Сухапутны кадэцкі корпус. І асноўнай у яго жыцці, яго марай і паэзіяй стала вайсковая служба.**



Як выдатнага кадэта, Мацвея Храпавіцкага выбралі ў пажы да Вялікага князя Канстанціна Паўлавіча, які хутка ўзнагародзіў яго званнем камер-пажа. Больш за тое, Вялікі князь, ад'язджаючы ў Італію, у дзеючую армію Суворава, якая ваявала супраць французаў, узяў з сабой 14-гадовага Мацвея. У верасні 1800 года Храпавіцкі вярнуўся ў Пецярбург, дзе працягваў вывучэнне ваеннай навукі, быў узведзены ў штабс-капітаны, у капітаны і ў 19 год стаў палкоўнікам і камандзірам батальёна гвардзейскага Ізмайлаўскага палка. Мацвей уяўляў сабой вобраз нібы народжанага прыкладнага афіцэра і быць іншым ні ў якім разе не мог. У жніўні 1805 года батальён Храпавіцкага ў складзе Ізмайлаўскага палка дабраўся да Брэста, а потым прыйшоў у горад-крэпасць Альмюць (у Маравіі), дзе знаходзілася руская гвардыя цэсарэвіча Канстанціна Паўлавіча, якая злучылася да арміі М. Кутузава. Аб'яднанае войска рускіх і аўстрыйцаў выступіла супраць Напалеона. У цэнтр бітвы цэсарэвіч паслаў батальён Храпавіцкага.

*Мацвей Яўграфавіч нарадзіўся 9 (20) жніўня 1784 года. Ён паходзіў са шляхецкага роду, карані якога трэба шукаць на Віцебшчыне: харунжы (з 1562 г.) і падкаморы Фёдар Данілавіч ажаніўся з Аленай Сямёнаўнай і ў пасаг за ёю атрымаў маёнтак Храпавічы (цяпер Віцебскі раён). Адсюль утворана прозвішча.*

Мацвей павёў салдат развернутым фронтам. І хаця бітва была прайграна, М. Храпавіцкі атрымаў ордэн св. Георгія IV ступені. Затым Храпавіцкі вярнуўся ў Пецярбург і працягваў камандаваць батальёнам. Выязджаў ва Усходнюю Прусію, дзе пад камандаваннем П. Баграцёна вызначыўся ў бітве пад Фрыдландзе (цяпер Праўдзінск Калінінградскай вобласці). Узнагароджаны ордэнамі св. Уладзіміра III ступені і прускім "За заслугі".

...Галоўнакамандуючы Кутузаў, заўважыўшы згуртаванне варожых сіл супраць нашага левага крыла, якім камандаваў П. Баграцён, паслаў камандзіра гвардзейскай брыгады Мацвея Храпавіцкага на абарону Сямёнаўскіх вышынь. Менш як за гадзіну зводная брыгада Храпавіцкага, у якую ўваходзілі Ізмайлаўскі і Літоўскі палкі, вырвала з рук французаў некалькі ўзятых гармат. Храпавіцкі быў паранены куляй у левую нагу, вышэй калена, навылет, але застаўся ў брыгадзе і, колькі дазвалялі сілы, працягваў камандаваць. Брыгада Храпавіцкага не адышла ні на крок.

Пра подзвіг ведалі ўсе ад Барадзіна да Пецярбурга. За ўменне і вайсковы гонар, праяўленыя ў Барадзінскай бітве абодва палкі былі ўзнагароджаны Георгіеўскімі сцягамі, а М. Храпавіцкі ўдастоены звання генерал-маёра. Тады яму споўнілася 28 год.

Пасля Мацвей Яўграфавіч зноў узначаліў сваю брыгаду і ўдзельнічаў у цяжкіх баях пад Люценам, Баўценам, Дрэздэнам. У жніўні 1813 года каля Кульмы (цяпер Хлумец у Чэхіі) далучыўся да корпуса генерала А. Ярмолава. Разам з руска-пруска-аўстрыйскім войскам пад камандаваннем М. Барклая дэ Толі ўдзельнічаў у разгроме французскага корпуса генерала Д. Вандама. У той бітве быў цяжка паранены. Пасля лячэння ў Пецярбургу вярнуўся ў Францыю. У свіце Аляксандра І увайшоў у пераможаны Парыж.

Нягледзячы на кепскае здароўе, герой Барадзіна працягваў службу і займаў адказныя пасады. У 1818 — 1830 гадах быў начальнікам 3-й грэнадзёрскай дывізіі з правам пажыццёвага нашэння ізмайлаўскага мундзіра, узведзены ў чын генерал-ад'ютанта. Са снежня 1830 года — віленскі і гродзенскі ваенны губернатар. За нерашучасць дзеянняў у час падаўлення Польскага паўстання 1830 — 1831 году (іншая версія: па стане здароўя) зволены з пасады. У ліпені 1832 года М. Храпавіцкі прызначаны камандуючым Асобным грэнадзёрскім корпусам, праз год — адначасова членам Ваеннага савета і Дзяржаўнага савета, потым членам Камітэта міністраў. У апошні год займаў пасаду пецярбургскага ваеннага губернатара.

Мацвей Яўграфавіч памёр 31 сакавіка 1847 года на 63-м годзе жыцця, пахаваны пад Пецярбургам, у Троіца-Сергіевым манастыры. Развітацца з ім прыйшлі цар Мікалай І і члены Царскага Дома, шматлікія сябры і саслужыўцы. Успаміналі пра яго як пра выдатнага генерала, героя Барадзіна, які "пачынаў сваю баявую арэну ў раннім юнацтве пад сцягамі Суворава. Яго прыгожы партрэт, створаны па просьбе імператара Мікалая І англійскім мастаком Дж. Доу, і цяпер захоўваецца ў Ваеннай галерэі 1812 года Зімняга палаца.

# Рай абароненасці

Марыя ВЕРЦІХОЎСКАЯ

**Час і "найдаражэйшае ў ім"**

Назва новай аповесці Алены Брава "Рай даўно перанаселены" (упершыню твор быў надрукаваны ў часопісе "Маладосць", № 1 за 2012 год) інтрыгуе сваёй парадаксальнасцю і фатальнай катэгарычнасцю. Адолеўшы некалькі разгорнутых метафар, але наўрад ці адразу спасцігнуўшы іх загадкавы сэнс, чытач усё ж трапіць у мярэжы тэксту, паблукае па яго прасторах і дачытае аповесць да канца… Ды яны і пераказу не паддаюцца, бо не маюць звыклых нам завязкі, кульмінацыі, развязкі. А дзе такая запатрабаваная спружына канфлікту і займальнасці — інтрыга?

Яшчэ Леў Лунц заклікаў сваіх братоў-"серапіёнаў": "Вучыцеся інтрызе і ні на што не звяртайце ўвагі: ні на мову, ні на псіхалогію". Падобна да таго, што якраз на апошняе і "звяртае ўвагу" Алена Брава, адпрэчыўшы першы тэзіс лунцаўскай навукі. І дасягае парадаксальнага эфекту. Адны яе твораў чакаюць, іншыя абурана іх адмаўляюць, але ўсе — чытаюць.

Гераіні твораў А. Брава — дзеці свайго часу, яго люстэркі. Адны "імчаліся наперад са свістам: "Часссвыбраўнассс!" і спрытам коннай пажарнай каманды, якая скача па справе. Таварыш Час, узяўшы пад казырок, прадстаўляў ім працьму спосабаў самавыяўлення". Другія аддаюць перавагу каханню да "вахлакоў-сужыцеляў" ці гульні "ў сацыумныя бірулькі". І пра тое — у жанры фарсу… Трэція ўсмоктвалі кніжную атруту, "што ўсё можна перамагчы адной толькі сілай характару". Ці то сілы не ставала, ці то на яе знайшлася большая, але перамагчы абставіны ці хаця б нейк на іх паўплываць не атрымалася. Гераіні бягуць на край свету: адна — ажно на заморскую і не менш праблемную Кубу ("Каменданцкі час…"); другая — у Нямеччыну ("Дараванне"); трэцяя — "нібыта на пажар, пабралася шлюбам, каб як мага хутчэй пакінуць бацькоўскі дом" ("Рай…"). Патрапілі ж, адпаведна трагедыйнаму жанру, з агню ды ў полымя.

Галерэя жаночых вобразаў упершыню ў аповесці "Рай…" папоўнілася "буйнафарматным" партрэтам той, што і не памысліла збегчы з прапанаваных абставін, а жыла ў іх. У вайну бабуля Вера выбіралася з балота і, ратуючы сябе і дзяцей, "з ахопленай полымем чужой хаты". І толькі напрыканцы жыцця яе цярпенне вымкнула спаляльным бунтам…

Сапраўды, згодна з Ціханам Чарнякевічам, у прозе А. Брава "галоўнае — ландшафт і жанчына ў гэтым ландшафце". Толькі ландшафт той заўсёды ў "акантоўцы" часу. Учэпістым зрокам летапісца з рэчаіснасці выхопліваецца толькі тое, што стане дакладнай выявай канкрэтнага часу і яго "абранцаў".

**На неаглядных прасторах**

"Я"-аповед "Раю…" — своеасаблівы радавод да пятага калена. Прычым, па мячы і па кудзелі. Адпаведнае радаводу і стаўленне да часавых арыенціраў — дакладнасць: "Яна (Вера. — **М. В.**) з'явілася на свет у сялянскай сям'і за год да таго, як прадказаны класікам марксізму канфлікт: "нізы не хочуць — вярхі не могуць"… быў перанесены ў маштабы гісторыі і вырашыўся ўзаемным мардабойствам. Бацька Веры трымаў моцную гаспадарку…"

А. Брава аб'ектам свайго шчыравання абрала пяць пакаленняў адной сям'і. Некалі іх насамрэч "выбраў час". Адведзены ж ім лёсам ландшафт пісьменніца акантавала рамкай: канец XIX — пачатак XXI стагоддзя. Рамка для невялікай аповесці, так бы мовіць, нестандартная.

Для канкрэтызацыі панарамнага ландшафту аўтар рэдка карыстаецца тапонімамі, часцей выкарыстоўваецца перыфраза: "Пражыўшы на адной шостай часткі свету па шэсць дзясяткаў"; "у краі, дзе хранічна не хапае сонца…"; "вярнулася адтуль, дзе агромністыя кусачыя мошкі, а зіма цягнецца доўгадоўга".

Ландшафт, трэба сказаць, унікальны. Пры ўсёй сваёй статычнасці ён за перыяд, акрэслены аўтарскай часавай рамкай, тройчы мяняў сваё найменне: Расійская імперыя з адной са сваіх калоній — "Северо-Западным краем", абрэвіятура "СССР", нарэшце — сучасная назва. Аўтар жа "спрабуе разгледзець тую кропку, у якой чалавек, што нарадзіўся на неаглядных прасторах краіны, дзе захлынулася не адна варожая армія, страчваў права на індывідуальную будучыню…"



Фота Валянціна Хасяневіча

**Дарастанне да раю**

Знітаванасць "Раю…" з папярэднімі творамі А. Брава вельмі моцная, а з "Каменданцкім часам…" аповесць утварае своеасаблівы дыпціх.

У "Дараванні" ўпершыню акцэнт зроблены на здабыткі. У "Раі…" ён становіцца больш выразным: "З той любові, якую падарыла мне Вера, я і з'явілася на свет <…> Яе любові хапіла і на маю дачку, яе праўнучку…"

"Радаводная" лінія запатрабавала аб'ектывацыі і рэалістычных сродкаў звязанных з катэгорыяй часу. У аповесці безліч "зарубак" сталення "я"-гераіні: "мне толькі што споўнілася пяць, і лічылася, што я ўстане сама паклапаціцца пра сябе"; "я, васьмігадовая, спускаю ўніз па лесвіцы груваскую каляску", "мне было дванаццаць год, калі я ўпершыню шакіравала…"; "другую аўтарытэтную параду… я атрымала праз дзесяць год".

Сімвалічнасць як адметнасць аповесці заяўлена ўжо самой назвай. Перадусім вылучым у творы сімвалічны вобраз дрэва.

"Дрэвы не дарастаюць да раю", — такая катэгарычная заява 12-гадовага паэта-філосафа. Гэта прыказка бабулі Веры і адначасова першы радок Люсінага верша, які так шакіраваў Капу, сяброўку маці. (У думках адзначым яшчэ адну адметнасць аповесці — яе "правакатыўнасць": парадаксальнасць пасылак нярэдка вонкава супярэчыць зместу і высновам.)

Па вялікім рахунку, аповесць — пра "дарастанне" да раю і ўмовы "дарастання": "не было роўных маёй бабулі Веры ва ўменні клапаціцца, ратаваць"; "я буду дакладна ведаць: зямля для мяне не пустая. Бо прынамсі адна істота на ёй любіць мяне <…> Любіць ні за што, без усякіх умоў". Для чытача такія ўрокі "я"-гераіні не былі б чаго-небудзь вартыя, калі б не ілюстраваліся сітуацыямі.

Па праве памяці аднаго са сваіх удзячных нашчадкаў Вера ўзнагароджваецца евангельскім эпітэтам — "пакліканая": "Яе пакліканнем было даглядаць старых і малых, нямоглых і безабаронных…" Але ўжо праз старонку, быццам правакуючы чытача на спрэчку: "Тады пра якое пакліканне я кажу?" Аргументуецца такая супярэчлівасць тым, што Вера пазбаўлена не толькі "гендэрнай свядомасці… і ўласнага жыцця", але і выбару: "Выбару ў яе не было з той самай хвіліны, калі яна з'явілася на свет… Яе роля была жорстка зададзена, і яна вымушана ёй адпавядала".

Такому чытачу па сіле развязаць вузельчык вонкавай "супярэчнасці": Вера — абраная. Сказана ж: "І будуць апошнія першымі, а першыя апошнімі; бо многа пакліканых, але мала абраных" (Мтф.: 20,16). І пра ўмову абранасці сказана Апосталам Паўлам так: "Насіце цяжгоды адно аднаго, і тым выканаеце Закон Хрыста".

**Час пасылае і час адбірае**

Паблукаўшы ў часе і прасторы, многія героі аповесці сыходзяцца і перасякаюцца ў адной "кропцы". Апошнія імгненні жыцця бабулі Веры ў эпіцэнтры гэтай "кропкі" па часе супалі з першымі крокамі праўнучкі. "Глядзі: Ірына пайшла", — адказала бабуля на пытанне пра валідол ("раптам паскардзілася, што вельмі баліць сэрца").

Паводле аповесці "Рай…", адзінае, што валадарыць над часам — гэта памяць: "…хіба мае сны не сведчаць пра тое, што час <…> не лінейны, і недзе там, у цяперашнім-падоўжаным, працягвае бязгучна хадзіць па пакоі ў сваіх вязаных тапках бабуля Вера?"

Адзначаная Ц. Чарнякевічам "аб'ектывацыя" ў пазнейшых творах А. Брава дасягаецца і праз устаўныя апісанні фотаздымкаў. Згадайма, што з такога апісання пачынаецца яшчэ "Каменданцкі час…": "У канверце — каляровы фотаздымак…" У аповесці "Рай…" — фотаздымкі чорна-белыя, бо відарыс павялічаны на адпаведны ім час. Імі не толькі дакументуецца ландшафт і рост "радаводнага дрэва". Фотаздымкі, "атрыманыя ў спадчыну", стануць для Люсі штуршком да адкрыцця і ўмовай ацалення душы. Стануць лодкай, што "плыве насустрач залаціста-сіняму дыску". Апісаннем чорнабелага фотаздымка аповесць заканчваецца.

Фінал аповесці, у які дадаюцца "залаціста-сінія" фарбы, адкрыты і знакавы. Як у "Каменданцкім часе…" ёсць штрыхі вобраза Веры, а ў "Дараванні" — подступы да яго рэалізацыі, так у "Раі…" бачацца і эскізы будучых вобразаў.

**Узыходжанне**

Бесстаронні аповед "я"-гераіні пра набалелае — удача і прарыў у творчасці А. Брава. Лінія "маці і дачка" ў аповесці "Рай…" з "глустай" трансфармавалася ў звычайную, месцамі нават пункцірную, выведзеную без ранейшага надрыву, пафасна-катэгарычнага адмаўлення, выніщчальнага сарказму. Вобраз ужо не жахае і не цэніць сваім "праўдападабенствам", не замінае абстрагаванню ўспрымання. У аповесці рэфлексуецца не трагіфарсавая сітуацыя, а яе перадумовы і прычыны: "Дык вось якой яна была! І што з ёю здарылася?" Гэта не вібрацыя аднаго і таго ж пачуцця крыўды з дамешкамі адчаю і дакору, а ўзыходжанне да разумення, прымання і… любові: "Але ж я, я любіла яе! Любіла як ніхто ў свеце — і шалёна пакутавала ад рэўнасці ды крыўды, бо яе не цікавіла нічога, акрамя горычы (…) таму яна так шалёна шукала пацвярджэння ўласнай значнасці то ў каханні… то гуляючы ў сацыумныя бірулькі".

Вобраз маці — насамрэч скразны ў творчасці А. Брава. У аповесці "Рай…" маці ўрэшце "ўганаравана" імем: "Марыю вельмі паважаюць на працы", — скажа пра сваю былую нявестку бабуля Вера, "і для яе гэта характарыстыка загладжвала многае, калі не ўсё…"

Бабуля Вера і Люсіна маці — антаганісткі: "мегатоны атруты… зарады нянавісці не знішчылі бабулю толькі таму, што не знаходзілі ў яе мяккай душы, да чаго б прыляпіцца: Вера былой нявесткі даравала, як даравала ўсім і заўсёды". Два гэтыя вобразы выконваюць мастацкую функцыю вобразаў-антыподаў. Але трансфармаваны, ускладнены вобраз маці ўжо нельга вывесці толькі алгарытмам "белае на фоне чорнага — яшчэ бялейшае".

Люсіна "радаводнае дрэва" аздоблена і "прыблудамі". Чалавеку не дадзена выбіраць бацькоў, дзяцей, радзіму, мову. А вось жывучы ў соцыуме, у выбары сяброў, "сужыцеляў" homo sapiens удзельнічае. Буйным планам у аповесці паказаны "два дробныя дэманы" Люсінага юнацтва, "тыя несамавітыя качагары пекла" — Пузаты і Капа: "Сама ж Капа называла сябе не інакш, як Капіталінай, і сцвярджала, што бацькі далі ёй імя ў гонар "Капітала" Маркса". Пазней да гэтай "прусачынай пароды" далучаецца яшчэ адна каларытная "фігурка з салёнага цеста", што сышла з аўтаматычнай лініі Вялікага Цестамеса, — Калаўротка.

Пасля рамана "Менада і яе сатыры" сатырычнае ў творах А. Брава не сцішылася, не ўтаймавалася. І буйным, і "дробным дэманам" адмоўлена ў разуменні і спагадзе, бо яны — "мёртвыя душы".

**Зямныя анёлы**

Абраны Аленай Брава ландшафт для "радаводнага дрэва" сваёй гераіні — правінцыяльны. Яе гераіні — нашы сучасніцы, аднак рэфлексуецца толькі мінулае ў іх лёсах, аддаленае ад моманту напісання твораў як мінімум на гадоў 10 — 15. Пра тое, што "тут і цяпер" — штрыхамі, дэталямі.

У аповесці "Рай…" некалькі сэнсавых узроўняў. "Для лепшага аналізу твораў Алены Брава трэба часцей ужываць слова "гендар" і разглядаць гэтую прозу з пункту гледжання гендарнай метадалогіі…", — даводзіць Ц. Чарнякевіч. Аналіз у такім ракурсе сапраўды можа быць цікавым. Не менш цікавым было б вытлумачэнне сакрэтаў "правакатыўнасці" твораў А. Брава.

Новая яе аповесць — пра тое, што рызыкоўныя пераходы праз крытычныя межы выкуплены невымернай цаной — любоўю да нас нашых уцялесненых Анёлаў-Ахоўнікаў. Наш "рай абароненасці" забяспечваўся імі. І ланцужок той не перарваць нават часу.

Бабуля Вера з тых Анёлаў-Ахоўнікаў, якімі густа заселена тэкставая прастора класічнай літаратуры. (Згадайма тут толькі некаторых нашых знаёмцаў: Коласаў дзядзька Антось, астаф'еўская "бабушка" Кацярына — скразны вобраз многіх яго твораў. У кожнага шчасліўца свой Анёл-Ахоўнік.) Густа заселена, але перанаселенай быць не можа (у сучаснай жа літаратуры яны рарытэтныя), бо ва ўсе часы пакліканыя і абраныя будуць запатрабаванымі. Яны надзеленыя сілай выратоўваць нас "*і адтуль* — сваім жыццёвым прыкладам" (вылучана аўтарам). Выканаўшы сваё прадвызначэнне, яны ўжо спачываюць, але іх любові хапіла не толькі на нас, але і на нашых дзяцей. І пра гэта таксама аповесць Алены Брава.

# Законы творчасці

**Кожны паэт вынаходзіць сваю формулу паэзіі. Здараецца, што яны не разумеюць адзін аднаго. Але паэт можа наблізіцца і да разгадкі той адзінай і найвышэйшай формулы Паэзіі (з вялікай літары), якая, бясспрэчна, існуе. І тады формула ўласная, прыватная ўпішацца ў гэтую велічную формулу Паэзіі Сусвету. Таму сапраўдная, высокая творчасць — гэта адзінства вынаходніцтва новага і разгадкі вечнага. На гэтыя разважанні мяне навяла кніга вершаў Маргарыты Латышкевіч "Пульс навальніц". Ніжэй патлумачу, што я маю на ўвазе.**

**Алесь ДУБРОЎСКІ**

Паэзія Маргарыты такая, якая толькі і можа быць у таленавітай маладой дзяўчыны. Гэта значыць — шчырая, па-сапраўднаму прыгожая і па-сапраўднаму змястоўная. Надзвычай важна, што паэзія гэтая светлая: вельмі прыемна, што ў кнізе не знойдзеш павярхоўнага і недарэчнага трагізму, які ўжо стаў пагалоскай пры размове пра творчасць маладых аўтараў. Няма тут і надуманых пачуццяў. Аказваецца, кніга можа радаваць не толькі тым, што ў ёй ёсць, але і тым, чаго ў ёй няма…

А ёсць у кнізе Мастацтва, якое заключаецца, як вядома, у тым, што чалавек далучаецца да асэнсавання і аднаўлення гэтага свету паводле законаў прыгажосці:

*І ўвесь свет — і знаны,*
*і нязнаны, —*
*Радасцю ахоплены вясновай,*
*Просіцца радком стаць*
*вершаваным*
*І сябе знайсці ў гаючых словах.*

Якім жа чынам свет пераствараецца ў вершаваныя радкі ў паэтычнай прасторы Маргарыты Латышкевіч? Вось канкрэтныя прыклады. Дождж… Звычайны дождж… А што гэта значыць для мастака? Толькі адно: дождж можа стаць фактам Мастацтва. І ў кнізе з'яўляецца цэлы раздзел — "Я не магу не глядзець на дождж".

*Кот за акно не глядзіць —*
*нуда!*
*Льецца і льецца сабе вада.*
*Неба шарэе, нібыта хвост:*
*Хмара разлеглася ў*
*поўны рост.*

*Некалькі дзён апантана лье,*
*Дзынкае, стукае ўсё па шкле.*
*Рацыю маеш ты, коце. І ўсё ж*
*Я не магу не глядзець*
*на дождж.*

> *Мы маем права чакаць, што аўтар прапануе нам свае ўласныя формулы паэзіі… Але мы не можам патрабаваць ад яго, каб ён прачыніў для нас законы Паэзіі як такой. І калі такое адбываецца — гэта свята.*

Пры ўсёй жартаўлівасці (а ў анатацыі да зборніка слушна заўважаецца, што жартаўлівасць у кнізе ёсць, што, уласна, трэба толькі вітаць) змест верша далёка не трывіяльны. Кот (гэтая жывёлінка яшчэ будзе сустракацца на старонках кнігі) "успрымае жыццё па законах ката": за акном нуда, неба шарэе, нібыта хвост… А паэт успрымае свет паводле законаў Паэзіі. Бо жыццё не можа "шарэць, нібыта хвост", якім бы шэрым яно час ад часу ні здавалася. Апаэтызаваць жыццё, знайсці ў ім прыгажосць — вось задача мастака. Калі "некалькі дзён апантана лье" — цудоўна! Значыць, можна напісаць пра дождж не адзін верш, а цэлую нізку. І вось ужо пэўная *ўласная формула паэзіі*, вынайдзеная "па адной канкрэтнай падставе", рэалізуецца і ў наступным вершы ("Бэз"):

*Дзень сырым дажджом*
*аглушаны.*
*<…>*
*Задуменны і засмучаны,*
*Бэз цікуе, як за шклом,*
*З цёплым полымем заручаны,*
*Свеціць чалавечы дом.*

Можна толькі павіншаваць аўтарку з канцэптуальнасцю і паслядоўнасцю мастацкага мыслення: зноў *прыроднае* супастаўляецца з *чалавечым* пры даволі выразнай расстаноўцы каштоўнасных акцэнтаў.

Але гэта не адзіны варыянт супастаўлення. Прыроднае і чалавечае можа сплесціся ў непарыўнае адзінства, і тады мы ўжо бачым "хмурнае неба сумнай Радзімы" (верш "Крыніца зіхоткіх плялёсткаў вады…"): неба — катэгорыя прыродная, Радзіма — чалавечая. А ў адным са сваіх хайку паэтка пытаецца:

*Холад за акном,*
*Холад у душы тваёй, —*
*Што першаснае?*

Важны не адказ, важнае само пытанне, бо менавіта яго пастаноўка і вядзе да адкрыцця той формулы, пра якую было сказана вышэй.

Таксама цікавыя мастацкія адкрыцці чакаюць чытача ў раздзеле "Перакулены Горад". А як іначай? Бо тут перад намі ўжо цывілізацыйны сінтэз: гэта ўжо "другая прырода", створаная чалавекам, якая шмат у чым замяніла для гараджаніна першую. І абсалютна лагічна чакаць, што ва ўрбаністычнай паэзіі мы знойдзем асаблівую філасофскую заглыбленасць. Сапраўды, вобраз "перакуленага горада" — адбітка ў рацэ — выводзіць паэтку на разважанні пра сапраўднасць — несапраўднасць, рэальнасць — "адбіткавасць" ("можа быць, адбітак — я"; "цераз мост насустрач мне мой адбітак, цень пакрочыць"; "гэты Горад — фата-маргана"; "гэты Горад — чыясьці прыдумка").

Вобраз Кнігі, святло сусветнай слоўнай культуры ў зборніку адыгрываюць важную ролю. Тут трэба згадаць раздзел пад назваю "Кніжны стос" (у якім аўтарка, акрамя ўсяго іншага, выказвае захапленне Мацуо Басё), а таксама "Пацеркі", што складаюцца з хайку, у якіх дух японскай паэзіі цудоўна ўлоўлены і ўдала перададзены беларускім словам.

Сказаўшы пра ўласныя паэтычныя формулы, вынайдзеныя Маргарытай, скажу і пра тую агульную формулу Паэзіі, да разгадкі якой аўтарка таксама ўшчыльную наблізілася. І тут трэба цалкам працытаваць верш праграмны і вельмі паказальны:

*Чытай паміж радкоў.*
*Бо тайнапіс нябачны*
*Хаваецца за шырмай*
*Дробных з'яў нязначных.*
*Скажы маўчаннем — усё.*
*Бязгучнасці — размовы.*
*Я з некаторых пор не даяраю*
*словам.*
*Адэптам цішыні, прарокам*
*таямніцаў*
*Зрабіся.*
*Загадай заслонам адчыніцца.*
*Будзь пілігрымам.*
*Руш праз спёку і завеі*
*Да п'едэсталу дум,*
*Да мары,*
*Да Ідэі.*

> *У кнізе М. Латышкевіч "Пульс навальніц" не знойдзеш павярхоўнага і недарэчнага трагізму, які ўжо стаў пагалоскай пры размове пра творчасць маладых аўтараў.*



Я пачаў са сцвярджэння, што мы сустракаем у кнізе тую паэзію, якую і чакаем сустрэць у таленавітай маладой адукаванай дзяўчыны. Гэтая фраза была сказана з намерам штосьці ўдакладніць далей. Так, мы маем права чакаць, што аўтар прапануе нам свае ўласныя формулы паэзіі… Але мы не можам патрабаваць ад яго, каб ён прачыніў для нас законы Паэзіі як такой. І калі гэта ўсё ж адбываецца — гэта свята. Бо гэта азначае, што ў літаратуру ўваходзіць творца не толькі таленавіты, але і разумны, удумлівы. У працытаваным вершы Закон сфармуляваны, і сфармуляваны максімальна празрыста: сапраўдная паэзія (а верш прачытваецца і так; гэта размова не толькі пра "чытанне", але і пра слоўную культуру ўвогуле) праз нязначныя з'явы, праз эмоцыі, нават праз самі словы і нават праз цішыню, маўчанне павінна рухацца да думкі, да ідэі, глыбіннай змястоўнасці. Гэта рух да сапраўды высокай паэзіі думкі. Яе не бывае шмат.

Вельмі добра, што Маргарыта Латышкевіч ужо прадэманстравала, што пачуццё, імгненнае ўражанне яна можа зрабіць фактам паэзіі. І, калі меркаваць па вершы "Чытай паміж радкоў…", а таксама па немалой колькасці іншых, у яе ёсць і імкненне да таго, каб зрабіць фактам паэзіі думку, і разуменне таго, як гэта можна ажыццявіць.

## Новыя выданні

# Рознабаковыя захапленні

**Эла, Антаніна, Дзмітрый ГУЛЯКЕВІЧЫ**

**Імя Мікалая Ільінскага даўно вядома чытачу. Яго творчы багаж складаюць самыя розныя паводле жанравага вызначэння тэксты. Гэта і вершы, і паэмы, і раманы: гістарычныя і дэтэктыўныя. Але хочацца звярнуць увагу на зборнік "О любви… и не только", выдадзены сёлета ў серыі "Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі". У зборнік увайшлі новыя вершы М. Ільінскага, а таксама выдатная паэма "За Изюминской чертой". Прэзентацыя новай кнігі адбылася ў бібліятэцы імя Янкі Купалы.**

Шмат шчырых добрых слоў было прамоўлена на адрас Мікалая Іванавіча. Вельмі прыемна быць прыхільнікамі яго творчасці, захапляцца яго талентам і працалюбствам, плёнам якога з'яўляюцца ў тым ліку і шматлікія фаліянты навукоўцы — доктара гістарычных навук, прафесара. Свае багатыя веды М. Ільінскі перадае студэнтам Дзяржаўнага інстытута кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ.

Але вернемся да новага, шостага па ліку, зборніка. Яго назва досыць таямнічая — "О любви… и не только". А што ж хаваецца за гэтым "і не толькі"? О, як многа сказана тут аўтарам і пра любоў да Радзімы, гонар за яе, і пра родных, якія пайшлі ўжо з жыцця, і пра смутак па мінулым, далёка не заўжды дрэнным, і пра родную прыроду, якой аўтар непадробна захапляецца. Вось толькі некалькі прыкладаў яго пейзажных замалёвак.

*Наконец-то май плеснул мне в окна*
*Голубой вселенностью небес,*
*И дождя апрельского волокна*
*Вплёл в ковёр зелёный чуткий лес.*
***("Ах, этот май!")***

*Никнет роща в слезах листопада,*
*Стынет поле, скорбя о зерне.*
*И гуляет, вздыхая прохладой,*
*Синий дождик по жёлтой стерне.*
***("Осенние мотивы")***

У паэме "За Изюминской чертой" аўтар зноў звяртаецца да гісторыі, далёкага мінулага, звязанага з гераічнымі подзвігамі простых людзей, сапраўдных барацьбітоў за справядлівасць, свабоду, незалежнасць. М. Ільінскі ўсхваляе лепшыя чалавечыя пачуцці: сяброўства, любоў, самаахвярнасць.

Яго творчасць не застаецца без увагі літаратурнай грамадскасці. Па выніках рэспубліканскага конкурсу "Лепшы твор 2011 года" М. Ільінскі быў узнагароджаны Дыпломам I ступені за трылогію "Последняя ладья викингов". Яшчэ раней раман "Цвела, цвела черёмуха" атрымаў Дыплом III ступені як адзін з лепшых празаічных твораў 2008 г. На прэзентацыі зборніка "О любви… и не только" Мікалаю Іванавічу быў уручаны нагрудны знак Саюза пісьменнікаў Беларусі "За значны ўклад у літаратуру".

Усе гэтыя ўзнагароды і перамогі заслужаныя натхнёнай працай.

А мы, чытачы, чакаем новых твораў М. Ільінскага.

# Паэзія



Станіслаў Валодзька

* * *

*З вераю ў сваю зорку*
*Я па зямлі іду*
*Спёчнай парой і золкай —*
*Ногі падчас гудуць.*

*Ведаю: за лясамі,*
*Ў мілай мне старане*
*Верыць заўжды таксама*
*Зорка мая*
*ў мяне.*

*Змрочнай часінай горкай*
*Не заблудзіў бы дзесь, —*
*Свеціць ярчэй мне зорка*
*І за сабой вядзе.*

*Каб і нашчадкі горда*
*Следам ісці маглі,*
*З вераю ў сваю зорку*
*Крочу я па зямлі.*

## Беларускі кірмаш

*Гэй, братка, сонца не смяшы:*
*Не спі ты ў шапку — пасляшы*
*На знакаміты наш кірмаш —*
*Тут шмат што знойдзеш па душы!*

*Так цешаць вока гладышы,*
*Цабэркі, дзежачкі, кашы!..*
*І, быццам пчолы, люд гудзе,*
*Снуе, як тыя мурашы.*

*На беларускім кірмашы*
*Вальготна ўсім, што ні кажы:*
*Гаворка розная чуваць,*
*Бо тут не толькі бульбашы.*

*Хто ўдала гандаль завяршыў,*
*Ільготу, пэўна ж, заслужыў, —*
*І можа смела завітаць*
*Ў карчомку выпіць барышы…*

*Каму ж без песень сумна жыць,*
*Таго яны заваражыць*
*Тут могуць лёгка — й галаву*
*Як моцны хмель той, закружыць!..*

*І я лянотай не зграшыў,*
*А на кірмаш прыйсці рашыў,*
*І з Музай тут сустрэўся зноў*
*Ды вершык гэты завяршыў…*

## «Новая зямля»

*Запала ў сэрца “Новая зямля”.*
*Мне ўспомніцца не раз праз часу замець:*
*У шостым класе з хваляваннем я*
*“Мой родны кут” расказваю на памяць.*

*І лашчыць слых мне шчырай пахвалой*
*Настаўніца, і ставіць мне “пяцёрку”.*
*Што даражэй няма зямлі сваёй,*
*Я з той пары навек засвоіў цвёрда.*

*І сёння праз навалы навальніц —*
*Шчаслівы я, бо ёсць дзе чэрпаць сілы:*
*Я ведаю на памяць да драбніц*
*Свой родны кут, што мне таксама*
*мілы.*

*Я цешуся, як тое немаўля, —*
*Вясна зямельцы справіла абновы;*
*І радуе, што “Новая зямля” —*
*Жыцця падручнік пакаленням*
*новым…*

## Стары музыка

*Бярэ у рукі свой стары гармонік,*
*Садзіцца з ім пад яблыню ў двары,*
*Яму, як сябру, слоўца рад прамовіць,*
*Яго равеснік, гарманіст стары.*

*З ім некалі ўздымаў завею танцаў,*
*І зорачкі запальваў у вачах.*
*І не магла ў адказ не заўсміхацца*
*Яму найпрыгажэйшая з дзяўчат.*

*Ён з ім дарогі франтавыя мераў*
*І на прывалах да грудзей туліў.*
*Ў салдацкіх сэрцах раздзімалі веру*
*Яго мяхі — кавальскімі былі.*

*З гармонікам, параненым асколкам,*
*З вайны дамоў пашчасціла прыйсці.*
*І збіўся з ліку — давялося колькі*
*Сыграць вяселляў шумных і хрысцін.*

*І як бы не стараўся час таропкі,*
*Не парасло нічога забыццём.*
*Стары музыка, быццам тыя кнопкі,*
*Перабірае ў памяці жыццё.*

*А музыка такі настрой стварае,*
*Што й хаты не ўтрымаліся ад слёз.*
*І верыцца яму, што гэта гранне*
*Яго Ганула слухае з нябёс…*



Яўген Гучок

## «На патрэбу душы…»

* * *

*Чужыя словы мне не трэба:*
*Хапае ўласных сэнсаў мне,*
*Што йдуць з падвышанага неба*
*У звеку роднай старане.*

* * *

*Радасць майму сэрцу,*
*Светласць — галаве…*
*На маім балконе*
*Ластаўка жыве.*

*На маім балконе*
*Неба больш штодня…*
*Носіць яго й носіць*
*Новая радня.*

*Радасціцца сэрца,*
*Светла ў галаве…*
*На маім балконе*
*Ластаўка жыве.*

* * *

*Не трэба мне вішні,*
*Не трэба чарэшні…*
*Ляту на сустрэчу*
*З прыгожым і грэшным.*

*Сама такою буду,*
*Як ён,*
*І ўзыдзе над намі*
*Зорак мільён.*

*Не проста ўзыдзе —*
*Рассыпле Ўсявышні*
*Найлепшыя ў свеце*
*Чарэшні і вішні.*

* * *

*Плакаць, паэце, годзе, —*
*Маўляў, даспяваць не змог…*
*Чаго не дачулі людзі,*
*Тое пачуе Бог.*

* * *

*Не гавары, што кнігі Багдановіча*
*З іх беларускасцю губляюцца ў імгле;*
*Наадварот, яны —*
*душы высокай сховішча*
*Ўсе да адной —*
*у Бога на стале.*

* * *

*І што мне Брадвей,*
*І што мне Арбат?!*
*Перада мною —*
*Канат,*
*Па якім я у іншы*
*Свет*
*Павінен свой несці*
*Шкілет.*

* * *

*У школе, дзе мы вучыліся,*
*Усё невымоўна перамянілася;*
*Азіраючыся, стаю —*
*І нічога не пазнаю.*

*І толькі з глыбіняў неба*
*Душы маёй на патрэбу*
*Хмурынка з-пад самага сонца*
*Шле школьны ўспамін бясконцы.*

* * *

*Вецер сонца з вады зрывае*
*І мяне абсыпае ім…*
*І стары, я — у родным краі*
*Адчуваю сябе маладым.*



Зінаіда Дудзюк

## Род

*Разнесла віхура род мой па свеце*
*І няяк жыве ён, дзе сонейка свеціць,*
*Дзе плачуць дажджы*
*па пакінутых хатах.*
*А хто вінаваты? Няма вінаватых…*

*Ці ваявалі — ў зямлі спачывалі,*
*Ці цаліну на гарбах падымалі.*
*Магіл вашых шмат ад Берліна*
*да Омска.*
*Што гэта? Доля, кара ці помста?*

*Толькі разнесла віхура мой род,*
*Уліўся ён сціпла ў нейкі народ,*
*Нават не ведаю, скуль каго клікаць*
*Сталі чужыя ў сям'і мы вялікай.*

## У Хойніках

*Спрадвеку зямля тут радзіла,*
*Кланяўся люд ёй і жыта.*
*Яе называлі радзімай,*
*Радзіннай, сваёй, абжытай.*

*Ёй аддавалі сілу,*
*Сэрцы, памкненні, надзеі.*
*Жалі ўраджай ці касілі,*
*Ніхто не быў тут абдзелены.*

*А сёння зямелька тая*
*Родзіць нячыстае збожжа,*
*Хоць гэтак жа расцвітае*
*З ласкі і літасці Божай.*

## Сад

*Мой юны сад збіраецца цвісці,*
*І я чакаю нецярпліва кветак,*
*Так мо чакаюць ўнукаў або дзетак,*
*Каб радасць незвычайную знайсці.*

*Зусім яшчэ не мару пра плады,*
*Хапае садавіны і ў гандлярак.*
*Мой юня сад — мая старая мара,*
*Якую захавала праз гады.*

*Агортваю карэнне ад марозу,*
*Ахутваю пупышкі ў халады.*
*А дні бягуць. Ад хуткай іх хады*
*Ажно на вочы набягаюць слёзы.*

*Вось-вось павінен зацвісці мой сад…*
*Я падбірала з любасцю ўсе дрэўцы.*
*Пяшчота невыказна спее ў сэрцы*
*І мроіцца дзівосная краса.*

## Дзве ракі

*Рака Няня не няньчыла мяне,*
*Хоць немаўлём і бачыла.*
*Ды дзіўна,*
*Прыснілася ў такім яскравым сне,*
*Што я па беразе яе хадзіла.*
*І быў прыветны той сібірскі край.*
*І родны быў. А я яго не помню.*
*У кожнага здараецца пара*
*Вяртання па нявызнаным законе*
*У страчаны ці мо ў забыты час,*
*У непражыты мо ці пражыты.*
*Не перашкода — стома на плячах,*
*І страх, і золь, і боль разнамаіты.*

*Не няньчыла мяне рака Няня,*
*А па-бацькоўску ўзгадаваў Днярпо,*
*Вучыў душу на дробязь не мяняць,*
*Вучыў не блытаць зло з дабром.*
*Хапіла той навукі мне на век.*
*Днярпо, цябе люблю беззапаветна,*
*Ды недзе ў падсвядомасці жыве*
*Няня здзіўлёна, стоена, прасветла.*



Фота Валянціна Хасяневіча

*Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»*
*і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі*

Кніжны свет

**13 ліпеня 2012 г.**



# Усеагульная «сацыялізацыя»

Сацыяльныя сеткі сёння трывала ўваходзяць не толькі ў жыццё школьнікаў і студэнтаў, якія з дапамогай гэтых платформ знаёмяцца, абменьваюцца патрэбнай інфармацыяй, але і прадстаўнікоў бізнесу. У тым ліку і кніжнага. Як развівалася стаўленне нямецкіх выдаўцоў да сацыяльных сетак у інтэрнэце? Чаму нельга ігнараваць гэты спосаб рэкламы кніг? Як правільна выбраць сацыяльную сетку для размяшчэння на яе аснове інфармацыі пра выдавецтва і кнігі? На гэтыя і іншыя пытанні ў сваім даследаванні адказвае незалежны кансультант Ліндэр Ватыг. Яго артыкул быў апублікаваны ў спецыяльным выпуску газеты uber:blic. German Book Industry Insight (Суперблік. Нямецкая кніжная індустрыя знутры), што выйшаў напярэдадні Франкфурцкага кніжнага кірмашу-2011. Думаецца, вопыт нямецкіх калег будзе карысным і для беларускіх выдаўцоў, таму прапануем увазе чытачоў "Кніжнага свету" артыкул спадара Ватыга ў перакладзе на беларускую мову.

**Рэдактар праекта "Кніжны свет" Марына ВЕСЯЛУХА**

## Нямецкія кнігавыдаўцы ў сацыяльных сетках

**Ліндэр ВАТЫГ**

Інтэрнэт карэнным чынам змяняе шлях выкарыстання сродкаў масавай інфармацыі. Людзі атрымліваюць усё менш інфармацыі з газет, часопісаў ці з праграм навін, больш — з інтэрнэту. Інтэрнэт-карыстальнікі, у сваю чаргу, з вялікай хуткасцю рэгіструюцца ў сацыяльных сетках, такіх, як Facebook, дзе іх цікавіць у асноўным інфармацыя, парэкамендаваная сябрамі і знаёмымі: яны давяраюць ім больш, чым рэкламе. Калі кампанія імкнецца, каб прадукт яе працы можна было знайсці онлайн, яна павінна паклапаціцца пра рэкамендацыі іншых, а гэта намнога складаней, чым проста рэклама. Многія інтэрнэт-карыстальнікі сёння нават мяркуюць, што калі інфармацыя вельмі істотная, яна сама іх знойдзе…




**Цяжкасці, з якімі сутыкаюцца выдаўцы.** Натуральна, гэтая з'ява закранае і выдаўцоў кніг, якія сутыкаюцца з выпрабаваннем: гандаль у звычайных кнігарнях страчвае сваю ролю як асноўны канал распаўсюджвання прадукцыі. Больш за тое, толькі некаторыя сеткі крам дамінуюць у гэтым канале, і выдаўцы, якія не ўключаюць іх у спіс крам-распаўсюджвальнікаў, рызыкуюць трапіць у сітуацыю, што іх кнігі не будуць прадстаўлены на многіх сегментах рынку. Тым не менш існуе шэраг прычын, чаму зварот да працы ў сацыяльных сетках з мэтай устанаўлення прамога кантакту са спажыўцом важны для выдаўцоў.

Чаму ў выніку так і робяць? З 2008 года я рэгулярна сачу за аглядамі актыўнасці нямецкіх выдаўцоў у сацыяльных сетках.

Так, я прыйшоў да высновы, што ў стаўленні выдаўцоў да сацыяльных сетак можна вылучыць тры этапы.

**2008: Сацыяльныя сеткі не ўспрымаюцца сур'ёзна.** У 2008 годзе сацыяльныя сеткі, такія, як Facebook, Twitter, YouTube, былі ці невядомыя многім выдаўцам, ці разглядаліся імі як неістотныя. І толькі маленькія выдавецтвы рабілі першыя крокі ў гэтым кірунку. Становішча ў 2008 годзе было па сутнасці такім жа, як і сёння: выдаўцы прысутнічалі ў сацыяльных сетках, хацелі яны гэтага ці не. Іх прадукцыю абмяркоўвалі карыстальнікі, і некаторыя выдаўцы прыслухоўваліся да іх ці далучаліся да дыскусіі.

**2009: Сацыяльныя медыяплатформы пачынаюць успрымаць сур'ёзна.** Сітуацыя змянілася ў 2009 годзе, калі выдаўцы пачалі сур'ёзна працаваць з новымі платформамі ў сацыяльных сетках. Усё больш і больш выдаўцоў стваралі свае акаўнты на гэтых платформах і ў выніку пачалі распаўсюджваць бліскучую рэкламу. Тым не менш некаторыя сталі выкарыстоўваць індывідуальны падыход, а некаторыя ўспрымалі як поспех той факт, што колькасць іх сяброў у Facebook дасягнула 500 ці 1000, не ведаючы, будуць гэтыя сябры набываць кнігі ці не.

**2010: Сацыяльныя сеткі сталі звыклым метадам рэкламы.** У 2010 годзе для выдаўцоў стала агульнай з'явай звяртацца да выгод сацыяльных сетак. Іх ужо не ўспрымаюць як паралельны сусвет. Доказ таму: раней адрасы ў сацыяльных сетках на сайтах выдавецтваў у асноўным не пазначаліся сярод іншых кантактаў — адраса і тэлефона.

**З вопыту выдаўцоў.** Тып сацыяльных медыяплатформ, які трэба выкарыстоўваць выдаўцам, залежыць ад мэт, якія яны перад сабой ставяць. Да прыкладу, выдавецтва Eichborn паспяхова вядзе блог, інтэрнэт-дзённік, які распавядае пра кампанію. Facebook таксама шырока выкарыстоўваецца, таму што сёння ён лідар сярод сацыяльных сетак Германіі. Twitter — добры спосаб выказаць уласнае меркаванне. YouTube зручны для размяшчэння відэаролікаў, прысвечаных кнігам. Да, прыкладу, выдавецтва Kiepenheuer & Witsch паказвае прыклад, як кнігі можна рэкламаваць інтэлігентна, агрэсіўна, інфарматыўна.

**Прагноз.** У будучыні ўсё ў інтэрнэце стане "сацыяльным". Гэта датычыць і саміх электронных кніг, якія становяцца больш інтэрактыўнымі. Сацыяльныя сеткі важныя не толькі для камунікацыі паміж выдаўцамі і пакупнікамі, яны могуць аказваць добрую дапамогу і на стадыі распрацоўкі прадукта. Такія платформы, як Facebook, дапамагаюць акрэсліць пажаданні чытачоў, якія выдаўцы павінны ўлічваць у будучыні пры распрацоўцы прадукта. Калі ўсё становішча "сацыяльным", то пакупнік таксама перамяшчаецца бліжэй да цэнтра ўвагі. І гэта вельмі спрыяльны шлях развіцця рынку, бо задача выдаўца — злучаць пісьменнікаў і чытачоў.

### *Прэзентацыя*

## Знаёмцеся: "звяздоўскі" шахматны аглядальнік

**Сяргей ШЫЧКО**

*Самобытность Гавриила Вересова / Сост. Э. Колесник, Е. Мочалов; под общ. ред. В. Купрейчика. — Минск: Белпринт, 2011. — 108 с.*

Першым сярод беларусаў звання міжнароднага майстра па шахматах быў ўганараваны Гаўрыіл Верасаў — у 1950 годзе. А нарадзіўся наш зямляк у Мінску 28 ліпеня 1912 года. Першыя шахматныя здабыткі гэтага таленавітага чалавека адносяцца да 1934 — 1937 гг. Яшчэ студэнтам фізіка-матэматычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Г. Верасаў дэбютаваў на IX чэмпіянаце СССР (1934), дзе заняў 13-е месца сярод 20 удзельнікаў. Праз тры гады выйграў кваліфікацыйны матч з лікам 9:7 у Васіля Панова і стаў майстрам спорту СССР. Пяць разоў шахматыст станавіўся чэмпіёнам БССР — у 1936, 1939, 1941, 1958, 1963 гг. Але асаблівa плённа працаваў Гаўрыіл Мікалаевіч у галіне тэорыі шахматнай гульні. Перавёўшыся на завочную форму навучання ў БДУ, Верасаў уладкаваўся шахматным аглядальнікам двзюх рэспубліканскіх газет — беларускай "Звязды" і польскай "Sztandar Wolnosci". Пра гэта і іншыя старонкі з біяграфіі земляка-спартсмена — у кнізе "Самобытность Гавриила Вересова" (Мінск, "Белпрынт", 2012), якую уклалі міжнародныя майстры Э. Калеснік і Я. Мачалаў. Агульную рэдакцыю ажыццявіў міжнародны гросмайстар В. Купрэйчык. Аснову кнігі склаў нарыс вядомага беларускага спартыўнага журналіста Іосіфа Калюты "Век патрыярха", які раней друкаваўся ў часопісе "Нёман".

Знаёмства з кнігай Г. Верасава (а тыраж яе 158 асобнікаў) падштурхоўвае да шэрагу развагі на досыць важныя тэмы. Беларусь — спартыўная краіна. Лёс нашай Айчыны ўвабраў у сябе лёсы многіх знакамітых спартсменаў, алімпійскіх чэмпіёнаў, прызёраў і чэмпіёнаў самых розных сусветных спаборніцтваў. Яшчэ раней зрэдчас у Маскве ці Мінску выходзілі кнігі, прысвечаныя знакамітасцям у беларускім спорце. Сёння выданні такога роду — рэдкая з'ява. А між тым шмат хто з нашых сучаснікаў, якія дасягнулі высокіх спартыўных перамог, вартыя шырокага мастацкага расповеду. Магчыма, пачаткам прыцягнення пісьменнікаў у спартыўную публіцыстыку магла б паслужыць серыя "Жыццё знакамітых людзей Беларусі". Выйшла ж у ёй кніга пра Аляксандра Мядзведзя.




…У кнізе пра Г. Верасава, які ў 1952 — 1958 гадах быў старшынёю Праўлення Беларускага таварыства культурных сувязей з замежжам, выкладаў у Мінскім педінстытуце замежных моў, расказваецца і пра сяброўства шахматыста з вядомымі пісьменнікамі, якія часта былі партнёрамі Гаўрыіла Іванавіча па гульні. А гэта — і Аркадзь Куляшоў, Максім Лужанін, Іван Стаднюк.

### *У падтрымку чытання*



**Сяргей ГАРАНІН, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута мовы і літаратуры імя Янкі Купалы і Якуба Коласа:**

## "Жывы голас продкаў"

— Калі сказаць па праўдзе, не зважаючы на цяперашняе становішча намесніка дырэктара акадэмічнага інстытута, то чытаць я навучыўся даволі позна. Праўда, у літаратуры я быў асобай абазнанай: класа да трэцяга мне ўслых чытала маці. Спачатку гэта былі звычайныя дзіцячыя кніжкі, пасля — "падлеткавыя": "Сын полка" Валянціна Катаева, "Остров сокровищ" Роберта Льюіса Стывенсана і нават "Дзіцячыя гады Багрова-ўнука" Сяргея Аксакава.

З 6 класа пачалося вывучэнне гісторыі сярэдніх вякоў. Падручнік, які, кажуць, выдаваўся ў тагачаснай ГДР, стаў першай маёй сапраўднай кнігай. А ў наступным годзе пачалося сістэмнае вывучэнне гісторыі СССР. У падручніку дробным шрыфтам падаваліся фрагменты летапісаў, гістарычных грамат. Я перачытваў іх дзясяткі разоў! Праз іх адчуваў водар даўняга жыцця, якое было яўна нашым і разам з тым незразумелым і невядомым ні мне, ні аднакласнікам, ні, мусіць, самой настаўніцы. Цікавасць да ўсяго звязанага з гісторыяй сярэдневечча свету, стала пастаяннай, як пастаянным стаў і звычай перачытваць адны і тыя ж тэксты.

Сучасная літаратура мяне мала прываблівала. Не на "другі год", а назаўсёды я застаўся ў 7 класе ці на першым курсе, дзе вывучалася старажытная літаратура. Напэўна, я і мусіў бы быць гісторыкам, а не філолагам. Але на нейкім этапе палічыў, што гісторык праце з "мёртвымі" рэчамі: чарапкамі збанка, якія некалі разбіўся і быў выкінуты, або з дакументам, што некалі меў юрыдычную сілу, а пасля стаў проста паперай. І першае, і другое для гісторыка — тэкст, крыніца інфармацыі, а не жывы, звернуты да асобы твор. Толькі літаратурны тэкст з'яўляецца жывым, бо хто рызыкне сцвярджаць, што Кірыла Тураўскі, аўтар "Слова пра паход Ігаравы", ці аўтар "Жыція Еўфрасінні Полацкай" пісалі не для мяне, а толькі для сваіх сучаснікаў? Старажытная літаратура была звернута ў будучыню. І мы маем унікальную магчымасць чуць жывы голас нашага даўнягa-даўняга продка, уступаць з ім у дыялог, задаваць пытанні і атрымліваць ад яго падказкі і парады.

# Паэзія — пастаяннае напружанне душы...

**Так часта любіць паўтараць удмурцкі паэт і празаік Сяргей Мацвееў. Нараджэннем з 1964 года, ён займае сваё арыгінальнае месца ў нацыянальнай літаратуры. Піша, праўда, не толькі па-удмурцку, але і па-руску. Аўтар сямі кніг паэзіі і дзвюх — прозы. Перакладчык. Член Саюза пісьменнікаў Расіі. Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя Флора Васільева. А таксама — літаратурнай прэміі фонду "Фенна-Угрыя" (Эстонія). Заслужаны работнік культуры Удмурцкай Рэспублікі. Жыве і працуе ў Іжэўску.**

**І яшчэ адно перакананне ад Сяргея Мацвеева: "Каб захаваць сябе як этнас, нам неабходна змяніць адносіны да кнігі, моўнай культуры. Мы, удмурты, станем па-сапраўднаму цікавыя свету толькі ў тым выпадку, калі здолеем упісаць сваё, этнічнае, у адшліфаваныя часам параметры класічнай сусветнай эстэтыкі". Здаецца, тут і дадаць няма чаго.**

**Мікола БЕРЛЕЖ**



**Сяргей МАЦВЕЕЎ**

* * *

Калі паўстала сонца над зямлёй<br>
У першы светлы дзень летазлічэння,<br>
Энергія, што мкнула ўсцяж бруёй,<br>
Яшчэ не мела ў космасе наймення.

Сваё аблічча Бацька-Бог надаў<br>
Адаму з Евай, вы — дзве палавіны,<br>
Гармоніі ўтварыўся вечны сплаў,<br>
Працяў нямы Сусвет да сарцавіны.

Іуда шчэ Ісуса не прадаў,<br>
І жэрдкі шчэ — не ўзлёт распяты крыжа,<br>
І ўвесь Сусвет раззораны вітаў<br>
Не свастыку, што наступае хіжа, —<br>
І Мефістофель быў яшчэ анёл,<br>
Паіў Сусвет гаючым ён ялеем,<br>
І Фауст шчэ над светам не ўзышоў,<br>
Над тым, што сёння ў свеце мы умеем.

**Чырвонае і зялёнае**

І колерамі, і водарам<br>
Сёння мой свет жыве:<br>
Суніцы-іскрыны зводдалі<br>
Ўсміхаюцца мне ў траве.

І што там два колеры — выдумка:<br>
Зялёны й чырвоны ўсяго.<br>
Ды сёння я зноўку выберу<br>
Іх вабны жывы агонь.

Чырвоны сунічны колер<br>
Сягоння я не сарву, —<br>
Пагладжу, душу спатолю,<br>
Малую яе галаву.

Тады мне праменнем сваім<br>
Успыхнуць суніцы ў лясах.<br>
І будзе зырчэць агнявым<br>
Колерам іхні пах.

І хто нам гаворыць: свет<br>
Сэнс страціў, незразумелы?<br>
Калыша увесь Сусвет<br>
Водар сунічны спелы.

* * *

Я ў нечай гульні ўсяго толькі прынада<br>
І гэткі заўважны, як мох на сцяне.<br>
Шчэ сэрцу майму не адкрылася здрада<br>
І пошапак ціхі ўсё чуецца мне

Не толькі з нябёсаў — з-пад глебы, з паветра,<br>
З глыбознае самай, што ёсць, глыбіні.<br>
У пошапку хваляў — пылінка на ветры —<br>
Жыццё маё мкнецца да зор чысціні.<br>
І доўжацца гульні — у зорнасці неба<br>
Знікаюць за імі няўмольныя дні.<br>
Здавён чалавека прыводзіць патрэба<br>
У свет наш трывожны для гэтай гульні.

Калі ж не спасцігнеш гульні тае сутнасць, —<br>
Падумаеш: той, хто ў чаканні знямог,<br>
Каб несці ў міжзор'е жывую прысутнасць,<br>
Не ведае нават,<br>
Што ён і ёсць Бог.

* * *

Зляцяць мае вершы ў касмічную вышь,<br>
Калі на зямлі абарвецца мой крок.<br>
Дзяўчына спляце самы зыркі вянок<br>
З валошак на ўзмежку, дзе жыта і ціш.

Яе, прыгажуню, паглядам крану,<br>
Пачуўшы, як сэрца сціскаецца зноў,<br>
Дыханнем — напружанай хваляй вятроў —<br>
Былое жыццё на імгненне вярну.

Дзяўчына не ведае: кветкі наўкруг —<br>
Нязнаная слову пяшчота мая.<br>
Сарве яна іх і каля ручая<br>
І рушыць яго узбярэжжам на луг.

Забудзецца сном у глыбокай траве,<br>
Праспіць непрабудна да ўсплёску зары.<br>
Сны буду шаптаць ёй аб даўняй пары,<br>
Дзе чуйнае сэрца каханнем жыве.

Як сны, свае вершы убачыць паэт,<br>
Што сыдуць аднойчы з касмічных глыбінь,<br>
Азорацъ Сусвету яны далячынь<br>
І нават тады, калі скончыцца свет.

* * *

Па дарозе, што ў вербах старых,<br>
На Вялікдзень вярнуся дадому.<br>
Ля парога на родным двары<br>
Я, вандроўнік, пакіну утому.

Маці сына пасадзіць за стол,<br>
Бацька чаркаю поўнай прывеціць.<br>
І чырвонае яйка наўкол<br>
Морак раніцы ззяблай прасвеціць.

Маці ў грубцы ўзгадуе агонь,<br>
Бацька гляне дапытліва ў вочы.<br>
Чарку вып'ю адну і ўсяго,<br>
Да наступнай зусім не ахвочы.

"Ну ж і моцная, Божа ты мой!" —<br>
Вытру спехам слязінку-макрэчу.<br>
І агонь асалоды зямной<br>
У сцішэлай душы затрапеча.

Я забуду, з'явіўся адкуль,<br>
Не згадаю, куды адыходзіць.<br>
Ява тая, дзе быў я дасюль,<br>
Сны нязводныя стане наводзіць.

Яйка-чырвань ляжыць на сталe,<br>
Як гармонія светабудовы.<br>
Хоць і вабіць спакусна, але<br>
Ўзяць у рукі яго не гатовы.

Бога я аб адным папрашу:<br>
Хай здаровіцца бацьку і маці.<br>
Просьбай гэтай ніяк не грашу,<br>
З ёй святлей яшчэ зробіцца ў хаце.

*Пераклад з удмурцкай Міколы Мятліцкага.*

# Войти в дом разбитых зеркал

**В Беларуси благодаря издательству "Белпринт" и слависту, академику Ивану Чароте как переводчику на русский язык увидело свет необычайно интересное произведение — Дом разбитых зеркал" Д. Галич Барр.**

**Алексей ТИМОФЕЕВ**




Дойна Галич Барр (Barr) — американская писательница и художница сербского происхождения. Родилась она в Бухаресте (Румыния), а выросла в Белграде (Сербия), где получила среднее и высшее медицинское образование. Но из титовской Югославии выехала во Францию, где занималась больше изобразительным искусством и музыкой, чем медицинской практикой; впоследствии перебралась в США, а там стала высокоавторитетным специалистом в области психиатрии да не менее авторитетной писательницей. Она издала на сербском и английском языках романы "Ангелы без ликов" (2004),"Голубойголубь"(2005),"Колокола и ветер" (2006), "Анна Ли" (2007), "Шар" (2008), "Дом разбитых зеркал" (2008), "Пассия" (2010), "Ужас" (2011). И все ее произведения воспринимаются с неизменным интересом как читателями, так и критиками, переводятся на другие языки, а сама автор удостоена ряда премий, в числе которых — "За творчество жизни" Академии Иво Андрича (2007), "Грамота Кочича" (2008), Международная премия имени Фёдора Михайловича Достоевского (2008).

"Дом разбитых зеркал" — роман, в котором разнопланово и многоуровнево отражается жизнь и творчество весьма неординарной художницы Камил Клодель, сестры известного французского поэта и драматурга Поля Клоделя, тоже являющегося героем этого произведения, как и не менее знаменитый Огюст Роден, ученицей, сотрудницей и интимной подругой которого была главная героиня.

Камил Клодель представлена как личность, обладающая поразительным творческим талантом, природу и сущность которого предлагается читателю осмыслить на основании ее судьбы, истоков специфического вдохновения и, соответственно, результатов художественного творчества.

Автор уделяет пристальное внимание среде, в которой формируется и обретается художница, и прежде всего — взаимоотношениям с Огюстом Роденом. Для нас же это произведение представляет большой интерес как художественная панорама эмигрантского Парижа, в котором значительные роли играют русские аристократы братья Ивановы, прямо и косвенно причастные к судьбе Камил Клодель как "дому разбитых зеркал".

Герои Дойны Галич Баро впечатляют и запоминаются уже потому, что изображены с глубоким проникновением в сферы не только сознательного, но и подсознательного.

Особый интерес представляет то, что писательница, будучи православной и выразив это в ряде своих романов, данное своё повествование осуществила в исключительно редком жанре мистического (а можно сказать, эзотерического) романа. И эти особенности отражены, кстати, как в содержании, так и в структуре произведения, и даже в названиях глав.

# Распавед пра жыццё

**Прэзентацыя кнігі Іосіфа Грайфера "Короткий рассказ о длинной жизни: свидетельства трагедии и борьбы в Минском гетто 1941 — 1944гг.", якая прайшла ў Гістарычнай майстэрні, яшчэ раз даказала, што абыякавых людзей да гэтай тэмы няма.**

**Яўгенія БЕЛІНА**

Кіраўнік Гістарычнай майстэрні, дацэнт гістарычнага факультэта БДУ, рэдактар кнігі Кузьма Казак распавёў: "Мы доўга чакалі гутаркі з Іосіфам Грайферам — адным з найбольш значных даследчыкаў трагедыі Мінскага гета, не раз прасілі яго запісаць успаміны".

Прадстаўлены для выдавецтва былым вязнем Мінскага гета Іосіфам Грайферам тэкст публікуецца без змен. Толькі некаторыя моманты, па ўзгадненні з аўтарам, былі ўдакладнены. Ведаючы пра мноства літаратурных тэкстаў па гісторыі Халакосту, Іосіф Грайфер імкнецца як мага больш дакладна распавесці пра ўбачанае.

На вялікі жаль, сам аўтар не змог прысутнічаць на прэзентацыі, замест яго прыйшоў сын — Анатоль Грайфер. Расказваючы пра бацьку, ён нібы сам перажыў усё тое, што адбывалася з І. Грайферам.



# Галоўнае з усіх мастацтваў

**Выдавецкі Дом "Беларуская навука" выпусціў грунтоўнае выданне, падрыхтаванае супрацоўнікамі аддзела тэатральнага мастацтва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Гэта комплекснае даследаванне "Тэатральнае мастацтва", якое з'яўляецца чарговым, трынаццатым томам серыі "Беларусы". Навуковы рэдактар выдання — член-карэспандэнт НАН Беларусі Аляксандр Лакотка. У новай кнізе прасочваецца гісторыя айчыннага тэатральнага мастацтва — ад вытокаў да сучаснасці. Разглядаюцца праблемы нацыянальнай тэатральнай спадчыны і сучаснага стану сцэнічнага мастацтва Беларусі. Важкі фаліянт аб'ёмам 55,6 друкаваных аркушаў выдадзены тыражом 800 экзэмпляраў і адрасуецца шырокаму колу чытачоў: мастацтвазнаўцам, гісторыкам, практыкам тэатра, выкладчыкам, студэнтам профільных ВНУ, аспірантам — наогул, усім, хто цікавіцца развіццём культуры і мастацтва беларусаў.**



*Вераніка Ярмалінская.*

**Вера КОЗЕЛ**

Распавесці пра новае выданне "ЛіМ" папрасіў загадчыка аддзела тэатральнага мастацтва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі, кандыдата мастацтвазнаўства Вераніку ЯРМАЛІНСКУЮ.

**— Вераніка Мікалаеўна, у асяроддзі вашых калег галоўным з усіх відаў мастацтва называюць, вядома ж, тэатр...**

— ... і кожнае новае выданне ў гэтай сферы — вялікая падзея для нас. Калісьці такой падзеяй стаўся выхад у свет аднаго з самых грунтоўных на сённяшні дзень даследаванняў — "Гісторыі беларускага тэатра", выдадзенай у трох тамах і чатырох кнігах пад рэдакцыяй заснавальніка нашай айчыннай тэатразнаўчай школы — Уладзіміра Няфёда. Апошні том выйшаў у 1987 годзе. Чым адрозніваецца трынаццаты том серыі "Беларусы" —"Тэатральнае мастацтва", выдадзены сёлета? У ім ёсць матэрыялы ўжо нашага часу, бо гісторыя беларускага тэатра прасочваецца тут ад вытокаў да 2010 года. Гэтае выданне бліжэй да энцыклапедычнага, больш насычанае датамі, назвамі спектакляў, імёнамі. Хаця, безумоўна, тут ёсць і аналіз значных пастановак, выключных акцёрскіх работ, сцэнаграфічных адкрыццяў.

Асобныя раздзелы выдання прысвечаныя тэатру XVII — XVIII стагоддзяў, звязаных з узнікненнем на Беларусі скамарохаў, школьнага тэатра, батлейкі. Падрабязна даследуецца драматургія XIX стагоддзя, якая сталася асновай прафесійнага тэатральнага мастацтва. З'явіліся асобныя раздзелы па сучаснай драматургіі, упершыню ўведзена ў кантэкст гісторыі тэатра дзейнасць Менскага беларускага тэатра, які існаваў у Мінску ў гады акупацыі. Аналізуецца драматургія Францішка Аляхновіча і пастаноўкі паводле яго п'ес. У шэрагу раздзелаў даследуецца гісторыя і сучасны стан прафесійных нацыянальных тэатраў краіны: Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. Разглядаецца таксама дзейнасць новых калектываў, якія ўзніклі ў 90-я гады мінулага стагоддзя: Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, Новага драматычнага тэатра г. Мінска, Мазырскага драматычнага тэатра імя І. Мележа, Пінскага гарадскога драматычнага тэатра і іншых. Том дапаўняюць раздзелы, якіх не было ў папярэдняй гісторыі тэатра: тэатральна-студыйны рух 80 — 90-х гадоў мінулага стагоддзя, сцэнаграфія драматычных тэатраў, музыка ў драматычных пастаноўках і некаторыя іншыя. Відавочна, што выданне прысвечана драматычным тэатрам краіны, спектаклі якіх ідуць пераважна на беларускай мове. Хаця ў яго мог бы быць уключаны аналіз і айчынных лялечных тэатраў, якія сёння працуюць вельмі цікава ў самых розных аспектах: драматургіі, рэжысуры, сцэнаграфіі, акцёрскага выканання. Гэта ўпушчэнне фундаментальнага даследавання тэатральнага працэсу Беларусі. Аднак "Тэатральнае мастацтва" не прэтэндуе на бездакорнасць. Кніга магла б быць дапоўнена рознымі іншымі важнымі матэрыяламі, якія, я спадзяюся, будуць апублікаваныя ў іншых выданнях аддзела тэатральнага мастацтва ІМЭФ імя К. Крапівы.

**— Калі ласка, некалькі слоў пра тых, хто працаваў над новай кнігай.**

— "Тэатральнае мастацтва" рыхтавалі да друку вядучыя тэатразнаўцы, супрацоўнікі нашага аддзела. Сярод іх дактары мастацтвазнаўства Анатоль Сабалеўскі, Рычард Смольскі, кандыдаты мастацтвазнаўства Тамара Гаробчанка, Ала Савіцкая ды іншыя. Былі запрошаныя для напісання асобных раздзелаў такія вядомыя вучоныя, як літаратуразнаўца Сцяпан Лаўшук, музыказнаўца Надзея Юўчанка, тэатразнаўца Вячаслаў Іваноўскі. У кнізе таксама выкарыстаныя напрацаваныя раней матэрыялы Уладзіміра Няфёда па гісторыі акадэмічных тэатраў Беларусі. Падкрэслю, што "Тэатральнае мастацтва" пабачыла свет дзякуючы Выдавецкаму Дому "Беларуская навука": без нашага акадэмічнага выдавецтва гэтай кнігі проста не было б, фундаментальная праца вялікага калектыву засталася б толькі рукапісам. Мы ўдзячныя дырэктару выдавецтва Аляксандру Сташкевічу, галоўнаму рэдактару Георгію Кісялёву, нашаму непасрэднаму рэдактару Таццяне Пятровіч, мастацкаму рэдактару Таццяне Царовай, тэхнічным рэдактарам Марыне Савіцкай і Ніне Кашубе. І спадзяёмся на далейшае супрацоўніцтва з "Беларускай навукай".

**— І што ж, Вераніка Мікалаеўна, у планах вашага аддзела?**

— Плануем падрыхтаваць да выдання новыя манаграфіі нашых супрацоўнікаў і калектыўныя працы. Гэта і манаграфія Рычарда Смольскага, у якой аналізуецца творчасць выдатнага майстра айчыннай сцэны, народнага артыста СССР, акцёра-купалаўца і рэжысёра Леаніда Рахленкі. Гэта і калектыўныя зборнікі, прысвечаныя стану сучаснага беларускага тэатральнага мастацтва. Напрацоўваецца матэрыял па абласных драматычных тэатрах — Гродна, Магілёва, Гомеля; чакаюць увагі даследчыкаў лялечныя тэатры; у аддзеле распачата работа па тэме сцэнаграфіі музычнага тэатра; нашы супрацоўнікі працягваюць займацца тэмамі драматургіі, рэжысуры, акцёрскага майстэрства — усім самым галоўным, з чаго складаецца спектакль. Адным словам, праблемы нашага айчыннага тэатра імкнёмся вывучаць featuresнабакова і глыбока.

**— У чым, на вашу думку, актуальнасць працы аддзела тэатральнага мастацтва?**

— Вось гэта — самае галоўнае пытанне для мяне і маіх калег! Айчыннае тэатразнаўства — такая навука, у якой ёсць рэальны і сам па сабе актуальны прадмет даследавання: 27 прафесійных тэатраў Беларусі, якія кожны свой сезон выпускаюць новыя спектаклі і ці не штовечар збіраюць самых розных людзей у вялікіх і малых залах, ладзяць з імі душэўны і эмацыянальны кантакт. Значыць, ёсць вельмі сур'ёзная падстава для аналізу сучасных пастановак, для вызначэння іх месца ў тэатральным працэсе і, так або інакш, у жыцці грамадства. Тэатр для нас, тэатразнаўцаў, і сапраўды з'яўляецца галоўным з усіх відаў прафесійнага мастацтва. І калі мы будзем гэта пастаянна даказваць самім сабе праз адданае служэнне нялёгкай мастацтвазнаўчай навуцы, дык і ўсе, хто з намі побач, людзі іншых прафесій, гледачы, таксама ўсвядомяць прыярытэт тэатра сярод іншых мастацтваў. Таму я і хачу, каб мы імкнуліся ў Тэатр, любілі Тэатр, разважалі пра яго як пра жывую істоту, жылі Тэатрам — толькі тады будзе жывой наша цудоўная прафесія і нашы кнігі будуць патрэбныя і выдаўцам, і чытачам.

# «Ужытковая» мініяцюра

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Знакі паштовай аплаты ды іншыя атрыбуты традыцыйнага спосабу камунікацыі ў большасці з нас не выклікаюць ні рамантычных сентыментаў, ні эстэтычных пачуццяў. Аднак ёсць людзі, у якіх да канвертаў і марак, да штэмпеляў гашэння і нават "бескарысных" паштовых блокаў — трапяткое і зусім не ўтылітарнае стаўленне. Філатэлісты? Так. А яшчэ тыя, хто ўмее ва ўсіх гэтых побытавых дробязях заўважаць мастацтва і цаніць прыгожы дызайн. Дык вось, у аматараў збірання марак, паштовых картак і канвертаў з малюнкамі з'явіўся шанц папоўніць свае калекцыі ліпеньскімі навінкамі. Міністэрства сувязі ды інфарматызацыі Беларусі выпусціла ў абарачэнне (тыражом 20 тысяч штук) паштовы блок "125 год з дня нараджэння Марка Шагала". У цэнтры яго — марка з вядомым партрэтам мастака, створаным Ю. Пэнам. Блок выйшаў у абарачэнне 7 ліпеня, і ў гэты дзень у аддзяленні паштовай сувязі № 15 Віцебска ажыццяўлялася спецыяльнае гашэнне на канверце "Першы дзень". Аўтар мастацкага афармлення блока і канверта — Ганна Малаш. Яна ж — мастак спецыяльнага паштовага штэмпеля, у графічных лініях якога ўвасоблены вобраз М. Шагала з палітрай і пэндзлямі ды памятны юбілейны надпіс.

А 10 ліпеня ў памяшканні мінскага паштамта праводзілася спецгашэнне на канверце "Першы дзень" з нагоды выпуску паштовай маркі "Айчынная вайна 1812 года" (тыраж — 80 тыс.). Мастак гэтай каляровай мініяцюры, канверта і спецыяльнага штэмпеля — Арцём Рыбчынскі. Не застаўся без увагі паштавікоў і XXI міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". На час яго правядзення, з 12 па 18 ліпеня, уведзены спецыяльны штэмпель для працэдуры памятнага гашэння, якая ажыццяўляецца ў сталіцы свята, у аддзяленні паштовай сувязі № 15. РУП "Белпошта" прысвяціла фестывалю і мастацкі маркіраваны канверт (тыраж — 50 тыс.). Аўтар і яго маляўнічага афармлення, і малюнка на спецыяльным штэмпелі — мастачка Алена Мядзведзь.

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА, фота аўтара**

Афіцыйнае закрыццё сезона Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбылося яшчэ ў сярэдзіне чэрвеня, але творчае жыццё ў яе сценах не перапыняецца. Зусім нядаўна тут быў ажыццёўлены выбітны міжнародны музычны праект. У выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава, амерыканскіх салістаў-спевакоў Майкла Рэдзінга, Кеарстын Пайпер Браўн і хору Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (мастацкі кіраўнік Інеса Бадзяка) адбылася аншлагавая прэм'ера своеасаблівай кампазіцыі паводле старонак знакамітай оперы амерыканскага кампазітара-класіка Д. Гершвіна "Поргі ды Бес".

Межаў для творчасці няма — сцвярджаюць арганізатары і ўдзельнікі міжнароднага фестывалю "Крок насустрач". Гэты творчы форум дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі пяты раз прайшоў у расійскім Санкт-Пецярбургу. Для ўдзелу ў фестывальных імпрэзах журы выбрала каля 500 фіналістаў — юных творцаў з праблемамі здароўя, захопленых дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам, харэаграфіяй, музыкай. Беларусь тут ужо не ўпершыню прадстаўлялі выхаванцы філіяла сталічнай ДМШМ № 19 для невідушчых і дзяцей са слабым зрокам. Як паведаміла загадчыца філіяла А. Маслава, ансамбль акардэаністаў "Асарці" пад кіраўніцтвам М. Дорасевай віртуозна і эмацыянальна выступіў у самай вялікай — на 5 тысяч гледачоў — зале Санкт-Пецярбурга "Октябрьский". А ўладальніцы ўнікальнага голасу Патрыцыі Курганавай давялося спяваць у суправаджэнні лепшых аркестраў паўночнай расійскай сталіцы.

Пасольства Чэшскай Рэспублікі ў нашай краіне наладзіла выстаўку жывапісных работ маладога беларускага творцы Дзяніса Барсукова, вядомага таксама сваімі пошукамі ў іншых відах візуальнага мастацтва. Назва экспазіцыі — "13" — не мае нейкага патаемнага сэнсу: гэта проста лічба, якая пазначае колькасць выстаўленых твораў. Самі ж яны адлюстроўваюць пэўныя перыяды ў творчым развіцці мастака, яго стылёвыя прыхільнасці: ад постімпрэсіянізму да наіўнага мастацтва, ад глыбінных традыцый народнай дэкаратыўна-прыкладной творчасці да сучасных авангардных плыняў. У кожнай выяве адчуваецца мастакоўская назіральнасць, імкненне да вобразнай афарыстычнасці жывапіснага выказвання і цёплая ўсмешка аўтара.

Рамазан Махмудаў, ураджэнец Дагестана, жыве ў Віцебску і захапляецца культурай Каўказа. Яго багатая прыватная калекцыя дэманструе ўнікальнасць дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва таленавітых майстроў Дагестана. Гэтым летам яна экспануецца ў Гомелі, у палацы Румянцавых і Паскевічаў. Выстаўка "Гонар і веліч краіны гор" складаецца з узораў мастацкай апрацоўкі металу (калекцыйная халодная зброя, упрыгажэнні, посуд), з нацыянальных строяў, дывано\u045e, керамікі.

# Трыўмфальны бег Халстамера

Людміла БУНЕЕВА

**Спектакль брэсцкіх лялечнікаў увайшоў у чацвёрку лепшых на Сусветным фестывалі тэатраў лялек у кітайскім горадзе Чэнду. Да нядаўняга часу самай аддаленай кропкай на карце, куды дабіралася брэсцкая лялька, заставаўся расійскі Омск. (Заходнюю Еўропу, добра асвоеную берасцейцамі, у разлік не бяром з прычыны яе кампактнасці.) Але мінулы рэкорд пратрымаўся да сёлетняй вясны. Майскім днём восем пасланцоў Брэсцкага абласнога тэатра лялек сышлі з трапа самалёта ў аэрапорце кітайскага мегаполіса. 13-гадзінны пералёт азначаў не толькі адкрыццё новай геаграфічнай прасторы, але і прарыў да аўдыторыі з іншай культурай і ментальнасцю.**

**Сталіца** кітайскага поўдня, 15-мільённы Чэнду прымаў у сябе XXI кангрэс Міжнароднага саюза дзеячаў тэатраў лялек UNIMA і звязаны з ім Сусветны фестываль тэатраў лялек. Гэтыя "лялечныя Алімпійскія гульні" праводзяцца раз на чатыры гады і даюць выдатны шанц амбітным калектывам заявіць пра сябе на самым высокім узроўні.

Дырэктар Брэсцкага абласнога тэатра лялек і яго мастацкі кіраўнік Міхаіл Шавель урэшце прызнаўся: кітайскі Чэнду значыўся ў яго асабістым творчым плане. Як, дарэчы, і французскі Шарлевіль-Мез'ер з яго самым прэстыжным еўрапейскім фестывалем. Але калі шарлевільская мара спраўдзілася год таму, то "кітайскую сцяну" яшчэ належала прабіць.

**За год да форуму** берасцейцы накіравалі заяўку на ўдзел. На разгляд адборачнай камісіі яны прапанавалі спектакль "Халстамер" па матывах аповесці Льва Талстога. Гэтая пастаноўка, якую ажыццявіў з брэсцкімі акцёрамі санкт-пецярбургскі рэжысёр Руслан Кудашоў, зрабілася сапраўдным талісманам тэатра. Яна прынесла пяць галоўных узнагарод на прэстыжных фестывалях Заходняй і Усходняй Еўропы. Але гэтым разам адказ адборачнай камісіі не адразу быў станоўчы: ад беларускіх лялечнікаў запатрабавалі падрабязнае апісанне спектакля, бо з відэаматэрыялу не ўсё зразумелі. Ды нарэшце прыйшла радасная навіна: "Халстамер" уключаны ў праграму Сусветнага фестывалю.

Дырэктар, перакладчык, чатыры акцёры і два тэхнічныя спецыялісты ляцелі ў Кітай праз Арабскія Эміраты. Багаж складаўся з лялек, касцюмаў і рэквізіту. Дэкарацыі мелася зрабіць на месцы. Тамтэйшы персанал загадзя атрымаў тлумачэнне, колькі дошак і якіх памераў трэба падрыхтаваць. Праз гэтыя самыя дошкі і пачалося для берасцейцаў спасціжэнне кітайскага характару з яго дысцыплінаванасцю і стараннасцю. Напрыклад, каб паказаць беларусам піламатэрыялы, кітайцы проста прывезлі іх у парк, дзе госці праводзілі прэзэнтацыю свайго тэатра. У нас зрабілі б наадварот.

Забаўны выпадак адбыўся падчас мантажу дэкарацый. З цікавасцю пазіралі нашы землякі на "алгарытм дзеяння" па-кітайску. Скажам, звяртаюцца нашы тэхнікі да чэндунскіх калег па цэху: "Пакажыце, калі ласка, магчымасці асвятлення!" У адказ чуюць: "Трэба ўзгадніць гэта з лідарам!" Пытаюцца, ці можна вунь той адрэзак тканіны выкарыстаць на кулісу, чуюць ужо знаёмае: "Трэба ўзгадніць з лідарам!" Праўда, просьбы задавальняліся хутка, хаця і стваралася ўражанне, што без дазволу старэйшага і кроку нельга ступіць. Калі ж беларусы ўзяліся за мантаж дэкарацый і дырэктар тэатра нароўні з падначаленымі арудаваў сякеркай, пілкай, нажоўкай, здзіўленню кітайскага персаналу не было межаў: "О, у нас лідар толькі ўказвае, што рабіць!"

**Урачыстае адкрыццё** свята праходзіла ў Парку культурнай спадчыны, які быў створаны да XXIX Летніх Алімпійскіх гульняў 2008 года. Сваёй маляўнічасцю і маштабнасцю гэтае відовішча, бадай, не саступала цырымоніі адкрыцця самой Алімпіяды. Беларусы не толькі не згубіліся сярод 102 калектываў-удзельнікаў з 46 краін, але і пастаянна знаходзіліся пад прыцэлам тэле- і фотакамер. Апранутыя на ўрачыстасць белыя "анёльскія" рызы з першай дзеі "Халстамера" вельмі ўдала вылучаліся сярод агульнай стракатасці.

Праходзілі фестывальныя спектаклі на 31 сцэнічнай пляцоўцы. Берасцейцам выпала іграць на падмурках з сімвалічнай назвай — Тэатр мары. У які ўжо раз пераканаліся: для ўніверсальнай мовы лялечнага мастацтва не існуе межаў. Шчымлівая гісторыя каня, што верай і праўдай служыў няўдзячнаму чалавеку, здатная ўзрушыць гледача незалежна ад колеру яго скуры. "Павінен усё ж такі зазначыць, што ў Еўропе і ў Азіі рэакцыя публікі вельмі адрозніваецца, — гаворыць Міхаіл Шавель. — Еўрапейцы адкрыта выказваюць свае эмоцыі: не скупяцца на воплескі і воклічы "брава!", могуць некалькі разоў выклікаць артыстаў на сцэну. У Азіі не так! Тут рэакцыя больш стрыманая. Свае пачуцці чалавек Усходу не выстаўляе напаказ. Здагадацца пра яго адносіны да відовішча можна толькі па нейкіх ускосных прыкметах. Напрыклад, за 55 хвілін нашага спектакля (а мы рабілі два паказы) ніводны чалавек, нават з ліку тых, хто прыйшоў з малымі дзецьмі, не пакінуў залу. Пасля фінальнай сцэны амаль усе імкнуліся сфатаграфавацца з артыстамі".

І ўсё ж такі эмацыянальны ўсплёск, што ішоў ад самага сэрца, берасцейцам давялося адчуць. Да іх падышла ўсхваляваная кітаянка паважанага ўзросту і прызналася, што ўвесь спектакль яна глядзела са слязамі ў вачах. За 70 гадоў свайго жыцця яшчэ ніводнае відовішча яе так не ўзрушвала. Гэтай удзячнай глядачкай аказалася рэжысёр грандыёзнага шоу, якім пачыналася афіцыйнае адкрыццё кангрэса. Ацэнка спецыяліста такога ўзроўню дорага каштуе!



*Міхаіл Шавель (злева) прымае віншаванні з перамогай ад прэзідэнта UNIMA Дадзі Падумжы (Індыя).*

**Ажно да цырымоніі** закрыцця беларусы заставаліся ў няведанні наконт свайго рэйтынгу. Пачалося абвяшчэнне вынікаў — імпрэза не менш грандыёзная за адкрыццё. Журы не скупілася на ўзнагароды. Адных удзельнікаў заахвочвалі за захаванне нацыянальных традыцый, другіх — за наватарства… Адзначаныя выходзілі на сцэну адразу з узнагародамі, якія, дзеля эканоміі часу, ім уручалі за кулісамі. Берасцейцаў на сцэну не выклікалі…

І вось у зале ўсталявалася асаблівая атмасфера напружанага чакання: надышоў момант абвясціць уладальнікаў галоўнай узнагароды фестывалю — "Best play" ("Лепшае прадстаўленне"). Пад купалам вялікай залы разнеслася: "Беларусь! «Халстамер»"! Міхаіл Шавель узняўся на сцэну, дзе яго радасна віталі першыя асобы UNIMA і кіраўнікі нацыянальных цэнтраў. Генеральны сакратар саюза Жак Трудо (Канада) уручыў беларускаму калегу памятны знак з "унімоўскай" эмблемай, стылізаваны пад узор кітайскай каліграфіі. Такія ж важкія празрыстыя шасціграннікі атрымалі прадстаўнікі яшчэ трох краін — ЗША, Нарвегіі і Кітая.

Упісана новая старонка ў гісторыю беларускага мастацтва лялькі. Дагэтуль ніводны тэатр нашай краіны не ўзнімаўся да такіх вышынь. І першымі гэта зрабілі берасцейцы — заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь, які, між іншым, працуе ў часова прыстасаваным памяшканні і ніяк не дачакаецца ўзвядзення ўласнага "тэатра мары", адпаведнага яго заслугам перад Айчынай.

А Чэнду, мабыць, стаў для артыстаў з Брэста брамай у краіны Паўднёва-Усходняй Азіі: "Халстамер" зацікавіў арганізатараў фестываляў з Японіі і Паўднёвай Карэі.

Тым часам наш тэатр выправіўся ў Тэгеран. На сустрэчу з іранскім гледачом павезлі "Халстамера" і "Месяц Сальеры".

# Прароцтва над калыскай



*Заслужаны артыст Беларусі Аляксандр Падабед (Янка Купала) у спектаклі "Сны аб Беларусі".*

**П'есы Янкі Купалы, адметныя жыццёвасцю, глыбокім псіхалагізмам, яркасцю характараў, сталіся вялікім унёскам у тэатральнае мастацтва. Тэатр у сваю чаргу з цікавасцю даследуе асобу Купалы і яго творчы свет у сучасных пастаноўках. Нацыянальны акадэмічны тэатр, які носіць імя славутага класіка, да 130-годдзя з дня яго нараджэння ўвасобіў драму ў дзвюх дзеях пад назвай "Сны аб Беларусі".**

**Кацярына ВАРОНІНА, фота Аляксандра Дзмітрыева**

Рэжысёр Уладзімір Савіцкі стварыў спектакль паводле п'есы Уладзіміра Караткевіча "Калыска чатырох чараўніц" з выкарыстаннем твораў Янкі Купалы. Як і назва п'есы, пастаноўка, напоўнена паэтычнасцю, таямнічай метафарычнасцю. Галоўны герой драмы Янка Луцэвіч (артыст М. Зуй) — вызначаецца лірычнасцю натуры, тонкім душэўным складам і ў той жа час моцным духам. З першага дня з'яўлення Янкі на свет побач з яго калыскай знаходзяцца чатыры чараўніцы. Яны прарочаць немаўляці складаны лёс і асаблівую наканаванасць: з "пустэчы і папёлаў" стварыць Беларусь моцную, скінуць ланцугі з дум простага народа. Янка сталее, і думы пра наваколньае жыццё, пра становішча блізкіх яму людзей трывожаць і гнятуць хлопца. Ён ідзе ў вялікі свет...

Рэжысёр-пастаноўшчык, творча перачытваючы п'есу У. Караткевіча, уводзіць у спектакль постаць сталага паэта: Іван Дамінікавіч Луцэвіч нібы назірае за самім сабой, за маладым Янкам Луцэвічам. У адной сюжэтнай лініі пераплятаюцца былое і будучыня таленавітай і трагічнай асобы. Артыст А. Падабед у ролі народнага паэта настройвае гледача на суперажыванне пачуццям, думкам, хваляванням Купалы, чые апошнія хвіліны жыцця нагадваюць у спектаклі дэтэктыў.

Так, пачынаецца і заканчваецца пастаноўка высвятленнем кампетэнтнымі асобамі акалічнасцей гібелі беларускага паэта ў маскоўскай гасцініцы.

"Сны аб Беларусі" складаюцца з адметных сцэн "Купалле", "Баль", "Кірмаш", "Каханне", "Хаўтуры", "Шынкоўня", "Русалкі". Яны ўражваюць фальклорным каларытам: пластычнымі танцамі, дзявочымі спевамі, народнымі гульнямі, прыпеўкамі, прымаўкамі, інструментальнымі найгрышамі. А ўдзел у спектаклі запрошаных артыстаў фальклор-тэатра "Госьціца" пад кіраўніцтвам Л. Сімаковіч уносіць у гэтую работу купалаўцаў сваю шчырую беларускую ноту.

**З 2 па 6 ліпеня ў Мінску прайшоў IX Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў "Тэатральны куфар". У свой перад'юбілейны год Куфар вырашыў адзначыцца нечым неспадзяваным. Таму, відаць, і стаў называцца "спецыяльным".**

**Алена ШАНДРАК**

За Гран-пры фестывалю змагаліся 13 тэатраў з дзесяці краін. Сваю творчасць і свой імпэт беларускай публіцы прадэманстравалі калектывы з Беларусі, Расіі, Украіны, Кітая, Уругвая, Філіпін, Грузіі, ЗША, Францыі, Літвы. Усяго ж на ўдзел у конкурсе было пададзена каля 70 заявак.

Насамрэч такая цікавасць да форуму зусім не выпадковая. У гэтым годзе "Тэатральны куфар" праходзіў у рамках IX Сусветнага кангрэса Міжнароднай асацыяцыі ўніверсітэцкіх тэатраў, які Мінск прыняў упершыню. Абмеркаваць моладзевае тэатральнае мастацтва ў Беларусь прыехалі прафесіяналы з 35 краін свету: рэжысёры, крытыкі, навуковыя дзеячы, прафесійныя акцёры і акцёры-аматары. Ганаровымі гасцямі кангрэса сталі Генеральны сакратар Міжнароднага інстытута тэатра ЮНЕСКА Тобіас Бьянконе і вядомы расійскі тэатральны крытык Павел Руднеў.

Яшчэ адна неспадзяванасць — адсутнасць прафесійнага журы і ўсіх намінацый, акрамя адной: прыза глядацкіх сімпатый. Каму дастанецца маленькі Куфар у гэтым годзе, вызначалі выключна гледачы. І свае галасы яны аддалі спектаклю "Вячэра з Чэхавым" у пастаноўцы тэатра "PS09" Універсітэта прыкладных навук г. Вільнюса (Літва). Быў уручаны, дарэчы, яшчэ адзін прыз — чырвоны студэнцкі дыплом, які ўжо другі год рыхтуе для ўдзельнікаў інтэрнэт-партал "Тэатральная Беларусь". У гэтым годзе "выдатнікам" стаў "Гамлет ці тры хлопчыкі і адна дзяўчынка" (Тэатр-лабараторыя "Alma Alter" Сафійскага ўніверсітэта, Балгарыя).

Акрамя таго, падчас фестывалю прайшоў спецпраект "Па кім звоніць звон...", прысвечаны Дню Незалежнасці Беларусі. Пастаноўкі на тэму Халакосту — "Без назвы" і "Планета попел" — прапанавалі беларуская эксперыментальная лабараторыя "ТэатральнЫ квадрат" і акцёры грузінскага Дзяржаўнага ўніверсітэта Ілы. Гэтыя спектаклі не ўвайшлі ў конкурсную праграму, але ж паказалі гледачам розны погляд на жахі вайны.

Канцэпцыя фестывалю-2012 — самы душэўны фестываль. "Мы доўга думалі, чым жа наш форум адрозніваецца ад астатніх. І прыйшлі да высновы, што мы не эстрадная шоу і не прафесійны тэатр, а тое мерапрыемства, дзе акцёр-студэнт і глядач-студэнт могуць паразмаўляць па душах. Не заўсёды разумеючы адзін аднаго вербальна, але разумеючы эмацыянальна", — сказала дырэктар фестывалю Кацярына Саладуха.

Гэтую думку арганізатары пацвердзілі і тым, што ўсе заяўленыя спектаклі прайшлі на нацыянальных мовах. Такім жа пацвярджэннем стаў традыцыйны "Вечар сяброўства", дзе кожны тэатр прэзентаваў сваю краіну: спачатку нацыянальнымі стравамі, а потым народнымі танцамі, песнямі і гульнямі.

# Вандроўка па галактыцы



*Тэатр па-кітайску таксама зразумелы.*

**Так-так, і цяпер я хачу запрасіць Вас, паважаны чытач, наведаць планеты, дзе адбываецца тэатральны цуд, дзе не трэба ведаць кітайскую мову, каб зразумець спектакль з Кітая, дзе гавораць паміж сабой мовай жэстаў і пачуццяў.**

**Дзень першы. Планета Кітай**

Тэма непаразумення бацькоў і дзяцей будзе існаваць да таго часу, пакуль будуць існаваць бацькі і дзеці. Нежаданне жыць так, як загадваюць, імкненне ісці супраць правілаў, змагацца за сваё шчасце — будуць актуальнымі заўсёды. П'еса Цао Юя "Сям'я" паказвае, як тры жанчыны процістаялі грамадству, каб зберагчы каханне. Жанр мюзікла, які быў абраны рэжысёрам, вельмі ўдалы менавіта для гэтага спектакля. Тое, што глядач мог бы не зразумець, калі б гэта было проста сказана, ён змог успрыняць пачуццёва, праз песні.

**Дзень другі. Планеты жаху, любові і справядлівасці**

Спецпраект "Па кім звоніць звон" быў прадстаўлены двума спектаклямі: "Без назвы" эксперыментальнай лабараторыі БДУ "ТэатральнЫ квадрат" і "Планета попел" грузінскага Тэатра ўніверсітэта Ілы, зробленымі паводле ўспамінаў вязняў канцэнтрацыйных лагераў. Зусім розныя пастаноўкі, але ж і першая, і другая кантактуюць з гледачом, спрабуюць зацягнуць яго ў дзею. Пасля гэтых насамрэч цяжкіх спектакляў трэба даць думкам адпачыць. Здавалася б, амерыканская музычна-пластычная інтэрпрэтацыя Т. Уільямса "Пагавары са мной" з першых жа гукаў сучаснай моладзевай музыкі вызначае трыумф жарсці і сексуальнасці. На самай справе аказваецца глыбокай, пранізанай пачуццямі драмай з мараллю "Усё, што нам трэба, — гэта каханне". Далей нас запросяць на планету Уругвай, дзе за злачынствам абавязкова адбудзецца пакаранне. Але рускі класік у лацінскай апрацоўцы гучыць не тое што несправядліва, а неяк нават сумна.

**Дзень трэці. Планеты выбару**

Беларусь у галактыцы Куфар прадстаўляе тэатр "На балконе" са спектаклем паводле п'есы У. Бозькі "Колы". Дзе пачынаецца смерць і заканчваецца жыццё? Хто стане пасярэднікам паміж душой і целам, калі яны ў сварцы? Хто такі гандляр думкамі? "Колы" паспрабавалі патлумачыць, але цяжкаваты, занадта філасофскі тэкст п'есы ўсё ж такі пакінуў больш пытанняў, чым адказаў. Украінская "Містэрыя кахання" распавяла пра адносіны паміж русалкай і чалавекам, паказала, што быць добрым можна навучыцца, і прымусіла задумацца: навошта мы вечна спяшаемся?

**Дзень чацвёрты. Планета непазбежнасці і планета смеху з Чэхавым**

Ці можна кранаць святое? Ці варта пераасэнсоўваць класіку? Каханне — гэта прымус? "Гамлет ці тры хлопчыкі і адна дзяўчынка" паставіў пытанне такім чынам, што проста адмахнуцца і зрабіць выгляд, што ўсё добра, немагчыма.

Французы па-французску лёгка закранулі тэмы экалогіі, культурнай спадчыны, агрэсіі ў сям'і, аб'ядналі ўсё, здавалася б, зусім непрыдатнай тэмай музеяў. І нягледзячы на тое, што зала заходзілася ад смеху, "Музеям" удалося закрануць нешта ў душы, што выліваецца ў пытанне-разважанне: што такое сапраўднае мастацтва?

А вось і адзначаны сімпатыямі гледачоў "Вечар з Чэхавым". Сабраная з агульнавядомых п'ес мазаіка дае шанс сустрэцца персанажам "Іванова", "Медведя", "Предложения", "Дяди Вани" і "Вишнёвого сада" за адным сталом, расказаць пра свае праблемы, падзяліцца радасцямі. Паспяваць рамансы, пасварыцца, пакахаць.

**Дзень пяты. Планета музыкі і танца супраць планеты кіно**

"Чыстае каханне" — гэта гісторыя паводле "Рамэа і Джульеты". Але ж яе робіць асаблівай тое, што расказваецца трагедыя мовай песні, пластыкі і жывой народнай музыкі. І нават калі сюжэт вас не цікавіць, варта хаця б паслухаць цудоўныя гукі філіпінскіх нацыянальных музычных інструментаў.

Далей зазірнём у стары кінатэатр "Ілюзіён", дзе сустракаюцца Скарлет О'Хара і Одры Хэпбэрн, а Чарлі Чаплін можа пакахаць звычайную дзяўчыну. І ніякае 3D не вынішчыць самога духу старога кіно, дзе захапленне шануецца больш за сучасныя тэхналогіі. "Ілюзіён" — гэта 100-хвілінная падарожжа ў мінулае, дзе можна сустрэцца з кумірамі і пасмяяцца са стэрэатыпаў.

# «У Асвенцыме мне не было страшна»

**Што прымушае людзей гаварыць пра жахі вайны, пра Халакост, пра смерць? Навошта прамаўляць уголас тое, пра што нават падумаць страшна? На гэтыя пытанні адказала Ганна СУЛІМА, рэжысёр тэатральнай лабараторыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта "ТэатральнЫ квадрат", якая прадстаўляла спектакль "Без назвы" ў спецыяльным праекце Куфра-2012 "Па кім звоніць звон…"**

## Як сабраць тэатр?

Ствараць тэатр я не збіралася, бо не было дзе. Але аднойчы я прыйшла ў гістарычную майстэрню, каб знайсці героя для свайго кароткаметражнага дакументальнага фільма. Там пазнаёмілася з дырэктарам Кузьмой Козакам. Майстэрня, дом мяне ўразілі — гэта тэрыторыя былога гета, у гэтым будынку насамрэч жылі яўрэі. І ў мяне адразу нарадзіліся асацыяцыі — людзі з чамаданамі, якія не проста ідуць, якія сыходзяць адсюль. Так з'явілася задума спектакля. Аднак да самой пастаноўкі было яшчэ далёка. Спачатку я з'ездзіла ў Асвенцым, і, што самае нечаканае, мне не было там страшна. Было толькі адчуванне, што там спыніўся час. У лагеры я здымала матэрыял для фільма, і толькі калі ён быў скончаны, узялася за спектакль.

## Тэатр, які вырас сам

Спачатку не было людзей для стварэння тэатра. Але потым нейкія сувязі, нейкія старыя знаёмствы, і людзі пачалі аднекуль з'яўляцца. Кузьма Іванавіч выкладае на гістфаку, і я аднойчы проста прыйшла туды, растлумачыла, што хачу зрабіць, і запрасіла студэнтаў. Прыйшло шмат людзей, якія на сцэне ніколі не былі. Увогуле, я адштурхоўваюся ад характару людзей, намагаюся раскрыць іх патэнцыял. Напрыклад, наш аркестр сабраўся выпадкова. Адзін з маіх акцёраў прывёў на рэпетыцыю хлопчыка "проста пасядзець" — яны з сябрамі збіраліся на рэпетыцыю. А я яму прапанавала застацца. І ён застаўся. Хлопцы пачалі іграць: спачатку на гітарах, потым з'явіліся барабаны, піяніна, гэтай вясной мы знайшлі скрыпачку.

Марына (дзяўчынка з чамадана) сустрэлася мне на майстар-класе па драмтэрапіі. Яна псіхолаг, валанцёр. Калі я паглядзела на яе, то падумала — чысты Асвенцым: яна вельмі худая і якраз перад нашай сустрэчай коратка падстрыглася. Адразу пасля майго запрашэння Марына прыйшла, і мы сталі працаваць.

У нас вельмі цікавыя людзі задзейнічаны ў пастаноўцы. На французскай мове гаворыць сапраўдная француженка, якая цяпер жыве ў Мінску. Ёсць хлопчык, які грае на ўсіх інструментах. А пачынаў вучыцца з нуля — на гармоніку. Яшчэ ў спектаклі заняты мой 10-гадовы сын. Тут столькі розных людзей, і пра кожнага можна расказваць гадзінамі, бо яны ўсе хоць і непрафесійныя акцёры, але вельмі таленавітыя.

*Ганна Суліма вучылася ў БДАМ на перакваліфікацыі "рэжысёр відэафільмаў". Першая адукацыя — рэжысёр абрадаў і свят. Потым паступіла ў БДУКІМ на тэатральную рэжысуру. Працавала тэатральным педагогам, рэжысёрам на тэлебачанні.*

## Нічога не бачу, нічога не чую

"Без назвы" мы паставілі год таму. Спектакль прыдумваўся на хаду, разам з усімі ўдзельнікамі. Спачатку мы не разумелі, што ў нас атрымаецца, але потым штосьці стала вымалёўвацца. Тое, што было напачатку, і тое, што на пляцоўцы цяпер — гэта вельмі розныя рэчы. Хачу падкрэсліць, што мы не ілюструем гісторыю. Гэта не сцэнарый — гэта інсцэніроўка. У нас няма ролі, сцэны — гэта сполахі ўспамінаў. Матэрыял для спектакля агульнадаступны — дакументы, кнігі. Я іграю чалавека, які "напітаўся" гэтай гісторыяй і ўзгадвае яе. Таму я то ўваходжу ў дзеянне, то выходжу. Я нібыта чытаю кнігу ці гляджу фільм і ўяўляю, што магла б быць там.

Я не хацела спектаклем сказаць "давайце гаварыць пра Халакост". Хацела пайсці шырэй — сказаць "не" гвалту. Бо гэты жах можа адбыцца з любым народам, і такога дапусціць нельга. Можна заплюшчыць вочы і сказаць "я не хачу пра гэта чуць", а можна гаварыць пра гэта. Я паспрабавала сказаць. Але ўсё перадаць немагчыма. Кожная гісторыя, кожны чалавек варты таго, каб загаварыць пра яго.

У ідэале глядач павінен быць уключаны ў дзеянне, умець расслабляцца. Бо не заўжды трэба штосьці разумець. Трэба адчуваць.

# Беларуская паэзія ў Сербіі

**Драган ЛАКІЧАВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**




Ад свяціцеля Кірылы Тураўскага, духоўнага пісьменніка і гімнографа XII стагоддзя, праз Францыска Скарыну, шматгранную творчую асобу пачатку XVI стагоддзя, да сучасных паэтаў — ляцяць стагоддзі, у якіх шматстайныя вершаваныя формы, гукі, малюнкі і думкі паэтаў Беларусі.

Шэсцьдзясят восем аўтараў выбраў прафесар Іван Чарота, каб разнапланава і шматколерна прадставіць сербскаму чытачу тэмы і матывы, выявы і краявіды, характэрныя для высокамастацкай беларускай паэзіі. На сербскай мове ўсю гэтую прыгажосць і музыку перадаў прафесар Міадраг Сібінавіч, высокакласны перакладчык паэзіі, асабліва лірыкі неабсяжнага славянскага ўсходу.

Вытокі паэтычнай творчасці беларусаў, з аднаго боку, — у хрысціянскай набожнасці, з другога, — у язычніцкай таямнічасці. Так, верш Сімяона Полацкага (XVII ст.) падобна да малітвы заклікае ўзысці на "карабель царквы", гэта значыць узняцца на адпаведны ўзровень веры і духоўнасці. Паэт даводзіць, што чалавек створаны паводле вобраза Божага — "не па існасці, а па благадатнай сіле". А гэтая благадатная сіла — Божае харaство, якое чалавек адкрывае ў сабе, калі спрабуе выказацца паэтычна.


*Іван Чарота прэзентуе анталогію беларускай паэзіі на сербскай мове.*

З XIX стагоддзя ў паэзіі беларусаў пачынае гучаць сацыяльная праблематыка. Паўлюк Багрым складае лірычна-рытарычную песню "Зайграй, зайграй, хлопча малы". У тыя ж часы Вінцэнт Каратынскі піша "Тугу на чужой старане". Беларусам, як і сербам, уласцівы трапяткія адносіны да роднага краю, да сваёй Бацькаўшчыны. І вось паэт у рамантычным ключы ўваскрашае вобраз мілай радзімы, ад якой ён адарваны. Малюнкі роднага краю, у шырэйшым і вузейшым значэннях — з усімі яго пахамі, колерамі, хвалюючымі паданнямі і казкамі — зберагаюцца ў душы лірычнага героя. Ён усведамляе, што прытулак і розум можна адшукаць дзе заўгодна, а вось шчасце — не.

Францішак Багушэвіч, падобна як Міхаіл Лермантаў, звяртаецца з элегічнымі думкамі да хмарак, увасаблення гнанасці. Яны, хмаркі нябесныя, — беспрытульныя, адвечныя вандроўнікі, якія ўсяму жывому даюць сілы, а самі прападаюць.

Пачатак XX стагоддзя ў беларускай літаратуры азначаны творчасцю класіка — Янкі Купалы. Дыяпазон тэм, якія прыцягвалі паэта, па-сапраўднаму шырокі: ад "жальбою маркоцячы песню сваю", каб "свет пазнаў усе песні бяздольніка" і вораг "дрыжаў з праўды слоў" (бо ў паэзіі праўда адгукаецца больш выразна і мацней узрушвае) да любоўных пачуццяў і насычаных філасофіяй апісанняў прыроды. У кожным дрэве: бярозе, явары, дубе, каліне — паэт адкрывае жыццё з яго сэнсам, аналагічным сэнсу жыцця чалавека. Поры года ў яго таксама перасцерагаюць і падтрымліваюць дух. Так, "скінуўшы зімнія чары", Купалавы явар і каліна пачынаюць новае жыццё. А дуб у вершы гэтага паэта самотна стаіць сярод вялізнага поля. Як і куст нашага Ваіслава *(Маецца на ўвазе шырокавядомы верш "Куст" сербскага паэта Ваіслава Іліча, 1862 — 1894. —* **Заўвага перакл.***)*, ён увасабляе памяць, вопыт, час, а разам з тым і знямогу, старэнне, у якіх мала ўжо прыгажосці.

"Вобразы мілыя роднага краю", г.зн. пейзаж і душу радзімы, адлюстроўвае зместам свайго твора і другі класік беларускай літаратуры — Якуб Колас. Праз цудоўныя спалучэнні памяці і асабістых перажыванняў, асаблівасцей мовы і версіфікацыі паэт стварае свайго роду рэканструкцыю спеву Радзімы, які злучае душу прыроды з душой чалавека. Сярод многіх надзвычай свежых, нібыта "вышытых" дзякуючы непаўторнаму майстэрству паэтычных карцін Коласа вылучаецца свайго роду раманс, прысвечаны ручаю. Тут усё жывое: у вобразе ручая на лоне прыроды паэт паказвае маладога хлопца. Верш разгортваецца ў некалькіх аспектах значэнняў. Колас звяртаецца да паэта, г.зн. да самога сябе, да краіны і да каханай — быццам бы да жанчыны, але на самой справе да ялінкі, "што пры лесе, як панна, стаіць".

На падставе гэтых твораў, з дапамогаю "лірычнай оптыкі", можна ўбачыць краіну Беларусь — прычым, яе краявіды не толькі знешнія, але і ўнутраныя, як, скажам, у вершы "Завіруха" Максіма Багдановіча. Шмат у чым адрозніваецца, а разам з тым і шмат роднаснага мае "Завіруха" Алеся Гаруна. Белую Русь пакрываюць таксама "іней" Алеся Разанава і "срэбра восеньскай травы" Алеся Пісьмянкова. Белая музыка, белае харaство — гэта і бяроза, і вежа, і хустка… Белая існасць afарбавала беларускую паэзію.

Параўнальна невялікі аб'ём у прадстаўленым зборы вершаў займае ўласна любоўная паэзія. Аднак творы гэтага кшталту лірыкі — на ўзроўні адкрыццяў. Напрыклад, у Сяргея Дзяргая, які выказаўся наступным чынам: "Слухаю твае вочы. Яны спяваюць".

І сама краіна Беларусь, і ўнутраная плынь яе паэзіі спецыфічна азначаецца Нёманам. Нёман займае асаблівае месца ў "Анталогіі", хоць і згадваецца ўсяго 2 — 3 разы, а непасрэдна яму прысвечаны толькі адзін верш. Між тым, гэта рака як геаграфічная, так і міфалагічная. І яна нясе паэтычную думку: ад вытоку да вусця, няспынна, без канца.

Сучасны класік беларускай паэзіі Максім Танк (я пазнаёміўся з ім, тады савецкім пісьменнікам, у Югаславіі — горад Струга, на Охрыдскім возеры, каля сарака гадоў таму) з міфа даўняга стварае новы, а гэта можа толькі сапраўдны паэт. Танальнасць, структуру яго паэтычнай манеры, а таксама філасофію — прынамсі, выкладзеную ў вершы "Я спытаў чалавека...", — тонка даносіць перакладчык, прафесар Міадраг Сібінавіч:

*Я спытаў чалавека,*
*Які прайшоў праз агонь,*
*І воды,*
*І медныя трубы:*
*— Что самае цяжкае*
*На гэтым свеце?*
*І ён адказаў:*
*— Прайсці праз вернасць.*

Віктар Шніп, Алесь Бадак, Анатоль Сыс — маладзейшыя паэты, якія падарожнічаюць праз вечнасць, прадстаўляючы сканцэнтраваныя сэнсы ў сканцэнтраванай форме. "Поле ў німбах сланечнікаў" і "Смутак апалага лісця" ўяўляюць сабою хрэстаматыйныя тэксты з элементамі і класікі, і сучаснасці ў арыгінальным спалучэнні.

Выдавец гэтай кнігі — нацыянальная ўстанова "Српска Кніжэўна Задруга", якая сёлета адзначае 120-ю гадавіну існавання, свой фірменны знак, яшчэ ў 1892 годзе намаляваны паэтам і доктарам Ёванам Ёванавічам Змаем, мае задавальненне паставіць на такой кнізе і такой паэтычнай матэрыі, створаны ў братняй славянскай краіне — Беларусі.

*Пераклад Ганны Навумавай*

**Даведка**

*Драган Лакічавіч — вядомы сербскі пісьменнік і дзеяч культуры, галоўны рэдактар выдавецтва "Српска књижевна задруга", якое выпусціла ў свет ужо другое выданне (1993 і 2012) "Анталогіі беларускай паэзіі". Прапанаваны тэкст — выступленне п. Лакічавіча на прэзентацыі (Нацыянальная бібліятэка Сербіі, 13 чэрвеня 2012 г.)*

## У будучы даведнік



**Варабей Алена Якаўлеўна** (сапр. Лебенбаўм; 5.6.1967, г. Брэст), расійская эстрадная артыстка і парадыстка. Прыз глядацкіх сімпатый на конкурсе акцёрскай песні імя А. Міронава (1991). Гран-пры, спецыяльны прыз 1-га канала і прыз глядацкіх сімпатый на Усерасійскім конкурсе "Ялта — Масква — Транзіт" (1993). Лаўрэат Усерасійскіх конкурсаў артыстаў эстрады ("Хіт-парад Астанкіна" (1995) і "Кубак гумару" (2002).

А. Варабей нарадзілася ў беднай сям'і. Вучылася ў музычным вучылішчы ў Брэсце. Скончыла Ленінградскі дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва і культуры (1988, клас І. Штокбанта). Са студэнцкіх гадоў пачала працаваць у Ленінградскім тэатры музычнай пароды "БУФФ". Здымаецца ў кіно. Сярод фільмаў: "Бакенбарды" (1990), "Афрамасквіч", "Аперацыя "Энікі-Бенікі" (абодва ў 2004), "Дванаццаць крэслаў", "Асцярожна, Задаў!", "Дыяменты для Джульеты", "Гэта ўсё кветачкі" (усе ў 2005), "Каралеўства крывых люстэркаў" (2007), "Марозка" (2010) і інш.



**Вольпін Міхаіл Давыдавіч** (28.12.1902, г. Магілёў — 21.07.1988), расійскі драматург, паэт і кінасцэнарыст. Дзіцячыя гады правёў у Маскве, захапляўся мастацтвам, браў урокі ў мастака В. Сурыкава. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне на баку савецкай улады. У 1920 — 1921 гг. працаваў у "Окнах РОСТА" пад кіраўніцтвам У. Маякоўскага ў якасці мастака і аўтара сатырычных тэкстаў. У 1921 — 1927 гг. вучыўся ў Вышэйшых мастацка-тэхнічных майстэрнях у Маскве, супрацоўнічаў з "Сіняй блузай", працаваў у часопісе "Крокодил". Пісаў сатырычныя вершы і камічныя п'есы. У суаўтарстве з В. Ціпотам для "Тэатра сатыры" стварыў агляд "Вечаровы выпуск" (1927). З гэтым жа аўтарам прыдумаў буфанаду "Каго скараціць?" (1928) для "Сіняй блузы". Разам з І. Ільфам і Я. Пятровым стварыў сцэнарый агляду "Перабудова на хаду", прызначаны для Маскоўскага тэатра сатыры, аднак агляд забараніла цэнзура (1932). Разам з М. Эрдманам і А. Д'Акцілем напісаў аднаактовую камедыю "Шмат шуму з цішыні" (1938), паводле якой была зроблена адна з праграм Л. Уцёсава. З Эрдманам была створана і ўцёсаўская праграма "Царэўна Несмяяна" (1940). У 1942 — 1945 гг. служыў у Ансамблі песні і пляскі пры цэнтральным клубе НКВД СССР. Аўтар прыпевак, якія ў рамане Ільфа і Пятрова "Залатое цяля" спявае Астап Бэндэр.

У пасляваенныя гады М. Вольпін прыйшоў на кінастудыю "Союзмультфильм", дзе ў 1948 г. быў зняты першы мультфільм паводле ягонага сцэнарыя — "Федзя Зайцаў". Сцэнарыі М. Вольпіна, паводле якіх былі знятыя мастацкія і мультыплікацыйныя фільмы, склалі цэлую эпоху ў кінематографе. Іх вылучае востры рэпрызны дыялог і ўчынкі на мяжы буфанады. Сярод фільмаў: "Волга-Волга" (1938), "Кубанскія казакі" (1949), "Гутаперчавы хлопчык" (1957), "Марозка" (1964), "Варвара-краса, доўгая каса" (1969), "Асліная скура" (1982). Апошнім фільмам М. Вольпіна была знятая ў 1986 г. "Казка пра закаханага маляра". Сцэнарыст мультфільмаў: "Калі запальваюцца ёлкі", "Казка пра рыбака і рыбку" (абодва 1950), "Царэўна-жабка" (1954), "Зачараваны хлопчык" паводле матываў казкі С. Лагерлёф "Чароўнае падарожжа Нільса з дзікімі гусямі" (1955), "Ключ" (1961), "Дзікія лебедзі" (1962), "Гісторыя аднаго злачынства" (1962), "Пастушка і камінар" (1965) і інш.

У 1933 быў арыштаваны і знаходзіўся ў лагерах да 1937 г. Пасля як раней сасланы не мог жыць у сталіцы і некаторых гарадах. Трагічна загінуў у аўтакатастрофе. Пахаваны на 27 участку Увядзенскіх могілак (Масква). Сябра Саюза пісьменнікаў СССР (1954). Лаўрэат Сталінскай прэміі другой ступені (1951) за сцэнарый фільма "Смелыя людзі" (1950, з Эрдманам).

**Аксана ЛУНІНЕЦ**

# Чамаданны настрой

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА, фота Віктара Масальскага**

**Выстаўка мастачкі Ірыны Дзёмінай “Чамадан”, што працуе ў Музеі гісторыі горада Мінска, парадуе не толькі аўтарскімі творамі, але і іх выявамі, адмыслова асэнсаванымі фотамайстрам Віктарам Масальскім.**

Мы сябруем шмат гадоў, таму звычайна яе арыгінальныя творы я бачу задоўга да таго, як яны зоймуць пачэсныя месцы на выставачных подыумах. Але гэтым разам Ірына загадкава паабяцала: “Абавязкова запрашу цябе на ўрачыстае адкрыццё”. Я не пыталася, чаму не ў майстэрню. А на вернісажы аказалася, што мастачка зрабіла сюрпрыз для ўсіх: цуд, створаны яе рукамі, мы, прыхільнікі таленту Ірыны, сябры і калегі, убачылі ўпершыню менавіта тут — на выстаўцы “Чамадан”. І ў чарговы раз парадаваліся ўменню І. Дзёмінай здзіўляць: мы бачылі яе сукенкі і карціны, сумкі і падушкі-чарапахі падчас персанальных выставак “Зямная душа” і “Іншае жыццё”, калектыўных рэспубліканскіх і міжнародных выставак, але такога не чакаў ніхто.

Сем чамаданаў розных памераў і формаў: белы, з фантастычнымі кветкамі; чорны, з якога вытыркаюцца пёркі чорна-белых крылаў (відаць, і анёлам не заўсёды зручна быць пры поўным парадзе), і пярэсты з адмысловым дзяржаннем-пытальнікам, дзе, верагодна, схавалі зебру — пра гэта сведчыць шорсткая чорна-белая грыва, заціснутая чамаданным вечкам… Са спражкамі, вырабленымі ў Афрыцы (набытымі падчас удзелу ў баварскай выстаўцы “Mut zum Hut”). Самы вялікі з іх меў свой сакрэт — раскрыты, ён ператвараўся ва ўтульную канапку, сфатаграфавацца на якой нібы магнітам цягнула не толькі маленькіх, але і дарослых наведвальнікаў выстаўкі. Сама энергетыка экспанатаў надзяліла прысутных тым асаблівым станам, калі, выпраўляючыся ў падарожжа, з трапятаннем сэрца чакаеш сустрэчы з цудам.

Музей гісторыі горада Мінска, што знаходзіцца ў гістарычным цэнтры сталіцы, настройвае наведвальнікаў на вызваленне ад звышхуткаснага рытму мегаполіса і найлепшым чынам адпавядае казачнарамантычнаму каларыту І. Дзёмінай. Шчыра прызнаюся, столькі жартаў і смеху не даводзілася чуць ні на адным вернісажы.

Дырэктар музея Галіна Ладзісава паведаміла: “Для нашай установы вельмі прыемна прадставіць выстаўку з лаканічнай і адначасова філасофскай назвай “Чамадан”. Яе ўрачыстае адкрыццё сабрала сяброў, калег мастачкі, прадстаўнікоў Беларускага саюза дызайнераў ды Беларускага саюза мастакоў, членам якіх з’яўляецца Ірына Дзёміна. У кожнага твора — свой сакрэт. Насамрэч гэтыя чамаданы аказаліся падушкамі для падлогі. Выстаўку ўпрыгожваюць і дапаўняюць фотаздымкі Віктара Масальскага, героямі якіх сталі творы Ірыны, а мадэллю — яе сын Герман”.

Чаму артаб’ектам стаў менавіта чамадан? Мастачка тлумачыць: “Чамадан — гэта дамок, які цягнеш з сабою. Я падарожнічаю. Не сыходзячы з месца. Не выходзячы з майстэрні. Напрамак нязменны: гэта Востраў Натуральнага Матэрыялу. Шмат гадоў я намагаюся яго абжыць. Пэўныя ўражанні ў мяне засталіся — у маіх скураных чамаданах”. Ірына ці не адзіная з нашага саюза дызайнераў, хто працуе з гэтым адначасова ўпартым і падатлівым матэрыялам.

Пра крэатыўнасць І. Дзёмінай і створаную ёю атмасферу лета казаў мастак Васіль Матусевіч. Дызайнер Уладзімір Голубеў падкрэсліў: “Сама выстаўка вельмі паказальная, яна ўдала спалучае работы Ірыны Дзёмінай і фота Віктара Масальскага. Наш час — час суаўтарства”.

Адчуць “чамаданны” настрой лета можна, завітаўшы ў Музей гісторыі горада гэтымі днямі. Выстаўка працуе да 15 ліпеня.



*Ірына Дзёміна з адной са сваіх работ.*

# Керамічныя фантазіі

**Дар’я ШОЦІК**

Выстаўку керамікі і графікі Уладзіміра Андрыянава наладзіла мінская галерэя “Беларт”. На вернісажы выступілі мастакі Аляксандр Зіменка, Валянціна Грыгарышына, Анатоль Отчык. Яны адзначылі, што Уладзімір Ільіч знайшоў сваю адметную вобразную мову, якая робіць яго творы пазнавальнымі.

Жыве і працуе У. Андрыянаў у Гомелі, скончыў Маскоўскі тэхналагічны інстытут, факультэт дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Яго выстаўкі праходзілі ў Беларусі, Германіі, Партугаліі, Польшчы, Расіі, Эстоніі ды іншых краінах. Творы У. Андрыянава знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Гомельскім гісторыка-краязнаўчым музеі, фондах Беларускага саюза мастакоў, у прыватных калекцыянераў многіх краін. Кожны яго керамічны твор адрозніваецца фактурай, выразнасцю формы і адлюстроўвае эмоцыі пэўных персанажаў.



*“Венецыя”.*

Прыкладам такія работы, як “Дама ў капелюшы”, “Легіянеры”, “Дэбют”, “Паэт і целаахоўнік”, “Дама з сабачкам”, “Рыбы. Захавальнікі сну”. У графічных творах мастака, прадстаўленых на выстаўцы, адлюстравана ўбачанае падчас вандровак па Беларусі, Германіі, Італіі і іншых краінах. Але ёсць і дзівосныя фантазіі: марсіянскія пейзажы, невядомыя планеты, касмічныя далягляды.



*“Рыбы. Захавальнікі сну”.*

# Персанальная — у Крупках

**Галія ФАТЫХАВА, фота Святланы Берасцень**

**“Малады, а ўжо майстар”, — так, напэўна, скажа кожны, хто знаёмы з творчасцю Уладзіслава Пятручыка. Яго работы ўражваюць прафесійнай упэўненасцю і тонкім творчым падыходам да беларускіх традыцый рэалістычнага пейзажу. Для старэйшых калег і педагогаў усцешна бачыць у ім таленавітага спадкаемцу нацыянальнай школы выяўленчага мастацтва.**

Уладзіслаў Пятручык вучыцца ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага мастацтва) і сваімі поспехамі пацвярджае: у творчым свеце ён асоба невыпадковая. У раннім дзяцінстве ляпіў розных жывёлін, выразаў фігуркі з паперы. Звярнуўшы ўвагу на сур’ёзнае стаўленне сына да гэтых заняткаў, бацькі (дарэчы, аматары жывапісу і заўзятыя калекцыянеры) аддалі яго ў студыю пры Саюзе архітэктараў. Пасля 9-га класа сярэдняй школы Уладзіслаў паступіў ў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава. Там яго першы настаўнік, вядомы далёка за межамі Беларусі мастак-рэаліст і выдатны педагог Мікалай Ісаёнак, заўважыў у хлопца яркі талент і падтрымаў на прафесійным шляху. Майстар і вучань аказаліся суседзямі — жывуць побач у Калодзішчах. Цяпер яны часта, узяўшы эцюднікі, разам выпраўляюцца ў навакольны лес і пішуць з натуры цудоўныя куточкі беларускай прыроды. Нярэдка выязджаюць і на пленэр у Чарневічы, што ў Барысаўскім раёне.

На сёлетняй персанальнай выстаўцы, якую наладзіў Крупскі краязнаўчы музей, Уладзіслаў Пятручык прадставіў выявы сваіх улюбёных мясцін. Гэта розныя куточкі Беларусі, у тым ліку маляўнічае наваколле возера Сялява, якое знаходзіцца менавіта на Крупшчыне.

Пазнаёміцца з творчасцю У. Пятручыка, дыпламанта спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, удзельніка міжнародных выставак і пленэраў, можна было гэтай вясною і ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі: яго пейзажы былі прадстаўленыя ў межах вялікай экспазіцыі сучаснага айчыннага жывапісу з прыватных збораў.

Не схільны да вонкавага выяўлення эмоцый, У. Пятручык свае пачуцці выказвае ў карцінах, угледаючыся ў якія, дзіву даешся, наколькі сталы і глыбокі яго ўнутраны свет. Можна не сумнявацца, што і новыя сустрэчы з творчасцю гэтага мастака парадуюць аматараў сур’ёзнага сучаснага жывапісу.



*“Лета скончылася”.*

# Спорт — зʼява жывапісная

Людміла НАЛІВАЙКА,
Наталля СЯЛІЦКАЯ

**Мэтанакіраванае развіццё тэмы спорту ў розных відах беларускага выяўленчага мастацтва пачалося ў савецкую эпоху. Мастацка-эстэтычныя прынцыпы вызначыліся яшчэ ў 1920-я гады, калі ад паняцця гарманічнага чалавека гэтак жа, як і ў Старажытнай Грэцыі, было неадʼемнае разуменне патрыятызму. Ідэйна-выхаваўчы складнік спорту звязваўся з задачай падрыхтоўкі фізічна развітага чалавека, “гатовага да абароны”. У пасляваенны перыяд і цягам наступных дзесяцігоддзяў рамантызацыя спартыўных дасягненняў у беларускім жывапісе разгортвала для мастакоў новыя межы, творчыя магчымасці ў адлюстраванні той масавай зʼявы, якой сталі спорт і фізічная культура.**

**У другой палове** XX стагоддзя ў БССР рэгулярна ладзіліся рэспубліканскія выстаўкі пад агульнай назвай “Фізічная культура і спорт у выяўленчым мастацтве”. Яны арганізоўваліся Міністэрствам культуры, Камітэтам па фізічнай культуры і спорце пры Савеце Міністраў БССР, Саюзам мастакоў БССР. У ліку арганізатараў быў і Дзяржаўны мастацкі музей БССР. Беларускія жывапісцы ўвасаблялі на палотнах не толькі заняткі алімпійскіх чэмпіёнаў. Іх захапляла ў спорце масавасць, праява імкнення нацыі да здаровага ладу жыцця. Таму дыяпазон сюжэтаў не перастае здзіўляць ды зачароўваць нас і сёння, хаця з часу стварэння іх мінула шмат спартыўных алімпіяд, чэмпіянатаў ды іншых гістарычных падзей. У лепшых творах адлюстраваліся і стылёвыя адметнасці таго ці іншага мастацкага перыяду.

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі больш як за паўстагоддзя спакваля склалася сапраўдная тэматычная калекцыя айчыннага жывапісу 1940-х — пачатку 1990-х гадоў спартыўнай тэматыкі. Залаты фонд папаўняўся творамі Ф. Бараноўскага, Н. Воранава, І. Грыгаровіча, Л. Дударэнкі, Б. Казакова, А. Кішчанкі, Я. Красоўскага, В. Кубарава, У. Новака, М. Селешчука ды іншых майстроў.

І гэтая калекцыя пачынаецца з эскіза Анатоля Волкава “Міжнародныя спаборніцтвы канькабежцаў” (1940). Аўтар прапануе стыль рэпартажнасці, нібы звяртаючыся да гледача: “Глядзіце, зараз мы ўбачым, хто пераможца!” І здаецца, нават балельшчыкі ў гэтым сюжэце перапаўняюцца хваляваннем ад відовішча, ушчыльную падыходзячы да лёдавых дарожак. Спаборніцтвы адбываюцца ў старым парку, пазначаным высокімі абрысамі дрэў і скругленымі лініямі спартыўнага поля.

Выклікае цікавасць і карціна “Шахматысты” (1951) Адольфа Гугеля, якая зʼяўляецца на сёння прыкладам традыцыйнага напрамку мастацтва сацыялістычнага рэалізму 1950-х гадоў. На добра вядомых рэаліях сваёй біяграфіі аўтар дэманструе тонкае адчуванне роднага дому ў пасляваенную эпоху.

Тэма ветразевага спорту ўвасобілася ў творах Яўгена Красоўскага “Спаборніцтва яхт” (1956) і Міхаіла Блішча “Вечар. Ля прычала” (пачатак 1960-х). Як асобны куток чыстай прыгажосці ўвасобіў сваю мастацкую ідэю Вячаслаў Кубараў у пейзажы “Мінскае мора” (1979), дзе каляровыя трохкутнікі ветразяў складаюць сапраўднае жывапіснае пано, часткі якога прыгожа адбіваюцца ў вадзе.

“Хакеісты” (1962) Уладзіміра Пасюкевіча — частка гістарычнага летапісу жыцця спартыўнай эліты, калі каманды хакеістаў выходзілі на лёд гарадскога парку ў цэнтры Мінска.

Рытмы гарадскога жыцця і магутныя комплексы ўрбаністычнага ландшафту ў творы Сяргея Каткова “Гарадскі краявід” (1967) напоўнены бадзёрым настроем, духам спартыўных заняткаў. У прыватнасці, на першым плане мастак паказаў папулярную гульню моладзі — дваровы хакей. Карціна зачароўвае майстэрствам валодання фарбамі ў перадачы дэталяў зімовага гарадскога асяроддзя.

У творах Фёдара Бараноўскага “Юнацтва” (1970) і “Лыжніцы” (1971) відавочная задача як мага паўней паказаць маральнае і духоўнае здароўе нацыі. Аўтар імкнецца наблізіць сваіх герояў да ідэалаў прыгажосці, кампануючы фігуры на фоне воднага дагляду альбо ўзвышаючы да нябёсаў. Узнёслы настрой дасягаецца не толькі праз асаблівасці аблічча жанчын, але і праз дынамічнасць контураў фігур, гучнасць колеравых акцэнтаў.

Угледзячыся ў карціну Гаўрылы Вашчанкі “Юнацтва” (1971), можна зразумець, што аўтар меў на мэце знайсці патрэбны імпульс для выяўлення градацый нябеснага святла, а ў самім сюжэце паказаць захопленасць барацьбой за аваладанне мячом як сімвалам перамогі.

Паэтычныя асацыяцыі Віктара Вярсоцкага, аўтара манументальнага пейзажа “Дарогі Міншчыны” (1971), сталіся асновай для пертварэння іх у гармонію колеравых абагульненняў, якія склалі своеасаблівую архітэктоніку з вертыкальнага шлейфа вялікай дарогі ў нябесную далячынь і з усплёскаў маляўнічых вясёлак на магутнай плоскасці зямлі.

**Зʼяўленне карціны** Уладзіміра Новака “На трэніроўцы” (1972) сведчыла пра пачатак сапраўднага “зорнага часу” ў творчай біяграфіі мастака, які адным з першых у нашым мастацтве пачаў асвойваць і распрацоўваць тэму фізічнай культуры і спорту. На рэальнай сюжэтнай аснове аўтар стварыў мастацкі вобраз самога паняцця спорту, дзе галоўнымі рысамі герояў карціны становяцца годнасць і артыстызм. У творчую скарбонку Уладзіміра Новака ўваходзяць такія жывапісныя серыі, як “Ветразевы спорт”, “Футбалісты”, “Хакеісты”, “Гімнасткі” ды іншыя.



*Міхаіл Блішч “Вечар. Ля прычала” (пачатак 1960-х).*

Складаны момант гульні дзвюх каманд “спыніў” Ігар Уласаў у шматфігурнай кампазіцыі “Падрыхтавацца Волкаву! На зборах” (1976). Аўтар зафіксаваў парадокс паражэння і перамогі. Увагу прыцягвае эфект барацьбы, што дасягаецца дзякуючы матэматычнай вывераннасці прасторы і абʼёму выявы, а нізкая кропка бачання падзеі на пляцоўцы толькі ўзмацняе ўвагу да спартыўнай сутычкі, надае выразнасць моманту.

Карціна Міколы Селешчука “Скачок” (1978) мела вызначальнае значэнне ў мастацкай дзейнасці мастака. Твор стаўся першай дэманстрацыяй асабістых адносін аўтара да рэвалюцыйных сродкаў выразнасці пачатку XX ст. — кубізму, супрэматызму, прадстаўнікоў “УНОВИСа” (“сцвярджальнікаў новага мастацтва”). Драматычны эмацыянальны лад кампазіцыйнай пабудовы ў спалучэнні з дэкаратыўнай экспрэсіяй каларыту і натурнай перакананаўчасцю не пазбаўляў “Скачок” рамантычнай узнёсласці, якую набывала творчасць М. Селешчука. Можна сцвярджаць, што раней у беларускім мастацтве не зʼяўляўся твор, падобны да смелага “Скачка”, у якім прадстаўлена мадэль новага творчага асэнсавання свету — з сучаснай тэматыкай, абагульненасцю форм, экспрэсіўнасцю малюнка, дынамізмам кампазіцыі і кантрасна-колеравымі спалучэннямі.

Стылем “стоп-кадра” скарыстаўся Барыс Казакоў, люструючы перахват мяча ў кампазіцыі “Атака” (1979). Пры дапамозе святла гэты востры дынамічны момант спаборніцтва трактуецца аўтарам не толькі як спорт-гульня, але і як спорт-барацьба за першынство ў сваёй лізе. У творы Мікалая Казакевіча “Над роднымі прасторамі” (1979) фігуры юнакоў нагадваюць птушак, якія лунаюць у небе. Увесь твор прасякнуты сканцэнтраванай энергіяй маладосці. Прыроднае асяроддзе нібыта паўтарае ўзнёслы настрой герояў карціны.

“Вольны палёт” (1979) Аляксандра Кішчанкі ўспрымаецца як расповед пра агульную гармонію свету. У гэтым творы мастак карыстаўся стылістычнымі прыёмамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Кампазіцыя настройвае на зʼяўленне цуду з вышыні нябёсаў: мы нібы сочым за ім, угледзячыся ў фігуру дэльтапланерыста, які, лунаючы, паступова апускаецца на зямлю. Прыцягненне роднага дома сімвалізуюць постаці дзвюх ярка апранутых жанчын.

Пафас новай рэальнасці, калі рэспубліканскія спаборніцтвы сталі народным святам, знайшоў адлюстраванне ў творы Валянціна Ціханаўца “Спаборніцтвы ў Ратамцы” (1983). Паэтызацыя падзеі падкрэсліваецца шырокім ахопам прасторы стадыёна з выявою шматлікіх эпізодаў падрыхтоўкі спаборніцтваў: вывад коней на пляц, збор трэнераў і г.д.

**Гледзячы** на творы спартыўнай тэматыкі, над якімі беларускія мастакі працавалі ў розныя перыяды мінулага стагоддзя, міжволі адчуваеш напал спартыўных падзей тых гадоў, масавасць фізкультурнага руху: нібы сама эпоха размаўляе з намі мовою спорту. Іх аўтары пастаянна імкнуліся да пазнання новага, незвычайнага ў сферы спорту, фізічнай культуры. Гэта — гісторыя. Але ж гуманістычная місія спорту — актуальная рэальнасць і сёння. Яна ўяўляе, паводле слоў паэта Роберта Раждественскага, “цудоўны сюжэт для мастацтва”. А таму і наш час, багаты на буйныя сусветныя спартыўныя формы, у якіх бяруць удзел беларускія спартсмены, а таксама спартыўнае жыццё ў Беларусі заклікаюць да творчасці спадкаемцаў гэтай адметнай галіны тэматычнага жывапісу. Сярод такіх мастакоў — Уладзімір Новак, Уладзімір Тоўсцік, Віктар Нямцоў, Віктар Альшэўскі, Уладзімір Зінкевіч, Мікола Апіёк, Леанід Дударанка, Рыгор Таболіч, Аляксандр Ксяндзоў. Можна не сумнявацца, што кожны новы твор, напісаны ад сэрца, з захапленнем, будзе заўважным унёскам у сучасны жывапіс Беларусі.



*Мікалай Казакевіч “Над роднымі прасторамі” (1979).*



*Уладзімір Новак “На трэніроўцы” (1972).*

# Колеры шчаслівага дзяцінства

**Святлана ШВАЙБОВІЧ,
фота Ірыны Ністратавай
і Андрэя Чупіна**

**“Усе мы родам з дзяцінства” — гэтыя вядомыя радкі маглі б стаць своеасаблівым эпіграфам да выстаўкі “Якога колеру дзяцінства?”, што сабрала ў галерэі “З’ява” Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева шмат зацікаўленых гледачоў.**

Дзяцінства... Чароўная краіна! Успаміны з нашага маленства расфарбаваны ў самыя розныя колеры: непрадказальна-гарэзлівыя і лагодныя, пяшчотна-ўтульныя і ласкавыя. Успаміны пра шчаслівыя хвіліны радасці і дзіцячыя прыгоды спадарыня памяць надзейна хавае ў сваіх куфрах і зберагае праз усё нашае жыццё. Калі трапляеш у залу, адразу адчуваеш, як цябе ахутваюць шматкаляровыя хвалі... Хвалі твайго Дзяцінства!



*Фотапартрэт “Сафійка”.*

І першае, што вылучае вока з усяго імклівага карагоду, — безумоўна, цацкі! Дакладней, сапраўдныя цацачныя гісторыі, якую кожная з лялек-“цільдаў” можа распавесці вам, адкрыўшы таямніцу свайго нараджэння і найцікавейшага падарожжа па краіне маленства. Майстар, што дае жыццё лялькам, — Таццяна Дземідзенка. Вядомы ў горадзе цырульнік увесь свой вольны час прысвячае стварэнню інтэр’ерных лялек да іншых цікавых рэчаў з тэкстылю. Паводле Таццяны, гэта вельмі хвалюючая, захапляльная, нават у пэўным сэнсе сакральная падзея, калі назіраеш, як з розных лапікаў тканіны нараджаецца лялька, якая мае свой вобраз, характар, гісторыю.

Арганічна ўвайшла ў экспазіцыю выстаўкі фотагалерэя юных барысаўчан, якую прадставілі фатографы Ірына Ністратава і Андрэй Чупін. Ірына па першай адукацыі педагог, і менавіта гэта дапамагае ёй з лёгкасцю імправізаваць з дзіцячымі вобразамі. Андрэй жа падыходзіць да пастаўленай задачы па-мужчынску — стрымана і грунтоўна. Магчыма, такі гарманічны саюз і дае падставу гледачу атрымліваць сапраўдную асалоду ад прагляду твораў.

Даўні сябар галерэі “З’ява” — аматарская студыя вышыўкі “Чароўны крыжык” — уразіла гледачоў сваімі новымі творамі. Цяпер студыя аб’ядноўвае больш як 100 творцаў. Галоўнае прызначэнне суполкі — абмен вопытам і майстэрствам. Кіраўнік “Чароўнага крыжыка” — Таццяна Няжданава. Дзякуючы яе руплівасці студыйцы — заўсёдныя ўдзельнікі гарадскіх, абласных ды рэспубліканскіх выставак. Пачуццё замілавання выклікаюць творы “Ружовыя сны” (аўтар Таццяна Плавінская), “Пяшчотныя абдымкі” і “Старэйшая сястра” (Таццяна Няжданава), “Горны пейзаж” (Наталля Чудакова), “Лілія” (Ірына Васіленка), “Вадаспад” (Ларыса Белая). А колькі часу і душы аддалі майстрыхі, каб з’явіліся гэтыя творы! Немагчыма пакінуць без увагі вышытыя карціны “Ягаднае асарці” (Алена Шмэт) і “Букет” (Ганна Бобень), створаныя з выкарыстаннем тэхнікі 3D, якая вельмі дэталёва перадае наваколле, таму рука сама цягнецца да смачнай духмянай маліны ды трапяткіх макаў.

Як немагчыма забыцца пра вобразы, якія нясём у сабе з маленства, так немагчыма і насамрэч вярнуцца ў далёкую краіну — Дзяцінства. Адметнасць выстаўкі “Якога колеру дзяцінства?” менавіта ў тым, што дзякуючы ёй можна атрымаць візу ў такое жаданае падарожжа, хай сабе і ндоўгатэрміновую.

*З глыбінкі*

## Запрашаем у Смаленск

У Аршанскай гарадской мастацкай галерэі прадстаўлена больш як 180 выкананых у розных жанрах работ вучняў Смаленскай дзіцячай мастацкай школы імя Марыі Цянішчавай. Выстаўка адбылася дзякуючы ініцыятыве і падтрымцы аршанскага мастака Мікалая Таранды, які наладзіў супрацоўніцтва паміж творчымі школамі Оршы і Смаленска. Выступаючы на адкрыцці выстаўкі, Мікалай Іванавіч звярнуў увагу на надзвычай высокі ўзровень дзіцячых работ: “Нашым вучням і выкладчыкам ёсць чаму павучыцца ў калег са Смаленска”.

Сапраўды, кожная карціна, скульптура, дробны выраб адрозніваецца мастацкім густам, майстэрствам выканання і яркай фантазіяй юных аўтараў. Наведвальнікі ацэньваюць разнастайнасць сюжэтаў і форм, захапляюцца пластыкай і вытанчанасцю, маляўнічасцю і індывідуальнасцю. Бацік, геаметрычная разьба па дрэве, скульптура з пластыліну, пенабетону, гуаш, акварэль, вугаль, графіка, аплікацыя — юным майстрам падуладныя любыя тэхнікі!

Многія творы адлюстроўваюць нацыянальную культуру рускага народа, яго традыцыі і паданні. Здзейсніць вандроўку ў старажытны і незвычайна сучасны Смаленск, дакрануцца да яго святынь дапамаглі аршанцам работы юных мастакоў.

**Марына СЯМАШКА,
Орша — Смаленск**

*Спаконвечнае*

# Лёгкага хлеба не бывае

**Сцепаніда Аляксандраўна купленага хлеба не прызнае, хоць ён і свежы, і смачны. Спечаны сваімі рукамі — зусім іншая справа. Хлеб не толькі мацуе сілы фізічныя, але і сілкуе духоўныя. Летась Сцепаніда Лупач была ўзнагароджана Дыпломам І ступені “За захаванне традыцый народнай кухні”. Гэта чарговая яе ўзнагарода за Хлеб, які ніколі не бывае лёгкім.**

**Кацярына МАЛЕЙ,
фота аўтара**

Жыццё Сцепаніды Аляксандраўны — прыклад сумлення, працавітасці, духоўнай трываласці чалавека, які прысвяціў сябе Богу і людзям.

Бабуля Сцеша, так паважліва-ласкава называюць яе ў вёсцы, ніколі не думала, што стане галоўным арганізатарам будаўніцтва царквы ў Дзеркаўшчыне Глыбоцкага раёна. А было ёй тады ўжо 65 гадоў. Жанчына збірала грошы, клапацілася пра будаўнічыя матэрыялы, дамаўлялася з рабочымі, набывала іконы, добраўпарадкоўвала тэрыторыю. Сцепаніда Аляксандраўна ўпэўнена, што з Божай дапамогай можна ажыццявіць любыя планы і прайсці праз самыя складаныя выпрабаванні. Амаль тры гады таму ў царкве Велікамучаніка і Лекара Панцеляймона адбыўся першы малебен. Для маёй гераіні гэта было сапраўднае свята. Цяпер, дзякуючы намаганням Сцепаніды Аляксандраўны, дзеці маюць магчымасць наведваць заняткі па багаслоўі, а на Вялікдзень вернікі ў царкве дзеляцца адзін з адным хлебам-артасам, які С. Лупач пячэ сама.

Сцепанідзе Аляксандраўне на ўсё стае часу: яна і гаспадыня спраўная, і ўдзельніца розных конкурсаў і мерапрыемстваў. Яе творчая скарбонка поўніцца граматамі, дыпломамі, каштоўнымі падарункамі. Для бабулі Сцешы выпечка хлеба — урачысты рытуал з захаваннем элементаў народных традыцый. За яго прыгатаванне Сцепаніды Аляксандраўна не бярэцца ў дрэнным настроі. Перш чым пячы хлеб, падмятае под у печы. А сам працэс пачынаецца з закваскі. Для гэтага трэба засыпаць муку ў цаджолак, перамяшаць з вадой так, каб не было камячкоў, і паставіць на дзве гадзіны ў разагрэтую печ, каб сумесь “упрэла”. Затым выліць кваснік у дзежку, пад якую падкладзена адзенне, — “каб хлебу было цёпла і каб ён быў пышны”, закрыць і пакінуць на два-тры дні. Закваска лічыцца гатовай, калі яе колер мяняецца з рудога на жоўты.



*Сцепаніда Лупач са свежаспечаным хлебам.*

У гатовую закваску дасыпаць мукі, размяшаць — так робіцца рошчына. Можна дасыпаць кмену, солі, цукру. Рошчына павінна ўкіснуць і апасці, а “не хадзіць і не брадзіць”. Гатовае цеста рыхлае, да рук не прыліпае. Хлеб можна пячы на аеры, кляновых ці дубовых лістах. Раскласці па формачках, заглядзіць, паставіць на першым бохане крыжык. Каб ведаць, калі хлеб спячэцца, трэба кінуць камячок цеста ў ваду і глядзець, калі той падымецца на паверхню. Гатовы хлеб стукаюць — добра прапечаны звініць, як бубен, — змазваюць вадой, каб была мяккай скарынка, і пакідаюць астываць.

## Чалавек на сваім месцы

У народзе гэтак кажуць: “Уся чалавечая мудрасць захоўваецца ў кнігах, а кнігі — у бібліятэках”. Але сёння бібліятэкі не проста кніжныя сховішчы. Яны садзейнічаюць адраджэнню нацыянальнай культуры, захаванню гістарычнай і культурнай спадчыны. Безумоўна, усё гэта — місія бібліятэкараў, сярод якіх такія энтузіясты, як загадчыца Дубровенскай дзіцячай раённай бібліятэкі Валянціна Усцінава, сёлета занесеная на раённую Дошку гонару.

Фантазія і актыўнасць Валянціны Віктараўны праяўляюцца літаральна ва ўсім. Гэта датычыць і інтэр’ера бібліятэкі, якая проста “расцвітае” на вачах у чытачоў (і абанемент, і чытальная зала — у кветках), і арганізацыі працы калектыву. Шмат увагі Валянціна Віктараўна надае падрыхтоўцы і правядзенню масавых мерапрыемстваў, кожнае з якіх становіцца сапраўдным святам. Акрамя гэтага В. Усцінава з’яўляецца кіраўніком узорнага тэатра лялек “Керамок” пры раённым Доме культуры.

У 2005 годзе бібліятэка была названа лепшай дзіцячай бібліятэкай вобласці. Праз год яе калектыў патрапіў на раённую Дошку гонару. У 2008 годзе бібліятэка перамагла ў абласным конкурсе “Інавацыі ў рабоце бібліятэк”, а сама Валянціна Віктараўна атрымала дыплом як аўтар праекта “Сем цудаў Дубровеншчыны”.

**Вікторыя АЛЯКСАНДРАВА,
г. Дуброўна**

*Афарызм*

*Буду пець, бо люблю свайго краю паляны.*

**Янка КУПАЛА**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by





Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 2700 рублёў

Наклад — 2753
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк
12.07.2012 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне
№ 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 3004

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12